Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 15 (4610) 15 красавіка 2011 г.

## Заява Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі

Саюз пісьменнікаў Беларусі з гневам асуджае бесчалавечны акт — тэрарыстычны выбух у метро г. Мінска. Пісьменнікі, як ніхто іншы, ведаюць цану чалавечаму жыццю, бачаць розніцу паміж гуманізмам і звярыным аблічкам бандытаў, якія імкнуцца сваімі дзеяннямі парушыць спакой і стабільнасць у нашым грамадстве. Мы звяртаемся да ўсіх творчых арганізацый, усяго народа Беларусі асудзіць дзеянні нелюдзяў і ўсяляк садзейнічаць раскрыццю гэтага дзікага злачынства. Мы падтрымліваем крокі ўлад па абмежаванні дзейнасці некаторых сайтаў у Інтэрнэце, якія заклікаюць людзей да гвалтоўных дзеянняў у адносінах да органаў улады і грамадства, дапускаюць экстрэмісцкія праявы, мэтай якіх з'яўляецца дэстабілізацыя грамадскага парадку і стабільнасці. Саюз пісьменнікаў Беларусі рашуча асуджае дзеянні падобных асоб, так званых апазіцыянераў, як Яўген Ліпковіч, які выкарыстоўвае фашысцкія метады, заклікае да спальвання ў грамадскіх месцах кніг, так або інакш садзейнічае тым адмоўным сілам, чые дзеянні накіраваны супраць народа Беларусі і яго ўлады. Адначасова мы звяртаемся да ўсіх тых, хто лічыць сябе апазіцыяй, праявіць цвярозасць і спыніць спрыянне тым сілам унутры краіны і за мяжой, якія выношваюць і ажыццяўляюць планы па парушэнні спакою і парадку ў нашай краіне, жадаюць ператварыць Беларусь у новы ачаг напружанасці ў Еўропе. Мы ўпэўнены, што ніякім ворагам і іх памагатым не ўдасца ўбіць клін паміж народам і ўладай, парушыць адзінства грамадства і нанесці шкоду палітычным і эканамічным інтарэсам нашай Беларусі.

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

## *Наш боль*

*Бяда прыйшла няклікана, нязвана,*
*І зноўку сэрцу кожнаму баліць.*
*Яшчэ ў душы чарнобыльская рана*
*І сёння, незагойная, смыліць.*

*І красавік — халодны і прадзьмуты*
*Наскрозь адчаю скрушным скразняком.*
*І множацца балесныя пакуты.*
*І ў горле зноўку стыне даўкі ком.*

*І чорны колер ляжа ўсцяж на квецень,*
*І ўспыхне дзень крываваю зарой.*
*Загінулі дарослыя і дзеці*
*Пад зводамі халоднымі метро.*

*Ды род людскі — не чалавечы статак.*
*Нас не спалошыць згубы зык чужы.*
*Успыхне гнеўнай годнасці пачатак.*
*Мы выстаім у смерці на мяжы.*

Мікола МЯТЛІЦКІ
12.04.2011 г.



*Фота БелТА*

**Станцыя метро Кастрычніцкая. Выбух. А з ім — гора і слёзы. "Тыя, хто гэта зрабіў, — гэта нелюдзі", — у адзін голас кажуць беларусы. Мы смуткуем па загінуўшых і не разумеем: чаму, навошта? Выбух, які змяніў светаадчуванне, падзяліў жыццё на "да" і "пасля". Тыя, хто гэта зрабіў, павінны панесці пакаранне. Мы павінны аб'яднацца і вытрымаць гэта выпрабаванне. І памятаць, што беларусы — народ мірны. Але непакорны. Народ, які, як сведчыць наша гісторыя, можа пастаяць за сябе.**

# Кара спасцігне злачынцаў. Мінск і надалей будзе сімвалам гонару і годнасці

**12 чалавек, што загінулі ў панядзелак у мінскім метро, сталі блізкімі людзьмі не толькі для жыхароў нашай краіны. Бядзе спачувае ўвесь цывілізаваны свет. Невыпадковымі ў званках, тэлеграмах Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку падаюцца словы, сказаныя кіраўніком Казахстана Нурсултанам Назарбаевым: "…Прашу перадаць словы падтрымкі ўсім пацярпелым".**

Звяртаючыся да суайчыннікаў, старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоль Рубінаў, старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзімір Андрэйчанка зазначылі: "Мы расцэньваем гэтае жудаснае злачынства як замах на вышэйшыя каштоўнасці — жыццё, здароўе і годнасць чалавека, як спробу расхістаць прававыя асновы беларускай дзяржавы, пасеяць паніку, страх і недавер у грамадстве.

Гэтая трагічная падзея яшчэ раз пераконвае нас у неабходнасці аб'яднання намаганняў дзяржавы, грамадства, усіх грамадзян у імя забеспячэння міру, згоды і бяспекі.

Мы перакананы, што нікому не ўдасца дэстабілізаваць сітуацыю ў краіне, запалохаць народ Беларусі і прымусіць яго звярнуць з выбранага шляху. Арганізатарам і выканаўцам гэтага цынічнага і жорсткага злачынства не пазбегнуць справядлівай адплаты".

Кара спасцігне злачынцаў, але сапраўды дзеля гэтага і дзеля таго, каб нешта падобнае не паўтарылася, патрэбны кансалідацыя, спакой, разуменне, што і сёння, і заўтра ў выпрабаваннях і ў цішы звычайных паўсядзённых клопатаў мы павінны заставацца людзьмі з вялікай літары, вылучаць часам у няпростых стасунках і спрэчках жаданне паразумецца, з павагай паставіцца да агульнаграмадскіх інтарэсаў, а ўзнікне патрэба — дык і ахвяраваць прыватнымі інтарэсамі.

У адных шэрагах з народам Беларусі сёння і тыя, хто знаходзіцца далёка за межамі нашай краіны, каго з культурай, літаратурай рэспублікі звязваюць добрыя сяброўскія стасункі на працягу многіх гадоў. Адгукнуліся і пісьменнікі, якіх Міністэрства інфармацыі нашай краіны, Саюз пісьменнікаў Беларусі, РВУ "Літаратура і Мастацтва" ў розныя гады запрашалі да ўдзелу ў Міжнародным "круглым стале" "Мастацкая літаратура як шлях адзін да аднаго", што зазвычай праходзіць у рамках Дня беларускага пісьменства. Паэт, перакладчык з Чарнагорыі Слабадан Вуканавіч піша: "Мяне глыбока ўзрушыла бяда, якая здарылася ў метро ў Мінску. Няўжо знайшоўся монстр, здольны шкодзіць такому цудоўнаму і мірнаму народу? Беларусы былі ўвасабленнем мужнасці і годнасці, народам, які ўмее любіць і паважаць сапраўдных сяброў. Я ўпэўнены, што кара спасцігне тых, хто ўчыніў такое злачынства. Вечная памяць загінуўшым. Наша шчырае брацкае спачуванне іх сем'ям. А я веру, што Мінск і надалей будзе сімвалам годнасці і мужнасці. Сардэчнае прывітанне гараджанам майго Мінска, грамадзянам маёй Беларусі". Адзін з буйнейшых сучасных празаікаў, дзіцячых пісьменнікаў Туркменістана Агагельды Аланазараў (кнігі яго двойчы выходзілі і ў Мінску), пачуўшы пра тэракт у Беларусі, выказаў спадзяванне, "што вінаватых пакараюць!". Прыйшла тэлеграма і з Іжэўска ад народнага пісьменніка Удмурціі Вячаслава Ар-Сяргі: "…Асколкі подлага выбуху ў мінскім метро даляцелі і да нас, балюча ранячы душу. Спачуваем, раздзяляем боль вашых страт. Запальваем памінальныя свечкі памяці…" Ато Хамдам, народны паэт Таджыкістана, Мумін Канаат, доктар філалагічных навук Абдувалі Даўронаў (Душанбэ), народныя паэты Татарстана Роберт Мінулін, Рэнат Харыс (Казань), пісьменнікі з Казахстана Любоў Шашкова, Валерый Міхайлаў, Святлана Ананьева, Слабадан Гаўрыловіч (Сербія) — усе яны адчулі нашу трывогу і наш боль як свае ўласныя.

Беларусь не адна ў свеце. Маючы гонар і годнасць, мы застаёмся краінай і народам, адкрытымі для свету і здольнымі абараніць сябе ад самых няпростых праяў подласці і злачынстваў. Трагедыя ў мінскім метро павінна загартаваць наша грамадства, вылучыць наперад галоўныя каштоўнасці і клопаты, акрэсліць пазіцыю кожнага з тых, хто дбае пра стабільнасць, развіццё краіны.

## Пункціры

Патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Кірыл выказаў спачуванні Прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку ў сувязі з гібеллю людзей у выніку выбуху ў мінскім метро. "Горкая страта не можа не нагадваць усім нам пра тое, як важна прыкладаць дзейсныя намаганні, каб не дапусціць распаўсюджвання ў чалавечым грамадстве ідэалогіі насілля, нянавісці і варожасці", — гаворыцца ў спачуванні.

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх Усяе Беларусі ад імя Беларускай Праваслаўнай Царквы выказаў глыбокія спачуванні родным і блізкім пацярпелых і заклікаў вернікаў да малітвы. 12 красавіка а 12-й гадзіне ў Мінскім Свята-Духавым кафедральным саборы адбыўся малебен аб здароўі пацярпелых у выніку тэракта, а затым прайшла паніхіда па бязвінна забітых.

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, выказаў свае спачуванні сем'ям загінуўшых і пацярпелых. "З хрысціянскага і агульначалавечага пункта гледжання кожны, у тым ліку і гэты, тэрарыстычны акт, які я глыбока асуджаю, недапушчальны і ніякім чынам не можа быць апраўданы, — выказаўся іерарх Рымскай Каталіцкай Царквы. — Насілле не вырашае праблем і не прыносіць шчасця..."

Прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў і прэм'ер-міністр Уладзімір Пуцін выказалі самыя глыбокія спачуванні Прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку і завярылі, што Беларусь можа разлічваць на любое садзейнічанне з боку Расіі як у вядзенні следства, так і ў аказанні медыцынскай дапамогі пацярпелым.

Грамадскі савет па маральнасці ў Беларусі, які ўзначальвае Мікалай Чаргінец, выступіў са зваротам да беларускага народа ў сувязі з трагічнымі падзеямі 11 красавіка. Савет выказвае шчырае спачуванне родным і блізкім загінуўшых, пацярпелым і ўсяму беларускаму народу. І разам з тым заклікае ў гэтыя няпростыя дні праявіць вытрымку. "Мы упэўнены, — гаворыцца ў звароце, — якія б мэты не ставілі перад сабой тэрарысты, яны іх не дасягнуць. І нам трэба прыкласці ўсе намаганні, каб нішто не азмрочвала мірнага жыцця і стваральнай працы людзей".

Кіраўніку беларускай дзяржавы Аляксандру Лукашэнку выказаў спачуванні Прэзідэнт Азербайджанскай Рэспублікі Ільхам Аліеў. "Мы рашуча асуджаем тэрарызм ва ўсіх яго формах і праявах", — выказаў ён.

Старшыня Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Меўлют Чавушоглу выказаў спачуванні ў сувязі з тэрактам у Мінску. "Выбух, які забраў жыцці 12 чалавек і траўміраваў многіх іншых, з'яўляецца варварскім актам, не сумяшчальным з каштоўнасцямі, у імя якіх працуе ПАСЕ", — заявіў ён.

Часовы паверany ў справах Пасольства Ізраіля ў Беларусі Асаф Браха ўсклаў кветкі да месца трагедыі на станцыі метро "Кастрычніцкая". Паводле яго слоў, Ізраіль выразіў дапамагчы Беларусі экспертамі-крыміналістамі.

Кітай рашуча асуджае тэракт у мінскім метро і падтрымлівае Беларусь у супрацьдзеянні тэрарызму, заявіў афіцыйны прадстаўнік Міністэрства замежных спраў КНР Хун Лэй на брыфінгу ў Пекіне.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

# Тамара Краснова-Гусачэнка: «Імкнёмся зразумець калег…»

**Актыўнасць пісьменнікаў Віцебскай абласной арганізацыі СПБ сапраўды ўражвае. Здаецца, няма ў вобласці ўжо школы, бібліятэкі, сцэны, дзе б яны яшчэ не выступалі. Іх намаганнямі нават у самыя эканамічна складаныя часы людзі працягвалі цікавіцца літаратурай і набывалі кнігі. Сёння наша суразмоўца — сакратар Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэтэса Тамара Краснова-Гусачэнка.**

**— Тамара Іванаўна, у сярэдневечы літаратараў было адносна мала, таму што большая частка насельніцтва была непісьменнай. Цяпер, у прынцыпе, кожны, хто атрымаў сярэднюю адукацыю, можа напісаць верш ці то апавяданне. Ці не гэта на самой справе зніжае статус пісьменніцтва?**

— Не, не гэта. Статус пісьменніка зніжае толькі сам пісьменнік. Калі ён выдае твор нізкага літаратурнага ўзроўню. Калі не патрабуе дастойнай і своечасовай аплаты за сваю працу. Любая ж праца павінна ўзнагароджвацца. А наш пісьменнік зачастую нават сам гатовы плаціць, толькі б яго творы апублікавалі. Літаратар зніжае статус пісьменніцтва і тады, калі нядобразычліва і безгрунтоўна, а то і проста бязграматна, але з апломбам і высакамернасцю мэтра ахайвае творы сваіх калег па літаратурным цэху. Думаю, многія пагодзяцца, што, на жаль, асяродак пішучых людзей — не заўжды асяродак прыхільнасці. Але сапраўдны творца можа і павінен шчыра радавацца поспехам калег, дапамагаць ім. Вось і мы імкнёмся да гэтага, хаця б у сябе ў вобласці.

**— Стварыць сапраўдную літаратуру — значыць, пісаць пра штосьці такое, пра што яшчэ не напісана, ці ў такой форме, якую яшчэ ніхто не выкарыстоўваў. Наколькі, па вашаму, эксклюзіўная творчасць пісьменнікаў Віцебшчыны?**

— Нядаўна выйшла ў свет кніга "Семицветная радуга человеческого слова" расійскага пісьменніка протаіерэя Арцемія Уладзімірава. Ён дае цікавую класіфікацыю, вылучаючы сем узроўняў бытавання слова. Самы нізкі ўзровень — **чорнае слова** — не трэба тлумачыць: кляўза, лаянка, слова ілжывае, зайздрослівае, слова, якое забівае. Крыху вышэй — другі ўзровень — **слова пустое**. Трэці — **слова цёплае**: тое, якое падбадзёрвае, падтрымлівае. Чацвёрты — **залатое слова** — добрае, культурнае, граматнае. Пяты — "**слова краснае**" — гэта і ёсць слова паэтаў, трыбунаў, слова, якім, паводле Гумілёва, перамагалі гарады. Шосты — галавакружны ўзровень — **слова вешчае**, гэта слова прарокаў. Ну а сёмы — неспасціжны, гэта ўжо вышэй за рысы ўсяго бачнага свету — **святое слова**, слова Божае, якім усё распачата было. Дзіўная палярнасць — ад чорнага да святога! Калі пісьменнік наблізіцца да валодання хаця б цёплым словам, ці то залатым, я ўжо не кажу пра "краснае", ён адбыўся. Ці ёсць такія на Віцебшчыне? Ёсць. Віцебшчына пачыналася словам Еўфрасінні Полацкай, Сімяона Полацкага, Францыска Скарыны. Працягвалася словам Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча. Права ў яе няма на іншы шлях. Але пра сучаснікаў болей справядліва, чым я, скажа гісторыя.

**— Пісьменнік звычайна індывідуаліст. Як вам удаецца згуртаваць пісьменнікаў дзеля агульнай работы на карысць арганізацыі?**

— Менш за ўсё займаюся згуртаваннем. Я проста імкнуся зразумець сваіх калег. Люблю іх. Кожнага пасвойму. Стараюся па магчымасці дапамагчы: своечасова павіншаваць, правесці юбілейны творчы вечар, паклапаціцца пра ўзнагароду, арганізаваць прэзентацыю, даць інфармацыю пра новую кнігу, перакласці твор з беларускай на рускую мову і апублікаваць у Расіі, проста падтрымаць словам… Але, безумоўна, не ўсё гэтак ідэальна. Ёсць выключныя індывідуалісты. Творчы характар такі. Прызнаючы і паважаючы незалежнасць і самастойнасць такіх літаратараў, не заклікаю іх ні да сяброўства, ні да лішняга кантакту. Прыйдзе час, наспее патрэбнасць у зносінах — дзверы адчынены ў нашым пісьменніцкім доме.

Не люблю даносаў, стогнаў пра "цяжкае жыццё" творцы. Пісьменнікі нашай арганізацыі па большасці — мудрыя людзі. Яны ўсё разумеюць, правільна і рэальна ацэньваюць жыццё. І таму размовы ў нас ідуць толькі аптымістычныя і дзелавыя: як, дзе і калі чарговая прэзентацыя? Хто і дзе друкуецца? На жаль, амаль усе выдаюць кнігі за свой кошт у камерцыйных выдавецтвах, таму мы думаем яшчэ і як дапамагчы. І дапамагаем. Па просьбе нашага Савета частку тыражу выкупляе ўпраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама для камплектавання бібліятэк. І тады частка патрачаных пісьменнікам на выданне кнігі сродкаў вяртаецца.

Спакойныя, добразычлівыя, разумныя дзеянні, скіраваныя на стварэнне творчай абстаноўкі для літаратараў вобласці, самі па сабе з'ядноўваюць нас. Яны натхняюць на напісанне новых кніг — а іх за апошнія гады выдадзена 139; на выступленні па прапагандзе літаратуры —1915 масавых мерапрыемстваў, у тым ліку 110 сустрэч з літаратарамі, зладжаных намі для чытачоў гарадоў і раёнаў Віцебшчыны ўжо ў 2011 годзе.

## Навіны літжыцця: Віцебшчына

*У **мінскім** выдавецтве "Чатыры чвэрці" выйшла новая кніга вершаў полацкай паэтэсы Надзеі Салодкай "Меса пад сонцам" з прадмовай Навума Гальпяровіча і мастацкім афармленнем Нінэль Шчаснай.*

*У **вёсцы** Бабінічы Аршанскага раёна і ў цэнтральнай раённай бібліятэцы прайшла прэзентацыя кніг дзіцячых пісьменнікаў Галіны і Сяргея Трафімавых "Яны не павінны знікнуць: апавяданні пра расліны і жывёл Чырвонай кнігі Рэспублікі Беларусь", "Вось такія слінкі!". А ў Шумілінскай школе № 1 правёў прэзентацыю кнігі "Наша Шумілiншчына" пісьменнік Віктар Улюценка.*

***Віцебскае** абласное аддзяленне СПБ рыхтуе матэрыялы для выдання ў трэцім квартале 2011 года сумесна з часопісам "Нёман" традыцыйнай "Витебской тетради", а таксама — сумесна з украінскімі калегамі — паэтычнага зборніка "Вакзал", у які ўвойдуць творы віцебскіх і харкаўскіх аўтараў.*

*У **віцебскай** дзіцячай бібліятэцы імя С. Маршака адбудзецца прэзентацыя кнігі вершаў Тамары Красновай-Гусачэнкі для дзяцей "Край родны, любімы". У мерапрыемстве прымуць удзел вучні гімназіі № 3 г. Віцебска пад кіраўніцтвам кампазітара Надзеі Несцяронак. А ў Віцебскім медыцынскім каледжы новую кнігу паэзіі і прозы "Шорахі часу" прадставіць Маіна Бабарыка.*

## Імпрэзы

# Праца ёсць любоў

Сяргей ЮР'ЕЎ

**"Праца ёсць любоў, што бачная вачыма". Гэтае выдатнае выслоўе вялікага арабскага паэта Халіля Джэбрана з паэмы "Прарок", паэтычны пераклад якой на рускую мову ўпершыню зрабіў паэт Юрый Сапажкоў, стала лейтматывам прэзентацыі кнігі ў Жаночым інстытуце "Энвіла".**

Выдатнае афармленне, цудоўныя ілюстрацыі народнага мастака Беларусі, акадэміка Георгія Паплаўскага, здаўна захопленага паэзіяй Усходу, нарэшце, сам пераклад, урыўкі з якога зачытала паэтэса Наталля Капа, — усё гэта не пакінула аўдыторыю абыякавай. Студэнткі, будучыя перакладчыцы, успрымалі імпрэзу "Прарока" з пункта гледжання іх заўтрашняй прафесіі, як наглядное сведчанне мудрасці Джэбрана: нішто, зробленае з душой, з любоўю, не мінае бясследна.

Вядомы пісьменнік Алег Ждан распавёў, як Юрый Сапажкоў па сутнасці на яго вачах, паколькі яны разам працавалі ў часопісе "Всемирная литература", на працягу пяці гадоў перакладаў выбітную паэму, як яна цэлы год адточвалася сумесна з рэдактарам Наталляй Капай. Такой дбайнасцю ў працы над тэкстам яны бышцам бы паўтаралі патрабавальнасць самога Халіля Джэбрана, які, напісаўшы "Прарока", чатыры гады не аддаваў яго ў друк, бясконца шліфуючы.




Думкамі пра сваю працу над ілюстрацыямі, іх філасофскі сэнс падзяліўся з аўдыторыяй Георгій Паплаўскі. Па яго словах, ён настолькі быў уражаны паэмай, што мог бы праілюстраваць не 14 сюжэтаў з кнігі, а ў 3 — 4 разы больш.

Юрый Сапажкоў распавёў, як нарадзілася задума перакладу паэмы, як ішла праца над ёй, пра тое, якое моцнае святло мудрасці і любові да людзей выпраменьвае "Прарок" Джэбрана, што робіць яго істотным укладам у скарбонку культурных каштоўнасцей чалавецтва.

Такая ж прэзентацыя "Прарока" раней прайшла ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Выдавецтвам "Літаратура і Мастацтва" атрыманы заяўкі на падобныя сустрэчы са студэнтамі іншых вузаў Мінска. Яно і зразумела. Кніга Халіля Джэбрана "Прарок" вельмі папулярная. Яна перакладзена на ўсе мовы свету, а па перавыданнях, як сведчыць статыстыка, займае другое месца пасля Біблії.

## Выстаўкі

### Спадчына — на фота і ў кнігах

Наталія БАДЗІЛОЎСКАЯ

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі праходзіць выстаўка італьянскіх кніг па мастацтве і фатаграфій, прысвечаных 150-годдзю аб'яднання Італіі.**

У адкрыцці экспазіцыі прынялі ўдзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Арнальда Абецi, першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Карачэўскі, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, італьянскай дыяспары, творчай інтэлігенцыі.

— Паміж нашымі краінамі тысячы кіламетраў адлегласці, — заўважыў Р. Матульскі. — Але на самой справе мы вельмі блізкія. Беларусы і італьянцы сябруюць многія стагоддзі. Дзве ў сваім родзе ўнікальныя выстаўкі — італьянскіх фатаграфій і друкаваных выданняў — павінны паслужыць асновай абмену для далейшага культурнага абмену паміж Беларуссю і Італіяй.

Пасол Італіі ў Беларусі Арнальда Абецi адзначыў, што прадстаўленыя ў экспазіцыі фатаграфіі італьянскіх аб'ектаў сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА збіраліся на працягу многіх гадоў. Разам з фотавыстаўкай у НББ прэзентуюцца выданні, якія таксама з'яўляюцца мастацкім багаццем Італіі.

## Літабсягі

Андрэй СУЛЬЖЫЦ,
фота Кастуся Дробава

# Да культуры — праз геаграфію

**У сталічным “Кніжным салоне” прайшла прэзентацыя кнігі Людмілы Дучыц і Ірыны Клімковіч “Сакральная геаграфія Беларусі”, што не так даўно пабачыла свет у РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Прэзентацыя сумеснай працы даследчыц выклікала вялікі інтарэс: у кнігарні сабралася досыць шмат людзей — як сяброў і калег аўтарак, так і выпадковых наведвальнікаў-аматараў беларускай даўніны.**



Вядучая вечарыны Аксана Спрынчан ад пачатку ўразіла прысутных нестандартнымі падводкамі-прадстаўленнямі выступоўцаў у форме паданняў, што зачытваліся з новай кнігі. Першае слова было дадзена дырэктару РВУ “Літаратура і Мастацтва” Алесю Карлюкевічу. Ён, высока ацаніўшы ахвярную працу аўтарак, выказаў надзею, што такое супрацоўніцтва працягнецца і надалей.

Наступнымі на авансцэну выйшлі самі даследчыцы. Выказаўшы падзякі ўсім, хто спрычыніўся да выхаду кнігі, аўтаркі прымалі віншаванні ад наступных выступоўцаў, сярод якіх былі: фалькларыст, доктар філалагічных навук, загадчык сектара этнаграфіі Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі Таццяна Валодзіна; кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт кафедры фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вольга Лабачэўская; музыкі Яраш Малішэўскі і Раман Яраш; спявачка Юля Літвінава і іншыя. Сярод цёплых слоў на адрас аўтарак і спадзяванняў на працяг плённай працы выдавецтва можна адзначыць прапанову Лявона Калядзінскага ўключыць дысцыпліну “Сакральная геаграфія Беларусі” ў лік абавязковых для вывучэння ў ВНУ.

Падчас прэзентацыі магазін не спыняў працу. Так, да канца імпрэзы былі прададзены ўсе асобнікі кнігі, што меліся на той час у “Салоне”, — гэта дае кнізе найвышэйшую адзнаку.

“Сакральная геаграфія Беларусі”, прынамсі, першае ў сваім родзе выданне, якое ўсебакова апісвае традыцыі і культуру беларусаў з дапамогай тапанімікі, археалогіі і народнай творчасці. Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў, але адначасова можа быць выкарыстана і як дапаможнік для студэнтаў ВНУ.

***На здымку: Людміла Дучыц і Ірына Клімковіч прадстаўляюць выданне “Сакральная геаграфія Беларусі”.***

## Артлінія

Дзяніс БАРСУКОЎ,
дырэктар мастацкай галерэі “Універсітэт культуры”,
фота Віктара Кавалёва

# Наш «Kodex» убачаць у Венецыі

**Сёлета Рэспубліка Беларусь бярэ ўдзел у Венецыянскай біенале — найстарэйшым і самым аўтарытэтным форуме сусветнага сучаснага мастацтва. Прызначэнне гэтай маштабнай міжнароднай выстаўкі, якая праводзіцца з 1895 года, — прадставіць найбольш значныя з’явы ў сучасным мастацтве розных краін. У Венецыянскай біенале ўдзельнічае больш як 70 краін, сярод якіх Італія, Вялікабрытанія, ЗША, Францыя, Нідэрланды, Германія, Японія, Аўстрыя, Швейцарыя, Расія, Украіна.**



Па ініцыятыве і пад эгідай Міністэрства культуры Беларусі на 54-й Міжнароднай выстаўцы сучаснага мастацтва —“La Biennale di Venezia” — адкрыецца нацыянальны Беларускі павільён, у якім з чэрвеня па лістапад 2011 года будзе прадстаўлены праект “Kodex”, што аб’ядноўвае прадстаўнікоў сучаснага беларускага мастацтва: Артура Клінава, Віктара Пятрова, Канстанціна Касцючэнку, Юрыя Алісевіча, Дзяніса Скварцова. Паводле слоў куратара праекта Міхаіла Баразны, Беларускі павільён на Венецыянскай біенале прадставіць не камерцыйна паспяховае, а менавіта інтэлектуальнае мастацтва сучаснай Беларусі.

Праект “Kodex” у цэлым можна назваць графічным. Кодэкс (ад ням. kodex і лац. codex — кніга) азначае старажытную форму кнігі са старонкамі, што змяніла нязручныя скруткі. Праект жа ўяўляе сабой сучасную інтэрпрэтацыю афармлення тэксту. Чорна-белая графіка Юрыя Алісевіча — манахромная аснова ўсёй кампазіцыі, мае ў праекце значэнне ўласна тэксту (чорныя літары на белай паперы), які аздабляецца колерам — работамі іншых удзельнікаў.

Віктар Пятроў, заснавальнік і арганізатар фестывалю перформансу “Навінкі”, прадставіць графічнае аздабленне ўласнага тэксту і шэраг перформансаў. Скульптура Канстанціна Касцючэнкі надасць праекту глыбіню і матэрыяльнасць. Творы гэтага аўтара адлюстроўваюць уплыў графічнасці на аб’ёмна-прасторавае мысленне. Аб’екты мастака, архітэктара, літаратара Артура Клінава, створаныя з традыцыйнага беларускага матэрыялу — саломы, з’яўляюцца вынікам творчай перапрацоўкі класічных сюжэтаў, архітэктурных помнікаў, надання ім цалкам іншага сэнсавага напаўнення. Рух і экспрэсія відэаарту рэжысёра і графіка Дзяніса Скварцова з’яўляюцца лагічным завяршэннем працэсу афармлення актуальнага ілюмінаванага тэксту сучаснымі сродкамі.

Праект “Kodex” адлюстроўвае характар развіцця беларускага мастацтва апошніх гадоў: традыцыйная манахромная графічнасць узбагачаецца рухам цела, гукам, святлом, сучаснай аб’ёмнай пластыкай. Мяркую, што ідэйная прастора, увасобленая ў праекце, годна прадставіць сучаснае беларускае мастацтва на прэстыжным міжнародным форуме ў Венецыі.

***На здымку: фрагмент кампазіцыі Артура Клінава “Патаемнае жыццё саломы”.***

## Повязі

Ірына ТУЛУПАВА

# Купала і Колас у Польшчы

**Беларусь шырока адзначыць 130-годдзе з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэта будзе вялікі культурны праект у краіне і па-за межамі нашай дзяржавы.**


Фота www.dic.academic.ru

На здымку: гістарычны цэнтр Варшавы.

План мерапрыемстваў у Міністэрстве культуры распрацаваны і ўзгоднены з усімі зацікаўленымі, але яшчэ не зацверджаны: яго вырашылі апублікаваць на сайце Міністэрства культуры.

“Юбілейныя мерапрыемствы плануецца праводзіць вельмі шырока, — распавёў карэспандэнту “ЛіМа” намеснік міністра культуры Беларусі Тадэўш Стружэцкі. — Пачынаючы ад выдання твораў і асобных кніг да ўстаноўкі помнікаў не толькі ў Беларусі, а і за яе межамі, у прыватнасці, у Польшчы.”

Ідэя ўстаноўкі помніка ў Варшаве мае сваю гісторыю. Яна ўзнікла пасля адкрыцця ў Мінску помніка Адаму Міцкевічу. Яшчэ ў пачатку 2004 года па ініцыятыве вядомых беларускіх дзеячаў у Польшчы і тагачаснага Пасла Беларусі ў Польшчы Паўла Латушкі ў Варшаве быў створаны грамадскі камітэт пабудовы помніка Купалу і Коласу. У яго склад увайшлі вядомы фалькларыст, даследчык, прафесар кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта Алесь Баршчэўскі, вядомы перакладчык беларускай літаратуры на польскую мову Чэслаў Сенюх, дырэктар музея Адама Міцкевіча ў Варшаве Януш Адраванж-Пянёнжак, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Янка Сычэўскі і іншыя дзяржаўныя і грамадскія дзеячы.

Але толькі ў мінулым, 2010 годзе беларускі бок атрымаў афіцыйны адказ ад прэзідэнта горада Варшавы са згодаю аб вызначэнні месца для помніка — у парку “Марское вока”. “Досыць прыгожая мясціна, недалёка ад Лазенак, ад пасольстваў Расіі і Беларусі ў Польшчы”, — зазначае Тадэуш Стружэцкі. Таксама недалёка ад гэтага месца ўстаноўлены помнік Тарасу Шаўчэнку.

Па выніках аб’яўленага Міністэрствам культуры Беларусі і Беларускім саюзам мастакоў конкурсу эскізных праектаў помніка Янку Купалу і Якубу Коласу ў Варшаве 7 красавіка конкурснай камісіяй выбраны лепшы эскіз, які будзе дапрацаваны і адаптаваны да месца ўстаноўкі. Будзем спадзявацца, што ў бліжэйшым будучым гэты помнік будзе ўстаноўлены і стане памятным месцам у Варшаве.

Купала і яшчэ больш Колас у свой час бывалі ў Польшчы, выступалі, чыталі свае творы. І калі ў 2006 годзе намаганнямі беларускіх аб’яднанняў і Пасольства Беларусі ў Польшчы была ўстаноўлена памятная дошка Янку Купалу ў Гданьску, а ў Гайнаўцы яго імем названа вуліца, то з’яўленне помніка беларускім песнярам у Польшчы будзе досыць лагічным.

## З-пад пяра

У межах мерапрыемстваў, прысвечаных Дню адзінства Беларусі і Расіі, прайшла творчая сустрэча Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і дэлегацыі пісьменнікаў Расіі на чале з легендарным чалавекам, лётчыцай і пісьменніцай Марынай Паповіч і прэзідэнтам Міжнароднага інстытута кіравання імя Ф.Ушакова, паэтам і спартсменам Анатолем Яжовым. У складзе дэлегацыі, якая прыехала ў Беларусь, былі і паэты Барыс Жыхараў, Міхаіл Собалеў. Расійскія літаратары сустрэліся таксама са студэнтамі і навучэнцамі віцебскіх ВНУ і каледжаў.

**Леся КРАСАВІК**

Музей гісторыі горада Гомеля сумесна з Гомельскім дзяржаўным прафесійна-тэхнічным каледжам машынабудаўніцтва падрыхтаваў выстаўку “Зара касмічнай эры”, прысвечаную 50-годдзю палёту Юрыя Гагарына ў космас. Наведвальнікі могуць пабачыць сапраўдны аўтограф першага касманаўта Зямлі, арыгіналы газет, выпушчаных ў першыя дні пасля палёту Гагарына, памятныя значкі і паштоўкі, макеты ракеты-носьбіта і касмічнага карабля “Усход”, на якім Гагарын паляцеў у космас, а таксама ўнікальныя фотаздымкі касманаўтаў, у тым ліку на Гомельшчыне.

**Яўген КАВАЛЕЎСКІ**

З нагоды 70-годдзя альманаха “Вожык” у Мінскай гарадской бібліятэцы № 5 адбылася сустрэча навучэнцаў Мінскага медыцынскага ўніверсітэта і Мінскага архітэктурна-будаўнічага каледжа з супрацоўнікамі і аўтарамі любімага выдання. У вечары прымалі ўдзел галоўны рэдактар “Вожыка” Юлія Зарэцкая, пісьменнікі Павел Саковіч, Казімір Камейша, Таццяна Пратасевіч і выканаўца аўтарскай песні Юрась Нераток. У бібліятэцы ў гэты дзень адкрылася выстаўка мастакоў-карыкатурыстаў “Вожыка”, якая будзе дзейнічаць да 24 красавіка.

**Алена КАЛЕЙНІК**

У творчай гасцёўні пры Крычаўскім раённым краязнаўчым музеі адбылася сустрэча вучняў СШ № 1 з пісьменнікам Аляксандрам Балдоўскім. Размова ішла пра герояў яго кнігі “Праславіліся ў баях і працы”. На 320 старонках пісьменнік змясціў нарысы пра 62 чалавек, лёсы якіх звязаны з горадам. Гэтыя людзі стаялі ля вытокаў развіцця Крычава, абаранялі яго ад ворагаў, ваявалі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, узнімалі прамысловасць з руін альбо забяспечвалі далейшае развіццё прадпрыемстваў і гаспадарак. Іх ратная і мірная праца забяспечыла спакой і дабрабыт для будучых пакаленняў.

**Васіль АФАНАСЬЕЎ**

У межах святкавання Дня Незалежнасці Грэчаскай Рэспублікі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшло ўрачыстае мерапрыемства “Пад небам Грэцыі Свяшчэннай…”, арганізаванае Беларускім грамадскім аб’яднаннем грэкаў “Пелапанэс”, Пасольствам Грэцыі ў Расіі, Міністэрствамі культуры і адукацыі Беларусі. Пасля віншаванняў і зачытання звароту прэзідэнта Грэцыі Каролуса Папульяса да грэчаскай дыяспары Беларусі гасцей свята чакала насычаная канцэртная праграма. Сонечныя грэчаскія танцы ў выкананні танцавальнага ансамбля з Маладзечна “Белыя Крылы” і калектыву “Алкесціда” перамяжаліся выступленнямі маладых спевакоў Арцёма Ахпаша, Марка Войткі, Артура Міхайлава. Адбыліся прэзентацыі выставак мастака Паўла Дзімітрыядзі і партрэтаў герояў нацыянальна-вызваленчага руху Грэцыі сярэдзіны XIX стагоддзя.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

# Космас Мікалая Чаргінца

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Перад намі на стале альбомы з фотаздымкамі… Колькі іх — пяць, шэсць? Здаецца, мы бясконца гартаем акуратна, з любоўю аформленыя старонкі, на якіх — адснятыя яшчэ, пэўна, славутымі савецкімі "Зенітамі" чорна-белыя фотаздымкі — кавалкі не такой ужо і далёкай ад нас эпохі.**

*У кожнага ў душы жыве свой космас. Для старэйшых гэта захоплена ўзнятыя ўгару твары — "Вунь-вунь, спадарожнік ляціць, глядзі ж ты, міргае!" — і незвычайная радасць, незвычайны гонар за сваю Айчыну — "Мы ў космасе першыя!" Для зусім юных — тэхнічна наварочаныя фантастычныя баевікі пра герояў-астранаўтаў. Для летуценных — таямнічае, як чалавечае каханне, зорнае неба. Для практычных — асяродак атрымання дакладных навуковых ведаў. У Мікалая Чаргінца, палітыка і пісьменніка, космас перш за ўсё — гэта адкрыты добры твар простай рускай жанчыны, маці першага касманаўта Зямлі Ганны Цімафееўны Гагарынай. Усе гэтыя альбомы з фотаздымкамі па большасці прысвечаны ёй, яе дружбе з сям'ёй Чаргінцоў.*

— Яна прымушала захапляцца сабой усіх, хто яе ведаў, — узгадвае Мікалай Іванавіч. — Простая, малаграматная жанчына, якая як быццам бы ўвабрала ў сябе мудрасць усіх маці. Стрыманая, спакойная… Рэдка каму ўдаецца пры праяўленні нахабства, дурасці, пыхлівасці паўставаць па-над імі, трымаючыся ў годнасці. Яна — умела. Вось Ганна Цімафееўна з унучкай сваёй Наташай. Наташа — пляменніца Юрыя Гагарына, дачка яго малодшага брата Барыса. Калі яна скончыла школу, мы ўжо даўно сябравалі сем'ямі — і да іх ездзілі ў госці, і іх прымалі ў Мінску. З'явілася думка: а ці не паспрабаваць Наташы паступіць у наш інстытут замежных моў? Вырашыў я паказаць дзяўчынку рэктару. І паехалі мы ўтраіх — Наташа, Ганна Цімафееўна і я — на сустрэчу. Заходзім у рэктарскі кабінет і бачым: перад намі — самаўпэўненая чыноўніца. Нават падняцца з крэсла насустрач такому вядомаму, такому паважанаму чалавеку, маці Гагарына, не палічыла патрэбным. Нават прысесці не прапанавала старой жанчыне. Але з парога пачала чапляцца да Наташы: "У нас не прынята занадта крыклівая апранацца!"

**— Маскоўскую моду не ацаніла?**

— Якая там маскоўская мода! Дзяўчынка, як памятаю, зусім сціпла выглядала — не разадзетая, не нафарбаваная. У нас вясковыя гэтак у сталіцу прыязджаюць. У Гагарыных жа ніколі ў сям'і культу адзення не было. Пачуў я тады, што начальніца кажа, — сорамна стала. За тое, што гэта адбываецца ў нашым Мінску. Ганна ж Цімафееўна ні словам, ні рухам нават не выдала сваё здзіўленне, а можа, і абурэнне. Я быў уражаны яе вытрымкай.

**— Паступіла Наташа?**

— Паступіла. Калі пачулі яе французскае вымаўленне, у захапленне прыйшлі. "У нас так трэцякурснікі не заўжды размаўляюць!" А ў Наташы выкладчыцай у школе была сапраўдная французжанка, з Францыі. І паступіла, і на "выдатна" скончыла інстытут, і ў Мінску засталася жыць пляменніца Гагарына. У яе цяпер двое дарослых дзяцей, і яна возіць замежныя экскурсіі па Беларусі.



*Мікалай Іванавіч шмат распавядае пра сям'ю Гагарыных, у якіх маці, па ўсім відаць, была тым сонейкам, вакол якога рушылі па сваіх арбітах планеты-дзеці (у сям'і акрамя Юрыя былі яшчэ два браты — Валянцін і Барыс і сястра Зоя). І гэта менавіта Ганна Цімафееўна прывучыла ўсіх задавальняцца тым, што ёсць, і не патрабаваць сабе большага.*

— А жылі яны зусім небагата. Дом, той, дзе нарадзіўся Юрый,ператварылі ў музей. Для бацькоў пабудавалі насупраць жытло — не надта ўтульную, мне падаецца, невялічкую хатку. Пасля гібелі Гагарына нейкую грашовую дапамогу сям'я атрымоўвала. Але ім яўна не хапала. Тым не менш заўжды Ганна Цімафееўна радавалася гасцям. Памятаю, вучыўся я ў Маскве. Калегі даведаліся пра маё блізкае знаёмства з маці Гагарына — папрасілі звазіць іх да яе. У дэлегацыю гэтую салідныя людзі патрапілі. Прыязджаем у Гагарын, а Ганна Цімафееўна якраз дае чарговае інтэрв'ю тэлевізіёншчыкам. Пабачыла мяне, узрадавалася: усё, ніякіх больш інтэрв'ю — госці ў мяне! І давай насіцца, бегаць, шукаць, што б на стол выкласці, каб гасцей частаваць. Апошняе дастала! Дык з гэтых часоў я, як выпадала да яе ў госці ехаць, заўжды свой пачастунак браў.



**— Пра пакаленне Ганны Цімафееўны і іншыя сведчаць — аскетычнае было: праз шмат якія выпрабаванні прайшла, умела цаніць галоўнае — жыццё.**

— І тым не менш многія яе равеснікі ішлі па інстанцыях, выбівалі сабе ільготы, патрабавалі павышанай увагі. Яна таксама выкарыстоўвала сваё становішча маці героя — і нярэдка. Але не для сябе і не для сваёй сям'і. У яе была асабістая пошта — вялікія імянныя канверты. Там так і было напісана: "Пошта маці касманаўта Юрыя Гагарына". Пісалі ёй шмат. Розныя людзі з усіх куткоў Саюза. У асноўным дапамагчы прасілі. Упэўненыя былі: калі маці Гагарына заступіцца — абавязкова справа на іх карысць будзе вырашана. Ну і данімала яна мяне па знаёмстве: то гэтаму чалавеку трэба дапамагчы, то другому. Я тады на кіраўнічай пасадзе быў. І рэальна мог дапамагчы. І дапамагаў. Думаю, гэтаксама праз іншых знаёмых Ганна Цімафееўна вырашала праблемы сваіх карэспандэнтаў.

*Здымкі бываюць афіцыйныя і сямейныя. На сямейных Ганна Цімафееўна весела ўсміхаецца, азартна "рэжацца" ў карты з маладым Чаргінцом, дэманструе машыну сына Юрыя — ён надта любіў гэтую "Волгу", і яна захавалася, каб стаць экспанатам яго музея. На афіцыйных жа здымках маці Гагарына — статычная, забранзавелая, нібыта і не чалавек гэта зусім, а нейкі сімвал. Ды многія менавіта такой яе і ўспрымалі. Сімвалам мацярынства. Сімвалам ахвярнасці. Зусім як маці-патрыётку Настассю Фамінічну Купрыянаву з Жодзіна. Дарэчы, вось ён, унікальны здымак — Гагарына, Купрыянава і маці беларускага касманаўта Пятра Клімука Марфа Паўлаўна разам. Скульптурна ачэрчаныя твары на фоне славутай жодзінскай скульптурнай кампазіцыі.*

— Я паказваў гэты здымак і скульптарам, і сталічнаму кіраўніцтву. Хацелася, каб з'явіўся такі помнік у Мінску, — распавядае Мікалай Іванавіч. — І разглядалі нібыта пытанне. Але месца належнага для скульптуры не вылучылі. Яна ж мусіць быць недзе ў цэнтры горада, на бачным людным месцы. Інакш — навошта?

**— А Гагарына часта бывала ў Мінску?**

— Як мы пазнаёміліся і пасябравалі сем'ямі — пастаянна наведвалася. І жыла ў нас месяцамі. Яна цікаўная была. Шмат чаго пабачыць імкнулася. На Курган Славы мы яе вазілі. Дык хаця ногі і балелі ў старой — зайшла на самы верх. У Брэсце пабывала. Ды не адна — з усім сямействам. І пасля разам у Камароўку, на радзіму Клімука заехалі. На месцы Ганна Цімафееўна ніколі не сядзела. Шмат выступала перад рознымі калектывамі ў Мінску. Ды я таксама не даваў ёй сумаваць у адзіноце. Як быў начальнікам міліцыі Ленінскага раёна — ладзіў там яе сустрэчы з асабовым саставам. Потым быў намеснікам начальніка Упраўлення ўнутраных спраў Мінска — там калег знаёміў з маці Гагарына. Быў начальнікам крымінальнага вышуку МУС — значыць, ёй перад гэтай аўдыторыяй належала выступаць. Дзеці мае, Ігар і Вольга, праўда, доўга не рашаліся прапанаваць маці першага касманаўта планеты завітаць у іх школу, хаця, канечне, хацелася ім пахваліцца такім знаёмствам перад сябрамі і настаўнікамі. Але Ганна Цімафееўна сама зразумела: "А што ж, дзеткі, вы не пакажаце мне сваёй школы?" Яна была далікатны і надта правільны чалавек…

*Я пытаюся ў Чаргінца пра тое, што мне падаецца самым галоўным, каб расставіць у яго аповедзе ўсе акцэнты. Ці бачыўся ён калі з самім Юрыем Гагарыным?*

— Двойчы. Да яго славутага палёту. Гагарын тады курсантам быў. Аэрадром у Сочы. Гулялі мы з пілотамі ў футбол. Гагарын асаблівы — такі ўсмешлівы, добразычлівы. Ён запомніўся… Прыемна было пасля даведацца, што менавіта гэты хлопец, з якім сустракаўся, паляцеў у космас. А ў 1972 годзе мой добры сябра генерал Васіль Янкоўскі нечакана прапанаваў: хочаш з сям'ёй Гагарына пазнаёміцца? Янкоўскі сваёй сям'і не стварыў. Але пасябраваў з Гагарынымі, і яны сталі яму як родныя. Давай, кажа Янкоўскі, запросім маці Юрыя ў Мінск. Я згадзіўся. І гэтая жанчына зачаравала мяне сваёй дабрынёй і непасрэднасцю. Наша сяброўства дало нам абодвум многае. Ганна Цімафееўна пазнаёмілася з некаторымі беларускімі пісьменнікамі. А я — праз яе — з некаторымі касманаўтамі, стаў, урэшце, "сваім" у Зорным гарадку. Доўгі час захоўваў на памяць альбом з фотаздымкамі касманаўтаў, любоўна сабранымі маці Гагарына і падпісанымі самімі героямі для мяне па яе просьбе. А яшчэ мне надта дарагая фотакартка, якую я атрымаў у 1984 годзе ў імянным канверціку Ганны Цімафееўны падчас службы ў Афганістане. Гагарына была знятая побач з нашым першым спадарожнікам. А падпісала картку дачка яе Зоя: "Мікалаю Іванавічу на памяць ад Ганны Цімафееўны Гагарынай, якая любіла яго, як свайго сына". Гэты час быў часам, калі мы з усяго рабілі сакрэты і забаранялі шмат пра што адкрыта казаць. Атрымаўшы фотаздымак, я зразумеў, што Ганны Цімафееўны больш няма сярод жывых…

***На здымках: маці-патрыёткі Г. Гагарына, Н. Купрыянава, М. Клімук; М. Чаргінец і Г. Гагарына каля яе дома — цяпер музея.***

## Анкета пісьменніка

# Здольнасць чытаць і… разумець



***1.** Як вы лічыце: ці павінна ў агульнай літаратурнай плыні прысутнічаць масавая літаратура? Ці згодны з думкай, быццам культура ўсяго грамадства абавязкова мае маскультуру сваім ценем?*

***2.** Якія кнігі, на вашую думку, цікавяць чытача? Ці праўда тое, што поспех літаратара ўсё больш залежыць ад майстэрства фатографа і мастака, які афармляе кнігу, ад яе знешняга выгляду?*

***3.** Якім ён ёсць, наш сучаснік? Што ў яго характары надае аптымізму?*

**Пісьменнік Валерый ГАПЕЕЎ:**

**1.** Што ж, пагодзімся напачатку з тым, што масавая літаратура — літаратура другасная, так? Іначай навошта супрацьстаўляць… Дык вось, вядома, што наш свет існуе на дуалізме. Мы пазнаём сусвет і свет вакол сябе менавіта дзякуючы дуалізму. Як бы мы пазналі святло, каб не было цемры? Як адчуць холад, не ведаючы гарачыні, убачыць розум, не чуючы дурасці і мастацтва, не бачачы бяздарнасці? Чалавек павінен быць вольны ў сваім пошуку і параўнанні. Не можа быць у гэтым шляху дакладных прамых дарог — хай будзе мноства сцяжынак. Хадзі і, як кажуць, адчувай розніцу. Думаю, любая маскультура не з'яўляецца ценем, але выразна адцяняе сапраўднае мастацтва. Чаму масавая літаратура не цень? Ды таму, што можа існаваць без апошняга. Цалкам магчыма давесці грамадства да такога стану, навязаць яму такія каштоўнасці, што Гары Потэр стане новым месіяй, а кнігі пра яго — новай Бібліяй, а нейкая папсовая песенька — гімнам. Вось гэтага трэба баяцца нам, а не таго, што ёсць масавая літаратура. Другі момант… Чаму мы кажам "масавая літаратура"? Ды таму, што яна "лёгкая", яна зразумелая ўсім, бо ўздзейнічае на ўзроўні эмацыянальным, побытавым. А вось цяпер давайце ўявім, што ёсць цікавыя дэтэктывы, фэнтэзі, жаночыя раманы, прыгодніцкія — і ўсё гэта на беларускай мове. Ды я сто разоў за такую літаратуру! Бо ў тым справа яшчэ, што чалавек прывыкае да чытання. А ад гэтага ўжо крок да чытання сапраўднай літаратуры.

**2.** Дык чытач — розны. Неверагодна розны! Некаму сумна чытаць Андрэя Федарэнку, нехта крывіць вусны ад навел Уладзіміра Сцяпана, камусьці не зразумелыя і не цікавыя казкі Адама Глобуса, а некаторы вочы лупіць і за сэрца хапаецца ад прозы Алены Брава. Многія ж не любяць оперу слухаць, не любяць глядзець балет. Дык выбачайце, а чаму іншае мастацтва — літаратура — павінна быць зразумелым літаральна ўсім? Толькі таму, што чытаць умеем? Дык жа вушы ва ўсіх таксама і вочы. Уменне чытаць і ўспрымаць літаратурны тэкст — гэта не менш складана, чым разумець прыгажосць сімфанічнай музыкі. Так мяркую.

Сёння кожная рэч паступае да спажыўца ў адмысловым выглядзе. Законы рынку — адно, другое — магчымасці. Чаму кніга не павінна быць выдатнай ва ўсім? Выходзіць кніга — цікавая, здольная знайсці чытача. І ўявіце сабе — газетная папера. Шэра-жоўтая. І гэта сёння, калі газеты выходзяць на куды бялейшай паперы. Шчыра кажу: непрыемна такое выданне трымаць у руках, гартаць, чытаць…

**3.** Мой сучаснік жыве, як і я, — у неверагодным тэмпе. Ён многа мае, многа можа і многага ж патрабуе, і патрабуе шмат матэрыяльных даброт. Майго сучасніка змаглі зацягнуць у грамадства спажыўцоў — і мы з ім спажываем і самі вырабляем тое, што спажываюць іншыя. Адзінае радуе — мой сучаснік разумнее вельмі хутка. Вось гэта і дае надзею, што некалі мы з ім зразумеем яскрава і незваротна, што сапраўдная ісціна хаваецца ў словах, якія чулі даўно: свет уратуе прыгажосць — прыгажосць мастацтва і чалавечай душы.

# Такая рэдкая беларуская кніга…

**Учора ў межах румянцаўскіх чытанняў у Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы прайшоў “круглы стол” па тэме “Кніга Беларусі: дзяржаўныя і прыватныя калекцыі. Сучасны погляд”. Пераважна размова ішла пра рэдкую кнігу — якая знаходзіцца ў аднайменных аддзелах рэдкіх кніг бібліятэк альбо нават у музеях. Як аказалася, агульнага, сістэмнага погляду на найцікавейшыя фаліянты ў нас дагэтуль няма. Кожная скарбніца добра ведае пра свае фонды, збольшага — пра тое, што ў суседзяў. А што ж мы маем па ўсёй Беларусі, якраз і высвятлялі ўдзельнікі “круглага стала” — супрацоўнікі абласных, рэспубліканскіх бібліятэк і музеяў. Прапануем вашай увазе матэрыял ад гаспадароў кніжнага форуму: з Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна, дзе існуе адзіны ў Беларусі Музей рэдкай кнігі. І спадзяёмся, што чытачы “ЛіМа” прадоўжаць распачатую тэму.**

**Ірына ТУЛУПАВА, e-mail: tulupova_05@mail.ru**

**Дзіна МЕЛЬНІЧЭНКА**

## Ад пачатку да нашых дзён

Калекцыя рэдкіх выданняў Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна налічвае звыш 3,5 тысяч экзэмпляраў, 84 з іх — беларускія. Гэта кнігі беларускіх аўтараў, беларускіх выдавецтваў, на беларускай мове, а таксама кнігі на рускай мове пра Беларусь і яе гісторыю. Па храналагічным прынцыпе з іх вылучаюцца 4 групы.

## Геаграфія па-беларуску

Найцікавейшымі лічацца выданні, аддаленыя ад нас у часе, — 1850 — 1900 гадоў. Як вядома, у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай канца XVIII ст. беларускія землі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі, і таму першачарговай задачай новых улад з’явілася падрабязнае вывучэнне далучаных тэрыторый. Што ж вывучалася? Эканоміка, геаграфія, быт, мова, культура беларускага народа. У фондзе аддзела рэдкай кнігі захаваліся дзве працы, выдадзеныя напрыканцы XIX ст. Гэта — “Гомельские народные песни (белорусские и малорусские)” (СПб., 1888), сабраныя З. Ф. Радчанкай, і “Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края” (1890), сабраныя і сістэматызаваныя П. В. Шэйнам.

Не адкрыю нешта новае, калі скажу, што на працягу XIX ст. беларуская культура знаходзіла сваё яскравае праяўленне ў багатым жанрамі фальклоры. У ім народ выказваў сваё светаадчуванне, сваё разуменне прыгожага. “Гомельские народные песни (белорусские и малорусские)” былі сабраны членам Імператарскага Рускага Геаграфічнага Таварыства Зінаідай Радчанкай у Дзятлавіцкай воласці Гомельскага павета Магілёўскай губерні. Аўтар зазначала, што ўзаемны ўплыў беларускай, вялікарускай і маларускай моў істотна адбіваецца на песеннай творчасці насельніцтва мясцовасці ў міжрэччы Дняпра і Сожа, дзе некалі жылі радзімічы.

Знакаміты этнограф, збіральнік беларускай народнай вуснапаэтычнай творчасці, аўтар фундаментальных этнаграфічных прац, артыкулаў, рэцэнзій Павел Шэйн з дапамогай карэспандэнтаў назапасіў вялікую колькасць апісанняў народных звычаяў і абрадаў, якія выйшлі пад назвай “Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края”. У гэтае выданне ўключаны матэрыялы з усіх губерняў Паўночна-Заходняга краю, а таксама з суседніх, дзе жыло этнічна беларускае насельніцтва. У кнізе атрымалі адлюстраванне амаль усе бакі духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў. Гэта песні абрадавыя, бытавыя, бяседныя, жартоўныя і так званыя разгульныя, апісанні абрадаў і звязаныя з імі песні, дзясяткі гала-




шэнняў. Вясельная калекцыя П. Шэйна па багацці не мела сабе роўных сярод дарэвалюцыйных выданняў беларускага фальклору. Звяртае на сябе ўвагу раздзел народных прывітанняў, пажаданняў, праклёнаў, лаянак, замоў. Праца П. Шэйна — каштоўная крыніца фальклорна-этнаграфічных звестак пра побыт і культуру беларусаў другой паловы XIX ст.

## …І падручнікі па мове

Другі перыяд у зборы беларускіх рэдкіх кніг датуецца 1901 — 1950 гг. Найбольш ранняя кніга гэтага часу — праца Паўла Апалонавіча Тутkoўскага “Орографический очерк Центрального и Южного Полесья” (М., 1913). І зноў адсочваецца “геаграфічны” кірунак. Аўтар прааналізаваў вынікі вывучэння вялізнай тэрыторыі — паветаў Гродзенскай, Мінскай, Валынскай губерняў, апісаў карставыя з’явы на Палессі. Асаблівую каштоўнасць уяўляюць звесткі пра Пінскае Палессе.

Наша асаблівая гордасць у тым, што ў калекцыі рэдкіх выданняў бібліятэкі захоўваюцца два падручнікі па беларускай мове — “Рабочая кніжка па беларускай мове” (Мн., 1932) у двух частках і “Падручнік крывіцкай (беларускай)” (Рэгенсбург, 1947). У аснове “Рабочай кніжкі” — лекцыі І. Ю. Міц-




кевіча, якія яму выпадала весці ў Камвузе. Гэтыя лекцыі апрацаваны і прыстасаваны для завочнага вывучэння мовы! Да лекцый дададзены шматлікія прыклады-ілюстрацыі і матэрыял для рознага роду практыкаванняў у правапісе і пунктуацыі. “Падручнік крывіцкай (беларускай) мовы” прафесара Яна Станкевіча з’яўляецца яшчэ адной спробай стварыць у пасляваенны час сталы падручнік па беларускай мове. Ён складаецца з трох частак, мае ўнутраны падзел на тэмы: “Граматыка”, “Правапіс”, “Укладанні, прытарнаваныя вучыцца ў школе й дома”.

Цікавае выданне, у якім паказваюцца старонкі гісторыі беларускіх зямель, — зборнік матэрыялаў “Законодательные акты Великого княжества Литовского XV — XVI вв.”. Ён змяшчае дакументы і вытрымкі з заканадаўчых помнікаў (Судзебнік Казіміра 1468 г., “Устава на валокі” Жыгімонта ІІ Аўгуста 1557 г., Статуты ВКЛ 1529, 1566, 1588 гг. і інш.), якія характарызуюць феадальны лад Вялікага Княства Літоўскага ў гэты перыяд. У канцы зборніка змешчаны храналагічны паказальнік і тлумачальны слоўнік, што таксама немалаважна: пры складанні зборніка аўтары мелі на мэце стварыць вучэбны дапаможнік для студэнтаў-гісторыкаў, юрыстаў.

Такім чынам, беларуская кніга першай паловы XX ст. дае магчымасць прасачыць, як нараджаліся і фарміраваліся асноўныя жанры айчыннай літаратуры — паэзія, проза, драматургія. Выданні двух наступных перыядаў, якія знаходзяцца ў аддзеле рэдкай кнігі, 1951 — 2000 гг. і з 2000 года і да нашага часу маюць шмат матэрыялу па асэнсаванні нашай кніжнай спадчыны мінулых гадоў краязнаўчага, навуковага кірунку.

# Знаёмцеся: медыябібліятэка

**Ілона КУПРЭЙЧЫК**

**Мультымедыйная бібліятэка — з’ява адносна новая. Адна з першых такіх бібліятэк у ВНУ — мультымедыйная бібліятэка Інстытута журналістыкі і факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ.**

Урачыстае яе адкрыццё (як аддзела абслугоўвання гэтых факультэтаў Фундаментальнай бібліятэкі БДУ) адбылося тры гады таму — у верасні 2008 года. Галоўная асаблівасць медыябібліятэкі — у тым, што карыстальніку прадастаўляецца выбар: што чытаць, якім чынам і дзе. Чытачы маюць адкрыты доступ да інфармацыі і на традыцыйных папяровых носьбітах, і праз Інтэрнэт. Акрамя Інтэрнэта ў медыябібліятэцы прапаноўваюць электронныя базы даных — электронны каталог, базы даных сусветных кампаній, такіх як “EBSCO”, “Springer”, ІНТЕГРУМ і інш. Наведвальнікам прапанавана 120 рабочых месцаў, 35 з якіх абсталяваны персанальнымі камп’ютарамі з бясплатным выхадам у сетку Інтэрнэт. Гэта — прыярытэтны кірунак бібліятэкі.

Кніжны фонд медыятэкі сфарміраваўся на аснове вучэбных планаў, праграм па дысцыплінах Інстытута журналістыкі і факультэта філасофіі і сацыяльных навук. Іх студэнты маюць магчымасць браць літаратуру дахаты на абанеменце, наведваць медыябібліятэку і чытальную залу перыёдыкі. Усе астатнія студэнты БДУ могуць карыстацца толькі дзвюма чытальнымі заламі.

Тут актыўна працуюць са студэнтамі па кірунку гуманітарнай і выхаваўчай працы. Але ж галоўнае ў любой бібліятэцы — гэта кнігі. Усяго ў мультымедыйнай скарбніцы — каля 90000 рознага роду дакументаў. Ці зоймуць электронныя кнігі галоўнае месца ў жыцці студэнтаў на іх шляху да ведаў? На гэтае пытанне паспрабавала адказаць загадчык аддзела абслугоўвання бібліятэкі Інстытута журналістыкі і факультэта філасофіі і сацыяльных навук Людміла Ушакова: “Цалкам магчыма, што праз гадоў 10 — 20 і мы пяройдзем да фармату электроннай кнігі як вучэбнай. Магчыма, гэта будзе нават і ня дрэнна. На мой погляд, значна прасцей будзе выдаваць студэнтам у пачатку семестра невялікі рыдар на ўсе наступныя 5 гадоў з неабходнай інфармацыяй, чым 20 экзэмпляраў падручнікаў на аднаго студэнта.

Але я думаю, што пройдзе яшчэ шмат часу, перш чым мы адыдзем ад традыцыйнай кнігі. Калі мы наогул калі-небудзь адмовімся ад іх… Думаю, што павінна быць магчымасць выбару. Калі камусьці падабаецца чытаць з камп’ютара — ён мае права і магчымасць атрымліваць інфармацыю з экрана. Калі я пажадаю прачытаць і патрымаць у руках мастацкую кнігу — я буду чытаць яе”.

Што нас чакае наперадзе — невядома. Зразумела адно: мультымедыйная бібліятэка сёння — гэта вельмі зручны, мабільны і неабходны падмурак для набыцця ведаў. І ён знаходзіць сваіх прыхільнікаў.

## Зачытаныя кнігі

**Мы працягваем друкаваць спісы найбольш часта выдаваемых чытачам кніг у бібліятэках краіны. Свой рэйтынг паводле запытаў наведвальнікаў прапануе галоўная скарбніца заходняга рэгіёна Беларусі.**

### Найбольш запатрабаваныя кнігі ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага (сакавік 2011 г.)

*Юнацкі філіял*

**Мяснікоў, А.** Сто асоб беларускай гісторыі: гістарычныя партрэты / Анатоль Мяснікоў. — Мінск: Літаратура і мастацтва, 2009.

**Ажэшка, Э.** Хам: аповесць / Эліза Ажэшка: пер. з пол. мовы Я. Бяганскай. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2009.

**Гісторыя беларускай літаратуры XI — XIX стагоддзяў.** У 2 т. Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы; навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. — Мінск: Беларуская навука, 2010.

**Іван Шамякін. Летапісец эпохі** / уклад. А. І. Шамякіна. — Мінск, Мастацкая літаратура, 2010.

*Аддзел абанемента*

**Дайнека, Л.** Назаві сына Канстанцінам: раман / Л. М. Дайнека. — Мінск, Літаратура і Мастацтва, 2010.

**Ждан, О.** Князь Мстиславский: роман / О. Ждан. — Минск, Літаратура і Мастацтва, 2010.

**Бутэвіч, А.** Каралева не здраджвала каралю, або Каралеўскае шлюбаванне ў Навагародку: раман / А. Бутэвіч. — Мінск, Літаратура і Мастацтва, 2010.

**Голденков, М.** Империя. Собирание земель русских / М. Голденков, Минск, Современная школа, 2011.

**Гилберт, Э.** Есть, молиться, любить: роман / Э. Гилберт. — Москва, Рипол Классик, 2011.

*Аддзел краязнаўства*

**Пяткевіч, А.** Людзі культуры з Гродзеншчыны: даведнік / А. М. Пяткевіч. — Гродна, ГрДзУ, 2000.

**Гродна і гродзенцы: дзевяць стагоддзяў гісторыі** (да 880-годдзя горада): матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, Гродна 10 — 11 красавіка, 2008 года / рэдкал.: А. І. Антоненка. — Гродна, 2008.

**Гродназнаўства:** дапаможнік па курсе “Краязнаўства” / пад рэд. В. В. Шведа, В. Р. Карнелюка. — Гродна, 2009.

**Карпюк, А.** Развітанне з ілюзіямі: эсэ, апавяданні, дзённікі / А. Н. Карпюк. — Гродна, 2008. — (Гарадзенская бібліятэка)

*Універсальная чытальная зала*

**Беляцкий, Н.** Управление персоналом: учебник / Н. П. Беляцкий. — Минск, Современная школа, 2010.

**Бабосов, Е.** Идеология белорусского государства: теоретические и практические аспекты / Е. М. Бабосов. — 2-е изд. — Минск, Амалфея, 2009.

**Конан, У.** Гісторыя эстэтычнай думкі Беларусі / У. Конан. — Мінск, Беларуская навука, 2010.

# Двухаблічнае дзіця культуры

Аляксандр СІЛЕЦКІ

**Мой артыкул пра лёсы фантастыкі ў СССР "Новыя абрысы айчыннай фантастыкі" ("ЛіМ", 2010, № 18) выклікаў нечаканы водгук Анатоля Іванчанкі ("ЛіМ", 2010, № 40). Паважаны апанент папракае мяне ў шматлікіх агрэхах. На першы папрок — быццам фантаст Сілецкі не ведае, што Дорыс Лесінг, якая атрымала Нобелеўскую прэмію за фантастыку, на самай справе жанчына, а не мужчына, — прыкра марнаваць газетныя радкі. Памылка, мабыць, укралася пры наборы і была не заўважана.**

Далей. А. Іванчанка, абураючыся, прыводзіць цытату з майго артыкула: "…і Гесэ, і Лагерлёф… і Грас атрымалі… Нобелеўскія прэміі за раманы цалкам фантастычнага характару". У арыгінале сказана: "…вполне фантастического свойства". Перакладчык інтэрпрэтаваў "вполне" як "цалкам", аднак сэнсавыя адценні гэтых слоў адрозніваюцца. Недарэчна лічыць Гесэ перакананым фантастам, аднак апошняй кропляй, якая выплюхнула з Нобелеўскай хрысцільні запаветную прэмію, стаў раман "Гульня шкляных перлаў" — не проста вяршынны твор пісьменніка, але і вялікая ўтопія, якая шмат у чым вызначыла развіццё ўсёй сусветнай фантастыкі другой паловы XX стагоддзя. Тое ж самае можна сказаць і пра іншых Нобелеўскіх лаўрэатаў, якія нярэдка выкарыстоўвалі фантастычны элемент. Між іншым, А. Іванчанку чамусьці занепакоіла, што ў спіс аўтараў, якія звярталіся да фантастыкі, я ўнёс і Томаса Мана. Навошта спатрэбілася майму апаненту ўспамінаць "Чароўную гару" — раман цалкам рэалістычны, — мне не ясна. А вось "Доктар Фаўстус" і грандыёзная тэтралогія "Іосіф і яго браты" — творы безумоўна фантастычныя, проста напісаны *не ў фармаце* "тыповай" фантастыкі.

А. Іванчанка прыводзіць афіцыйную фармулёўку, паводле якой Г. Гесэ стаў Нобелеўскім лаўрэатам: "…за натхнёную творчасць, у якой… праяўляюцца ідэі гуманізму, а таксама за бліскучы стыль". Маўляў, вось за якія добрыя якасці ўзнагародзілі Гесэ, але зусім не за фантастыку! А хіба падобная характарыстыка не можа быць дадзена і выдатнаму твору фантастычнай накіраванасці? Выходзіць, і сам апанент лічыць: ёсць літаратура "першага шэрагу", сапраўды якасная, якой уласцівыя гуманістычныя ідэі і бліскучы стыль, а ёсць — "другога гатунку": фантастыка, дэтэктыў, — якім ні тое, ні іншае не ўласціва? Але такая ўстаноўка ідзе ўразрэз з тым, што А. Іванчанка спрабуе адстойваць далей. А даказаць ён імкнецца наступнае: ніякага "гета" для фантастыкі ў савецкі час не было, ніхто яе літаратурай "другога гатунку" не лічыў, і негатыўнага стаўлення да яе ў афіцыйных кругах не існавала.

Мой апанент паведамляе, што не сустракаў у савецкай прэсе дрэннага слова пра фантастыку як *пра жанр*. Яно і не дзіўна. У тыя часы працэдура таптання і засоўвання ў кут ажыццяўлялася даволі вытанчана. Услых, а тым больш у друку, не гаварылася нічога, затое "сёе-тое" мелася на ўвазе, і гэтым кіраваліся няўхільна. Так што, гартаючы падшыўкі старых газет, вы і сапраўды *не вычытаеце* нічога зневажальнага ў адносінах да фантастыкі. Тады працавалі інакш. Выклікалі ў ЦК партыі пісьменніцкіх кіраўнікоў, "высокіх" выдаўцоў, часам і аўтараў і "даходліва" растлумачвалі адпаведную "лінію партыі" адносна развіцця літаратуры. Някемлівыя хутка выпадалі з кіраўнічых сфер або з выдавецкіх тэмпланаў. Паспрабавалі б вы ў тыя часы са сваім фантастычным апавяданнем (аповесцю, раманам) наведацца ў які-небудзь "тоўсты" літаратурны часопіс! "Ад варот паварот" вам быў бы забяспечаны. Для фантастыкі, растлумачылі б вам, ёсць тонкія навукова-папулярныя часопісы, і ёй месца толькі там, паколькі першапачаткова (вось вам і "гета") яна *прызначана* для папулярызацыі навукова-тэхнічнага прагрэсу ў нашай краіне. Кропка!

Зразумела, штосьці праскоквала на старонкі самавітых часопісаў як нейкая даважка да "галоўных" твораў, але падобныя "вольнасці" не віталіся, і ўжо ў 70-я гады "кранік закруцілі". Затое ў выдавецтве "Молодая гвардия" (усе іншыя выдавецтвы толькі зрэдку друкавалі кнігі "дзіўнага" жанру) паўстала серыя "Бібліятэка савецкай фантастыкі". Маўляў, задушыся, чытач, іншага для цябе не будзе. А вось серыі накшталт "Бібліятэкі савецкага рэалізму" чытач чамусьці так і не дачакаўся… Ці не гэта загон цэлага віду літаратуры ў адведзенае яму гета?! Хоць, не спрачаюся, на старонках масавай прэсы ўсё было добрапрыстойна, фантастыку быццам бы нават паважалі… Але толькі на словах. Барацьба ішла "пад дыванам", подлая і лютая, якую хавалі ад староннiх вачэй.

Я сам у свой час сутыкнуўся з гэтым. Апублікаваўшы першае апавяданне яшчэ школьнікам у 1963 годзе, потым два гады наведваў семінар маладых фантастаў пры выдавецтве "Молодая гвардия", дзе і пазнаёміўся з усімі знакамітымі пісьменнікамі-фантастамі. А кіравала гэтым семінарам якраз Арыядна Громава, згаданая маім паважаным апанентам. Колькі скаргаў на самадурства напаўпісьменных партфункцыянераў ад літаратуры я наслухаўся тады! Менавіта з тых часоў я беспаваротна пераканаўся: у літаратуры не можа быць начальнікаў. На заводах, у калгасах, у міністэрствах яны патрэбны для арганізацыі працы, але ў літаратуры, дзе кожны аўтар сам па сабе, — не проста "прадпрыемства", а цэлы непаўторны сусвет, любое начальства ў прынцыпе недапушчальна. Або квітнее літаратура — і тады пра "мудрых кіраўнікоў" наогул не чуваць, або квітнее начальства — і тады літаратура, як згвалтаваны і замардаваны арганізм, ледзь дыхае, гатовая вось-вось аддаць канцы.

Ужо чую пярэчанне: але і ў савецкі час выходзілі выдатныя кнігі. Сапраўды. Аднак колькі было паламаных пісьменніцкіх лёсаў, якой крывёй часцяком даваліся гэтыя выданні, колькі сапраўды таленавітых кніг або зусім не з'явілася на свет, або пры падрыхтоўцы да друку яны нявечыліся так, што прыстойныя аўтары потым не ведалі, куды дзецца ад сораму.

А чаго каштавала абвешчаная разнастайнасць меркаванняў і "стылёвых пошукаў" у межах адзіна дапушчальнага метаду сацрэалізму! Незлічоныя літаратуразнаўчыя працы і крытычныя артыкулы літаральна захлыналіся ад захапляльнага "асэнсавання" гэтага метаду. У межах "дазволенага" фантастыка выглядала як экзатычны плод, які нясе ў сабе прытоеную пагрозу. Бо сапраўды таленавітыя аўтары-фантасты ні ў якія абстрактныя байкі не верылі, усё правяралі навуковай логікай і праз займальнае (але зусім не легкаважна-прымітыўнае) спрабавалі далучыць чытачоў да ведаў і сучаснага светаразумення, якія не заўсёды ўсялялі ў розумы шчаслівую ўпэўненасць у заўтрашнім. І добра б прыдумлялі нейкія тэхнічныя дзівацтвы, апісвалі б сустрэчы з вылучна гуманнымі іншапланецянамі, дык не, гэтыя неразумныя фантасты парываліся разважаць пра лёсы свету, пра законы, па якіх развіваецца гісторыя! А ўсім вядома, што вынік для чалавецтва адзін на ўсіх, і гэта — камунізм. Пра што тут разважаць?

Мой паважаны апанент імкнуўся даказаць, што ніколі фантастыку не лічылі літаратурай другога гатунку. На жаль! Прыведзеныя ім цытаты з артыкула Брандыса: "Магія састарэлых уяўленняў пра… навуковую фантастыку як літаратуру другога гатунку… якая не мае… самастойнага значэння… яшчэ моцная…" (значыць, была ўсё-ткі "магія", і нікуды ад гэтага не дзецца!), а таксама з "ЛГ" 1933 года: "Нужно всемерно бороться с имеющим ещё… хождение мнением о занимательных жанрах как о литературе второго сорта…" — сведчаць якраз пра тое, што калі "трэба змагацца", то, такім чынам, "меркаванне, якое хадзіла" пра другараднасць фантастыкі, пераважала заўсёды — і ў 30-я гады, і трэць стагоддзя пасля. Якія такія "забаўляльныя жанры"? Тое, што людзям цікава чытаць? А так званая сур'ёзная літаратура, паводле гэтай логікі, сумная і не патрэбная нікому, хоць і бязмерна добрая?! Адстойваючы сваю пазіцыю, А. Іванчанка далей піша: "Між іншым, "ЛіМ" (9.04.1982) змясціў палемічныя нататкі "Фантастыка і крытыка" — цалкам пра ярлык "другі гатунак" — гэта значыць пра тое, што "некаторыя крытыкі фактычна і адносяць фантастыку да "другога гатунку", хоць быццам і выступаюць супраць гэтага". Але гэтымі цытатамі мой апанент, па сутнасці, аспрэчвае самога сябе. Калі б не было падставы для спрэчкі пра "другі гатунак", яна б і не адбылася. Урэшце, не ладзяць жа дыскусій на тэму: "Ці другога гатунку творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа"! Нікому і ў галаву не прыйдзе. З відавочным не спрачаюцца. Затое пра фантастыку гатовыя спрачацца без канца. А довад, быццам фантастам з іх велізарнымі тыражамі зайздросцілі малатыражныя "сур'ёзныя" аўтары, выглядае проста дзіўным. Тады тыражы ва ўсіх былі высокія. Зайздросцілі не проста пісьменнікі, а "генералы ад літаратуры" і іх падхалімы, якія выдавалі свае "сур'ёзныя" кнігі нават большымі тыражамі, чым фантасты. Але кнігі фантастаў куплялі і ўзахлёб чыталі, у той час як тварэнні "знакамітых" гадамі пыліліся на паліцах крам і бібліятэк, нікому не патрэбныя, пакуль іх не спісвалі ў макулатуру. Так што ідэя пра другараднасць фантастыкі распаўсюджвалася не знізу, а наадварот — з самага верху.

У сярэдзіне 70-х гадоў я двойчы зрабіў эксперымент. Спачатку патэлефанаваў у часопіс "Новый мир" і пацікавіўся, ці разглядаюць яны фантастыку. "Вядома, не!" — захоплена паведаміла мне дзяўчына з таго канца провада. Тады я спытаў: "А звычайную рэч на побытавую тэму, праўда, яшчэ сыраватую?" — "Прыносьце, — адказала дзяўчына, — паглядзім. Калі тэма цікавая, нашы рэдактары давядуць рэч да розуму, вам нават спадабаецца". Я падзякаваў і павесіў трубку. Потым патэлефанаваў у часопіс "Наш современник" і задаў тое ж пытанне. Упамінанне фантастыкі прывяло майго суразмоўцу ў жах, затое да прапановы паказаць "сыры" бытапісальны рукапіс ён паставіўся цалкам добразычліва. "Вы, напэўна, дэбютант?" — цёпла запытаў ён. "Так", — зманіў я. "Прыносьце, — рашуча сказаў супрацоўнік рэдакцыі, — мы дэбютантаў любім. Галоўнае, каб рэч была праўдзівая". На тым і развіталіся.

Гэты эксперымент паказаў, якое ж было рэальнае стаўленне да фантастыкі ў "тоўстых" часопісах. Маглі надрукаваць любую лухту, кепска напісаную, але — толькі не фантастыку. Між іншым, нават знакамітыя браты Стругацкія пасля 60-х гадоў не маглі прабіцца ні ў адзін "самавіты" часопіс. Фактычна толькі ў канцы 80-х, калі паміж выданнямі раптам паўстала канкурэнцыя і пачалася барацьба за аўтараў, каб захаваць тыражы, часопісы зноў звярнулі сваю ўвагу на фантастаў. Гэта быў той невялікі адрэзак часу, калі фантастыка і "высокая" проза хоць бы фармальна ўраўнаважыліся ў сваіх правах. А потым ізноў пайшло размежаванне…

Дарэчы, у сярэдзіне 80-х часопіс "Нёман" таксама даваў падборкі з твораў мінскіх фантастаў. Больш таго, падборка 1984 года была прызнана *лепшай* літаратурнай публікацыяй года, і аўтары нават атрымалі прэміі. Аднак у наступныя дваццаць з лішнім гадоў часопіс да фантастыкі цалкам астыў, хоць майстэрства тых, даўніх, аўтараў зусім не знікла. Дык якое стаўленне да фантастыкі ў нас сёння?

І яшчэ адзін момант у маім артыкуле моцна не спадабаўся паважанаму апаненту. Па яго меркаванні, увесь тэкст літаральна дыхае антыкамунізмам. Не ведаю, наколькі такі "пасаж" мае дачыненне да фантастыкі (калі *вера* ў камунізм для А. Іванчанкі — грунтоўная аснова, без якой немагчыма складанне або самой фантастыкі, або артыкулаў пра яе, тады, вядома, я нічога ў гэтым жанры не разумею і працаваць у ім не ўмею), але адказаць, безумоўна, трэба. Я заўсёды думаў, што прыхільнасць ці не прыхільнасць ідэям камунізму — справа выключна асабістая, хоць савецкія ўлады меркавалі, зразумела, інакш. І той факт, што лепшыя нашы фантасты з надзвычайнай вытанчанасцю навучыліся "трымаць дулю ў кішэні", за што адукаваная чытацкая публіка іх вельмі паважала, бо і сама практыкавала гэты няхітры жэст, кажа пра многае. Верылі на словах, а ў душы гучна пасмейваліся.

Хаця артыкул мой — пра фантастыку, А. Іванчанка раптам пачынае спяваць дыфірамбы У. Вішнеўскаму і Ларысе Рэйснер — толькі таму, што я ўспомніў "Аптымістычную трагедыю" ў шэрагу слабенькіх прыкладаў "вялікай" літаратуры. Каб мяне пераканаць, ён спасылаецца на Вялікую Расійскую энцыклапедыю і разам з тым паказвае, што экранізацыю "Аптымістычнай трагедыі" высока ацанілі на Захадзе, даўшы прыз у Канах. На мой погляд, грош цана тым энцыклапедыям, дзе апроч строгай фактаграфіі даюцца яшчэ і ацэнкі аўтараў-складальнікаў, а па любой бездапаможнай п'есе можна зняць удалы фільм. Гэта не проста розныя жанры — розныя віды мастацтва! Як іх параўноўваць? Ды і ацэньваць можна па-рознаму. Колькі разоў у гісторыі энцыклапедычных перавыданняў адны постаці са старонак важкіх тамоў невядома куды знікалі, затое іншыя ўрачыста ўздымаліся, каб праз некаторы час таксама згінуць беззваротна. А пісалі пра іх: "выбітны навуковец" (гэта, да прыкладу, пра Лысенку), "выбітны савецкі дзярждзеяч" (гэтыя наогул і заслужана забытыя), "геніяльны правадыр і настаўнік" (тут ужо зразумела, хто). І пры чым тут Карл Маркс? Якое дачыненне да фантастыкі мае яго эпахальная праца? Але А. Іванчанка з ходу пачынае доўгі пералік вядомых людзей, якія так ці інакш з цеплынёй адгукаліся пра марксізм. Імёны гучныя, людзі паважаныя, толькі да тэмы майго артыкула якое маюць дачыненне? Ці, можа, А. Іванчанка, прыводзячы гэты пералік, такім манерам спрабуе мяне "перавыхаваць"? Прама скажам, не лепшы спосаб весці палеміку. Калі без адмысловай патрэбы памінаць каго і што заўгодна,



то з любога артыкула лёгка зрабіць нагоду для крытыкі.

Дарэчы, мой паважаны апанент шматзначна паведамляе: у 1933 годзе Янка Купала сярод іншых фантастычных кніг вылучыў адну — "Праз сто гадоў" Эдуарда Бэламі, дзе апісваўся агульнасусветны сацыялізм, да якога атрымалася прыйсці мірным шляхам. З аднаго боку, выбар даволі дзіўны, але з іншага… Паспрабаваў бы Купала захапіцца раманам "Мы" Замяціна ці "Вызваленым светам" Уэлса, рэчамі, у літаратурным сэнсе куды мацнейшымі, чым раман Бэламі! Думаю, пасля падобнай эскапады і без таго нядоўгае жыццё Купалы значна скарацілася б. Ліхія ўсё ж былі часы!..

Але бальшавіцкія ідэолагі, якія планамерна знішчалі ў тыя гады беларускую інтэлігенцыю, недагледзелі. І з Бэламі ў лёсе Купалы магла б атрымацца сур'ёзная накладка. Справа ў тым, што вялікая асветніца і паплечніца правадыра Надзея Канстанцінаўна Крупская якраз у той час склала спіс з тысячы самых шкодных кніг, якія трэба выключыць з усіх бібліятэк (і публічных, і прыватных), паколькі нельга савецкім людзям чытаць такую брыдоту. У гэты спіс увайшло вельмі шмат рускай і агульнасусветнай класікі, а таксама маса прыгодніцкай і фантастычнай літаратуры. У тым ліку і згаданы раман Бэламі. Верагодна, Крупская палічыла, што, хоць сацыялізм справа добрая, прыйсці да яго можна толькі праз рэвалюцыю, гвалтоўным шляхам, і прапанаваць чытачам іншыя варыянты ніяк нельга. Усе шкодныя выданні звозіліся ў велічэзныя гурбы і ўрачыста аддаваліся агню. Гэта было задоўга да аналагічных дзеянняў Гітлера. Але Бог, як той казаў, мілаваў тады Купалу, падарыўшы яму яшчэ няпоўны дзясятак гадоў…

А што да майго "негатыўнага" стаўлення да навукі ў СССР, то хто ж не прызнае яе дасягненняў? Іншая справа, што побач з выбітнымі навукоўцамі "пасвіліся" і розныя прайдзісветы, якія карысталіся, як ні сумна, заступніцтвам на вышэйшым дзяржаўным узроўні. Вынікі іх "прац" вядомыя ўсім: была разгромлена генетыка, апынулася ў загоне кібернетыка, філасофія доўга аганізавала. Наступствы мы адчуваем дагэтуль. Адсюль і "іронія", якую заўважыў мой паважаны апанент.

Нас увесь час заклікаюць "ганарыцца" сваёй навукай, сваёй гісторыяй. Але як ганарыцца тым, што зроблена (і завершана!) задоўга да цябе? І ўсё ж ёсць адна сфера ў чалавечай дзейнасці, якую б я назваў рэальна адчувальнай гісторыяй. Гэта — культура. Вось ёю можна ганарыцца. У ёй створанае шмат стагоддзяў назад усё адно — тваё, і ты можаш, маеш права дадаць да ўжо наяўнага ў культуры нешта сваё. Не баючыся разбурыць цэласнасць, ты працягнеш яе фарміраваць. А да твайго потым дададуць новае… Я мяркую, менавіта пры такім разуменні гісторыі і культуры асаблівую каштоўнасць набывае фантастыка. У адрозненне ад іншых сфер літаратуры яна абдымае ўсе часы, увесь свет і ўсе народы — часам у адным творы. У гэтым яе ўнікальнасць, крохкасць і веліч. Яна, вядома ж, не літаратура крылатай мары — не проста літаратура, і не палымяны прапагандыст навукова-тэхнічных ведаў, і нават не люстэрка людскіх адносін. Я б сказаў так: фантастыка — гэта дзіця культуры, яе гуллівае жыццярадаснае дзіця! І гэтае вечнае дзіця — двухаблічнае, як знакаміты Янус: фантастыка — спараджэнне самой культуры і адначасова — яе ўнутраны рухавік. Бо фантастычнае і ёсць тая крыніца, адкуль культура чэрпае ідэі для свайго развіцця, без чаго ў чалавечым грамадстве не было б ніякага руху наперад! Таму фантастыку сапраўды нельга ні прынізіць, ні знішчыць (як правільна сцвярджае мой апанент) — яна будзе існаваць, пакуль існуе культура. Іншае пытанне, *як* сёння фантастычная літаратура знойдзе шлях да свайго чытача…

# Літаратурная ніша Мурашава

Юрый САПАЖКОЎ

**Нешматлікія пісьменнікі з сотняў, зарэгістраваных у розных прафесійных саюзах, або тыя, якія працуюць па-за імі, могуць сказаць пра сябе ўслых: у мяне свой, непадобны да іншых голас. Але і падумаўшы так, пыхлівы служыцель муз абернецца: ці няма паблізу крытыка, які чытае думкі? Яшчэ менш пісьменнікаў, якія знайшлі сваю тэму: у мастацкай літаратуры спрадвеку ўсе нішы занятыя. І пра што б ты ні стаў пісаць, будзь упэўнены: было.**

У Карэла Чапека ёсць апавяданне пра гэта. Адзін з персанажаў у ім прызнаецца сабе: "Напісаў я нядаўна аповед і надрукаваў, — і вось калі стаў я чытаць яго ўжо ў кнізе, ахапіла мяне нейкае цяжкае адчуванне. Братка, кажу сабе, а ты ж нешта падобнае ўжо дзесьці чытаў... Каб мяне маланкай забіла, у каго ж я выкраў гэтую тэму?" ("Аповед старога крымінальніка".) Пайшоў пісьменнік да прыяцеля-кнігачыя. Той і не думаў доўга: у Чэхава звёў. З'явіўся да крытыка. Не, упэўнена сказаў знаўца літаратуры, гэта чысты Мапасан. Іншыя спецыялісты знайшлі абрабаваных у процьме іншых класікаў — у Готфрыда Келера, Дзікенса, д'Анунцыя, Гамсуна, Андрэева...

Гэтая гісторыя, расказаная Чапекам, чамусьці ўспомнілася, калі на маім пісьмовым стале апынуліся тры кніжкі Вячаслава Мурашава: "Мінск бандыцкі", "Перабудоўчы рэкет" і "Місіянеры". Дзве апошнія выдадзеныя толькі што А. Варакс́інам, а першую я выпускаў сам у бытнасць маю выдаўцом. Памятаецца, спачатку не жадаў брацца за гэтую працу: хто купіць аповесць пра крымінальны свет, пра людзей, якія пакаліліся па плоскасці зла, пра турму, дзе яны "цягнуць" свае тэрміны. Напісана так, быццам аўтар на ўласным досведзе зведаў гэта. Але што скажа чытацкі рынак?

Першае здзіўленне — у крамах няма нічога падобнага. Прынамсі на беларускім матэрыяле. На расійскім таксама не густа. Аляксандр Салжаніцын? Але крымінальнікі ў яго ГУЛАГу ўсёткі наўзбоч, важней — палітычныя зняволеныя. Серыю кніг пад назвай "Злачынцы і злачынствы" выпусціла выдавецтва "Сталкер". "Прагулкі вакол барака" Ігара Губермана ўжо нідзе не знойдзеш. Вось, мабыць, і ўсё сучаснае на гэтую тэму ў жанры мастацкай літаратуры. Каб не пакрыўдзіліся дакументалі-




стыка, назаву акадэміка Дзмітрыя Ліхачова, высланага ў канцы 1920-х гадоў на Салаўкі (пасля вяртання ён напісаў шэраг артыкулаў пра асаблівасці лагернага побыту); Жака Россі, што выдаў у 1987 годзе ў Лондане "Даведнік па ГУЛАГу" і кнігу Ігара Воранава "Законы злачыннага свету" (2006 г.). Яна і апынулася апошняй кропляй на карысць майго рашэння выдаць Вячаслава Мурашава ў тым жа годзе.

Цікава, што аповесць Мурашава як бы пацвярджала мастацкімі сродкамі (героі, сітуацыі, дынаміка сюжэта, мова) сапраўднасць таго, пра што ў нарысавай форме пісаў Воранаў, дасканала вывучыўшы свет людзей, якія пайшлі супраць закону і спыніліся толькі за кратамі. Менавіта таму ў мяне паўстала такое ж адчуванне, як у героя аповеда Чапека: "Ты нешта падобнае ўжо дзесьці чытаў".

Не, Вячаслаў Мурашаў абсалютна арыгінальны. У беларускай літаратуры, падаецца, ніхто акрамя яго сёння не працуе на ніве гэтай найскладанейшай тэмы. У сваіх кнігах ён паказвае: сучасны крымінальны свет цалкам пазбаўлены рамантызму, якога шукаюць у ім сцэнарысты баевікоў, што літаральна крупамі сыплюцца з тэлеэкранаў. Сур'ёзных прац зусім мала (сярод іх найвядомейшы амерыканскі серыял "Уцёкі з турмы", створаны Полам Шэрынгам і паказаны ў 2009 годзе). Гэты свет жорсткі і бязлітасны нават для тых, хто яго стварае. У ім існуе сваё панящае высакароднасці і подласці, гонару і ганьбы. Але, як піша Ігар Воранаў, "грамадства мае той крымінальны свет, які яно спарадзіла і які заслугоўвае, свет гэты — люстэрка нашага жыцця". Скрыўленае, дадам ад сябе. Пэўна, таму Мурашаў як пісьменнік, які пакутуе за людзей згубленых, з пашкоджаным пазваночнікам маралі, шкадуе сваіх персанажаў: бо з некаторымі ён знаёмы асабіста.

Самыя "закручаныя" гісторыі не выдуманыя", — паведамляе ён у прадмове да "Перабудоўчага рэкету". — Месца іх дзеяння — Мінск, іх героі — рэальныя людзі. Большасць з іх "адседзела", раскаялася. З некаторымі мяне звялі мае ўласныя памылкі. Менавіта лёс гэтых няшчасных вёў, можна сказаць, маё пяро. Перакананы, што былыя бандыты, злодзеі, гандляры наркотыкамі і г.д. могуць шмат чаму навучыць. Асабліва чытачоў, якія распачынаюць жыццё. Не трэба грэбаваць такімі ўрокамі. У газеце "Криминальное обозрение" мае аповеды друкаваліся пад рубрыкай "Чытво". Ну што ж, чытво так чытво. Абы каму-небудзь апынулася карысным, прымусіла задумацца, а то і па-добраму перасцерагло".

Кнігі Мурашава чытаюцца на адным дыханні. Захапляюць і жахаюць часам сцэны, "пастаўленыя" рэжысёрам цёмнага боку жыцця. Падкупляе, не дае адхіснуцца ад тэксту дакладная, па-добраму скупая мова дасведчанага апавядальніка, мова, якая нібы разганяе сюжэт. Наяўнасць дакументальнай аправы мастацкага дзеяння (асабліва ў главах "Валадарка", "Спецкамендатура", "Аэрапорт-2", "Кара"), апісанне працэдур прыёму арыштаваных, камеры, распарадку дня зняволеных, правіл, якіх яны прытрымліваюцца, робіць апавяданне праўдзівым і лёгка пераносіць чытача на месца, дзе гэтае дзеянне разгортваецца.

Застаецца толькі здзіўляцца, як чалавек, які не збіраўся станавіцца пісьменнікам (аўтаслесар, бізнесмен, будаўнік), толькі ў пяцьдзясят з лішкам гадоў узяўся спасцігнуць мастацтва празаіка.

Аднойчы Вячаслаў Аляксандравіч прызнаўся свайму першаму выдаўцу:

— Ведаеш, чаго я за гэты крымінал узяўся? Па-першае, ён у мяне дагэтуль у пячонках сядзіць. А потым — сын расце (цяпер ён — зорка юнацкай зборнай па футболе). Вось і наважыўся. Каб у злачынны свет ні нагой. Ні ён, ні такія, як ён.

На вокладцы "Місіянераў" яны побач. Малодшы Мурашаў — нібы толькі што з футбольнага поля. Старэйшы — быццам толькі што павіншаваў сына з выдатнай гульнёй.

# Дарагія нашы ветэраны

Арцём СІДАРЭНКА

**У шэрагу выданняў, прысвечаных Вялікай Перамозе, — кніга нарысаў "Салдаты Перамогі", якая пабачыла свет у "Беларускім Доме друку". З'яўленне яе стала вынікам аднайменнага творчага праекта, што ажыццяўляўся рэдакцыяй газеты "Мінская праўда" з лютага па май мінулага года сумесна з Мінскім абласным саветам ветэранаў, упраўленнем аховы здароўя і камітэтам па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінскага абласнога выканаўчага камітэта. Карэспандэнты газеты сумесна з супрацоўнікамі згаданых служб і ведамстваў наведалі былых франтавікоў і партызан Вялікай Айчыннай вайны. Пасля сустрэч і напісаліся творы, што склалі змест гэтай кнігі.**

Дваццаць чатыры нарысы, аб'яднаныя пад адной вокладкай, — гэта дваццаць чатыры лёсы. Кожны з іх, канечне ж, па-свойму адметны. Разам з тым нарысы, змешчаныя ў кнізе "Салдаты Перамогі" — гэта свайго роду і калектыўны партрэт воіна-вызваліцельніка, які, паводле слоў знакамітай песні, набліжаў дзень Перамогі, як мог.

Свой уклад у агульную перамогу над ворагам ўнеслі і гераіні нарыса Рыгора Саланца "Тры сястры — тры партызанкі" Тацця Ягорава, Яніна Несцерава і Зоя Бацяноўская, якія ў дзявоцтве насілі прозвішча Лазарчык. Старэйшай з сясцёр Тані, калі прыйшла ў партызанскі атрад "Камунар" вядомай брыгады "Дзядзькі Колі", споўнілася ўсяго васямнаццаць гадоў. Яні і Зоі было і таго меней, адпаведна трынаццаць і адзінаццаць гадоў. Але і яны не засталіся без справы. Дапамагалі гатаваць ежу, наглядалі за параненымі, мылі апратку партызан, а то і як сувязныя ішлі ў наваколныя вёскі. Тацця ж хоць і была ў атрадзе медыцынскай сястрой, але хадзіла ў разведку, на баявыя заданні.

Ёсць што ўспомніць і былому сапёру Васілю Радзіеўскаму (нарыс Сяргея Галоўкі "Пад




грукат цягнікоў прыходзяць успаміны"). Трапіў Васіль Фаміч на фронт пасля вызвалення ад захопнікаў яго роднай Стаўбцоўшчыны. Стаў байцом 591-га асобнага сапёрнага батальёна, з'яўляўся камандзірам аддзялення. Дайшоў да Эльбы, а пасля памятнай сустрэчы з амерыканцамі батальён перакінулі да Берліна. Вайна з разгромам Германіі для яго не скончылася: яшчэ пяць гадоў ён служыў у арміі, што знаходзілася на тэрыторыі гэтай краіны. Цяпер узначальвае Стаўбцоўскую раённую арганізацыю ветэранаў.

Сапраўды: ветэраны заўсёды для сябе занятак знойдуць. Часам і зусім нечаканы, як Канстанцін Барысавец — пра яго ў нарысе "Ваенны "арсенал" фельчара Барысаўца" распавядае Мікалай Чалей. Канстанцін Фёдаравіч, які вестку пра капітуляцыю фашысцкай Германіі сустрэў у Чэхаславакіі, пасля вайны збіраўся паступаць у Ваенна-медыцынскую акадэмію. Ды па сямейных абставінах вымушаны быў развітацца з армейскай службай. Тым не менш скончыў заатэхнічны факультэт аднаго з маскоўскіх ВНУ, абараніў кандыдацкую дысертацыю, потым — доктарскую. 27 гадоў загадваў адным з аддзелаў у Беларускім навукова-даследчым інстытуце жывёлагадоўлі. На пенсію пайшоў у 70 гадоў і нечакана нават для самога сябе заняўся жывапісам. Цяпер кватэру ветэрана ўпрыгожваюць шматлікія яго творы, а аўтар іх, нягледзячы на тое, што яму пайшоў ужо 90-ы год, развітацца з жывапісам не збіраецца.

Вайна — гэта асаблівыя важныя штрыхі у іх біяграфіі. Дый у біяграфіі ўсяго пакалення, да якога належаць героі кнігі "Салдаты Перамогі", а таксама ўсіх тых, хто, прайшоўшы вайну, прынёс нам перамогу. Наш абавязак — памятаць пра гэтых людзей, чаму і паслужыць згаданы зборнік нарысаў.



Міхась Рудкоўскі

Выдатны беларускі паэт першага пасляваеннага прызыву Міхась Рудкоўскі пражыў на гэтым свеце да крыўднага мала — усяго 55 гадоў — і ўжо роўна два дзесяцігоддзі спачывае вечным сном у роднай вёсцы Востраў Ганцавіцкага раёна, на баравым грудку, паблізу рэчкі Нача, дзе спакойна і ціха, дзе "залётная хмарка махне лебядзіным крылом, ды добрая пташка зязюля вясной паваражыць". А нарадзіўся паэт 17 красавіка 1936 года ў сялянскай сям'і, скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна, працаваў настаўнікам, журналістам у ганцавіцкай раённай газеце, старшым рэдактарам на Брэсцкай студыі тэлебачання. У рэспубліканскім друку выступіў з вершамі ў 1959 годзе, выдаў зборнікі паэзіі "Першыя вёрсты", "Сінія Брады", "Позвы", "У краі тым…", "Векавечная Бацькаўшчына", "Засцярога", "Трыгор'е", "Гарынь", кнігу выбраных твораў "Залатазвон". Адметны, самабытны талент Міхася Рудкоўскага адразу заўважылі крытыкі і рэцэнзенты, вызначаючы ў творчасці паэта галоўную лінію — тэму роднага і блізкага, дзіўнае спалучэнне ў мастацкіх вобразах свету малога і свету вялікага — сусвету. У нарысе "След блакітнага алення" дасведчаны і дужа прынцыповы даследчык сучаснай паэзіі Уладзімір Калеснік пісаў: "Сувязь лірычнага героя з жыццём была б аслаблена, калі б ён поўнасцю выжываўся толькі ў лятунках і марах. Герой М. Рудкоўскага не адрываецца ад рэальнасці, ён толькі адыходзіцца часам ад яе канкрэтных праяў, каб лепш убачыць галоўныя падзеі, здольныя ўзвысіць душу", а гэта, як зазначае далей крытык, "няяркі гераізм штодзённай працы сучасніка і гераізм дабраты, сумленнасці, спагадлівасці". Малодшая сястра паэта Ірына Рудкоўская, якая жыве ў вёсцы Хатынічы Ганцавіцкага раёна, неяк перадала мне два сшыткі з вершамі брата, і мне ўдалося знайсці ў іх некалькі твораў, што не былі ўключаны аўтарам у яго перадсмяротную кнігу "Гарынь". Менавіта гэтыя апошнія вершы Міхася Рудкоўскага сёння прапануюцца ўвазе чытачоў "ЛіМа".

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

# Маўклівая самота зарападу…

* * *

*Калі ты праходзіш,*
*Змаўкаюць і пушчы і рэкі:*
*Баяцца парушыць*
*Нашу лагоду і ласку.*
14.04.88

* * *

*Ты кажаш:*
*"Я выбраў дарогу".*
*А можа, дарога*
*Калісьці абрала цябе?*
15.04.88

* * *

*Учора*
*Я пляскаў ў далоні*
*"Азёрам-морам",*
*А сёння*
*Над імі я плачу.*

* * *

*— "Ничто под луной не вечно"...*
*— Ну а пад сонцам як?..*

* * *

*— "Любовь и голод правят миром"...*
*— Ён, голад, — цар.*
*А што любоў?*
17.04.88

* * *

*Высокага не бойся складу,*
*Але хітрынкай не грашы,*
*І ў вершы будзе ўсё да ладу,*
*Як і у праведнай душы.*
20.04.88

* * *

*Благослови мой гроб…*
*Пушкин*

*І я цябе прашу:*
*— Благаславі...*

22.04.88

* * *

*Высокія дзеі і мроі...*
*А што яны?*
*Дзе яны?*
*Дзе?*
*Няўжо яно тое, святое, —*
*Кругі на вадзе?..*

* * *

*І зняверана,*
*І засмучаны,*
*З-пад крыла*
*Наступальнай зары.*
*Я пытаю ў тых,*
*у кучараў:*
*— А як чуецца вам, "змагары"?*

* * *

*Дзеем —*
*пацеем, пацеем:*
*Тушым пажар у Тангізе*
*Трыста... чатырыста дзён.*
*Што нам на вецер штодзённы*
*мільён:*
*Мы багацей за чынгісаў!*

24.04.88

* * *

*Учора яшчэ ён адбіўся*
*Ад двух аж ваўкоў,*
*А сёння не ў сілах адбіцца*
*Ад адной жарабіцы.*

* * *

*У студню*
*спускаюся*
*па каранях.*
*Сарвуся, —*
*Ніхто ўжо не выцягне.*
28.04.88

* * *

*Хацеў, ды не забыць з'яўлення дзень*
*І сонечны, і хмельны, і вялікі,*
*І тыя гімны,*
*тыя лікі, клікі*
*Ў нябёсах, на зямлі і на вадзе.*

*Хацеў бы, ды забыць я не магу*
*Ноч адыходу горкую, як здрада,*
*Маўклівую самоту зарападу*
*І ў цэлым свеце і ў душы тугу...*
2.05.88

* * *

*— Вы часам, ідучы, не стрэлі*
*Сахатага ў лесе? Не?*
*І што? А тое, браце, тое —*
*Не стала друга ў мяне.*

* * *

*Стаю прад табой на каленях,*
*У аблітай слязьмі валасніцы*
*І малю:*
*— Вярні мне*
*Маю душу!*

15.05.88

* * *

*Ты маўчыш.*
*Чаму ж і праз стагоддзі*
*Чую твой голас,*
*Марыя?*

* * *

*— Ты бачыш,*
*Яны ўзялі ўжо моду*
*Крычаць: недабор! Недарод!*
*Як быццам мы, верныя слугі народа,*
*Не думалі пра народ.*

* * *

*Бывала,*
*То я пад сасною плакаў,*
*То сасна — нада мною,*
*А сёння мы плачам*
*Абое разам.*
26.05.88

* * *

*З прыродай ты змагаўся, кажаш, браце?*
*О, не! О, не!*
*Змагаўся з роднай маці ў роднай хаце.*
*А што, як не даруе,*
*Пракляне?..*

* * *

*Пачаў ён барацьбу са злом, —*
*Аленем лёг, а ўстаў казлом.*

* * *

*Вы згрызлі крылы мне. Так хамякі*
*Згрызаюць злакі, цягнучы у норы*
*Сваіх аседлых лежбішчаў-кантораў.*
*Ах, хамякі вы, хамякі!*

*А што калі і ён наспее, час,*
*Калі мой брат, узняўшыся з аблокаў,*
*Звысоку хоць зірне арліным вокам —*
*Што стане з вас?*
*Што стане з вас?..*

30.06.89

* * *

*І чаму я цябе не ўбачыў,*
*Прамінуў у далёкіх начах?..*
*Чуеш? — возера ў прыцемку плача*
*І ўздыхае, як бацька, прычал.*

*Пад дакорамі хваль і дакорам*
*Я уласнага сэрца стаю:*
*Праклінаю сябе і у зморы*
*Ўспамінаю я песню сваю —*

*Тую, даўнюю і маладую,*
*Абарваную там, на хаду...*
*Я шкадую, я вечна шкадую, —*
*А мяне ты — прашу — не шкадуй.*
10.07.89

* * *

*Наспеў ён, час —*
*Час іспытаў вялікіх?*
*Хто ты?*
*Адкуль ты?*
*І ідзеш куды?*

*І я цябе здалечыні паклікаў*
*Паправіць разам нашы невады.*

*Сышлі ільды.*
*І за ракой світае.*
*І мучыць кроў, бы колісь, жураўлі...*

*Мы многае спазналі, дарагая,*
*Ды многага спазнаць і не змаглі...*

18.07.89

* * *

*У гэтых нетрах начуюць вятры,*
*У гэтых нетрах заранкі начуюць.*
*Гавары, пра ўсё гавары:*
*Ў сне яны не пачуюць.*

* * *

*Пілі-елі, дурэлі, свінілі*
*І яшчэ нахамілі здаля...*
*...Мяч дзіцячы чарнее ў пыле,*
*Як забытая Богам Зямля.*

7.09.89

## Зачараваны дубок

*Варажыла і зеллем паіла,*
*Мілавала ўначы як магла.*
*Галаву да канца ускружыла,*
*Павяла, туманом спавіла.*

*І стаю, як прывід, я на схіле,*
*Не паспеўшы як след адцвісці.*
*І у неба узняцца не ў сілах,*
*І ў магілу не ў сілах сысці.*

8.09.89

* * *

*Шапнула яна:*
*— Мой мілы!.. —*
*І ён прашаптаў:*
*— Люблю! —*
*І ўпалі яны без сілы*
*На грэшную на зямлю.*

*Было ў цэлым свеце хмельна,*
*Дурманна нат без віна...*
*І добра было ім вельмі*
*Да самага дня, да дна.*

*І раніцай у агародзе*
*Дваім рута-мята цвіла...*

*І ён быў яшчэ не ў разводзе,*
*І яна шчэ не ў модзе была.*
19.09.89

**Публікацыя Ірыны РУДКОЎСКАЙ**

# Памяці земляка і паэта



Іван Лагвіновіч

З Іванам Лагвіновічам я сустракаўся толькі адзін раз — у Зэльве, на святкаванні угодкаў Ларысы Геніюш. Але я ведаю, што Іван Лагвіновіч — мой зямляк, што нарадзіўся ён у 1940 годзе на хутары Запрапасць Ганцавіцкага раёна, непадалёк ад сяла Малькавічы.

Як і многія беларускія юнакі, Іван Лагвіновіч паехаў на заробкі ў Данбас і асеў там на шмат гадоў. Працаваў у шахце пад зямлёю, а потым, калі сваё пачалі браць і ўзрост, і прафесійная хвароба, — на паверхні, на абагачальнай фабрыцы.

У 1990 годзе ён вярнуўся на Бацькаўшчыну. Стаў жыхаром Баранавічаў.

Такое рэдка бывае, але ўсё ж бывае. На Бацькаўшчыне ў Івана Лагвіновіча, чалавека ўжо сталага, прарэзаўся паэтычны зуб. І на самым пераломе стагоддзяў ён выдаў адзін за адным два зборнікі — "Разлукі выраёвыя" і "Піліпаўка".

Першаю трапіла мне на вочы (нават не скажу, у якіх абставінах) другая кніжачка вершаў Івана Лагвіновіча, і я "праглынуў" яе за адзін раз. І не ўстрымаўся, патэлефанаваў Міхасю Скоблу, каб падзяліцца сваім адкрыццём (ёсць яшчэ адзін добры паэт) і сваёй радасцю (гэты паэт — мой зямляк). І мяне ўсцешыла, што маю радасць падзялілі і Міхась Скобла, і Леанід Галубовіч, і іншыя знаўцы паэзіі. Вершы майго земляка трапілі ў анталогію беларускай паэзіі XX стагоддзя "Краса і сіла".

Потым былі іншыя кніжкі Івана Лагвіновіча: "Ляда юдолі" (2003), "Далёкае і блізкае" (2004), "Палыновыя кветкі" (2007). Рыхтаваўся (і рыхтуецца) да друку чарговы зборнік, з загалоўкам — "Элегія палескага матыля". Сябры хацелі, каб ён выйшаў яшчэ пры жыцці цяжкахворага паэта. Не атрымалася: пасля працяглых пакут Іван Лагвіновіч адышоў у вечнасць.

У Малькавічах ва ўрочышчы Красунь, дзе спачываюць мае сваякі, сябры і знаёмыя, грэка-каталіцкі святар айцец Яўген Маліноўскі, сябры і таварышы развіталіся з Іванам Лагвіновічам. Там, на ўзгорку, пад векавымі хвоямі прагучала жалобнае і разам з тым аптымістычнае *Вечная памяць*.

Бывай, Іване, мяккім пухам табе наша родная палеская зямелька.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
фота аўтара

# Што чытаюць у Магілёве?

**Каб адказаць на гэта пытанне, можна завітаць у мясцовыя бібліятэкі ці наладзіць адпаведнае апытанне на вуліцах горада. Аднак мы выбралі іншы варыянт і разам з начальнікам аддзела друку ААТ "Магілёўсаюздрук" Інай Ракевіч прайшліся па магілёўскіх кнігарнях.**

### Агульны партрэт

Сённяшні стан кніжных устаноў горада немагчыма зразумець без згадкі пра падзеі, якія адбыліся ў сярэдзіне 2000-х гадоў. Тады кніжныя крамы амаль ва ўсіх абласных цэнтрах былі далучаны да абласных аддзяленняў "Белкнігі". Выключэнне — кнігарні Магілёва, якія сталі часткай "Магілёўсаюздрука" і з таго часу падпарадкоўваюцца аддзелу друку гэтай установы.

У структуру "Магілёўсаюздрука" ўваходзяць чатыры кніжныя крамы: "Мир", "Мысль", "Світанак" і "Раніца". Ва ўсіх установах быў зроблены рамонт і ўведзена сістэма штрыхсканіравання, якая дазваляе мець інфармацыю пра рэалізацыю тавараў, кніг, якія карыстаюцца найвялікшым попытам. У крамах прадстаўлена каля 37 тысяч назваў кніжнай прадукцыі. Больш як 1700 з іх складае прадукцыя айчынных выдавецтваў. Побач з кнігамі прадаюцца перыядычныя выданні, тут прадстаўлены багаты выбар рэспубліканскай перыёдыкі, у тым ліку і "ЛіМ". Кнігарні працуюць па сістэме самаабслугоўвання.

### Разам і паасобку

Чатыры кнігарні ўяўляюць сабой адзіны механізм, часткі якога ў пэўных момантах дзейнічаюць асобна, праз арыентацыю на пэўнага чытача або прадукцыю, а ў іншых — узаемазвязана.

Кнігарня **"Мир"**, размешчаная на вуліцы Першамайскай, 9/2, арыентуецца на спажыўца тэхнічнай і юрыдычнай літаратуры. Паводле слоў яе загадчыка Валянціны Сініцкай, крама плённа супрацоўнічае з Беларускім інстытутам правазнаўства, Рэспубліканскім цэнтрам прававой інфармацыі, выдавецтвамі "Дикта" і "Амалфея". Продаж кніг залежыць ад шэрагу фактараў. Напрыклад, навучальная літаратура карыстаецца асаблівым попытам перад пачаткам і ў пачатку навучальнага года (жнівень, верасень, кастрычнік), а таксама напрыканцы вясны (у маі).

Крама **"Раніца"** знаходзіцца на праспекце Міра, 39. Яна меншая па памеры. У кнігарні прадстаўлена ў асноўным навучальная літаратура. Але на яе папулярнасць вельмі ўплывае сезон. Напрыклад, пасля пачатку навучальнага года вучэбныя выданні могуць складаць да 90 працэнтаў продажу. Цяпер, вясной, суадносіны мастацкай і навучальнай літаратуры складаюць 50 на 50 працэнтаў. "Сярод мастацкай літаратуры кожнай узроставай групе цікава нешта сваё, — адзначае загадчыца крамы Вольга Аляксеева. — Моладзь у асноўным арыентуецца на фэнтазі, сталае пакаленне — на рускую класіку, гістарычныя раманы Валянціна Пікуля, жаночая частка насельніцтва — на дэтэктывы і жаночыя раманы. Госці з блізкага замежжа таксама цікавяцца падарункавымі фотаальбомамі".

Самай вялікай крамай з'яўляецца **"Мысль"**, размешчаная на праспекце Міра, 10. Тут акцэнт зроблены на навучальнай і прававой літаратуры. З мастацкай літаратуры вялікім попытам карыстаецца руская і беларуская класіка, дэтэктывы, універсальная і псіхалагічная літаратура.

На дзейнасць крамы **"Світанак"**, якая месціцца на праспекце




Міра, 9, аказвае істотны ўплыў яе размяшчэнне: побач знаходзяцца бібліятэчны тэхнікум і Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Аркадзя Куляшова, якія актыўна супрацоўнічаюць з кнігарняй. А вось тэхнічнай літаратуры тут прадаецца меней. Магчыма, таму, што побач няма вялікага прадпрыемства. Кнігарня актыўна працуе і са школьнымі бібліятэкамі. Тут найбольш запатрабаванымі з'яўляюцца падручнікі па псіхалогіі і педагогіцы, метадычная літаратура. Тым больш што "Світанак" з'яўляецца апорнай крамай выдавецтва "Народная асвета". Шмат прадаецца кніг для дзяцей. Часам можна нават прасачыць эвалюцыю дзіцяці, змену яго чытацкага густу. Часта завітваюць у кнігарню студэнты, прычым, па старой звычцы, нават пасля завяршэння вучобы. З мастацкай літаратуры пераважаюць кнігі гісторыка-біяграфічнай скіраванасці, серыі (напрыклад, фантастыкі), творы, уключаныя ў вучэбныя праграмы.

Як жа праяўляецца сумесная дзейнасць кнігарняў? Перш за ўсё, у агульнай каардынацыі працы. Акрамя таго, у кожнай краме вывучаюць зацікаўленасць насельніцтва выданнямі. Калі пакупнік цікавіцца новай кнігай, у яго бяруць дадзеныя, звязваюцца з выдавецтвамі, і ў найбольш кароткі час кніга знаходзіць свайго чытача. Можна заказаць кнігі і праз электронную пошту (на сайце"Магілёўсаюздрука"). Існуе магчымасць пакупкі непасрэдна праз Інтэрнэт.

### Выбіраем беларускае!

Якія творы беларускай літаратуры цікавяць магіляўчан? Якія творцы найбольш папулярныя? Апытанне загадчыкаў кнігарняў намалявала ў нечым прадказальныя, а ў нечым нечаканыя для літаратараў вынікі. Заўважу, што наўмысна не згадваў ніякіх прозвішчаў, бо творы, названыя без падказкі, больш праўдзіва адлюстроўваюць сітуацыю.

Ва ўсіх кнігарнях па-ранейшаму попытам карыстаецца класіка. Лідзіруюць Іван Шамякін і Уладзімір Караткевіч, Максім Багдановіч, Васіль Быкаў і Іван Мележ, а таксама кнігі, выдадзеныя ў серыі "Школьная бібліятэка". З творчасці Уладзіміра Сямёнавіча асабліва папулярная аповесць "Дзікае паляванне караля Стаха". Як мяркуе В. Аляксеева, гэта звязана, у тым ліку, і з удалай экранізацыяй. З сучасных беларускамоўных пісьменнікаў лідзіруе Алесь Марціновіч са



сваёй серыяй "Гісторыя ў асобах". Папулярныя творы Аляксея Дударава, Людмілы Рублеўскай, Віктара Шніпа, Анатоля Клышкі (перш за ўсё яго легендарная "Азбука").

З рускамоўных беларускіх аўтараў па-за канкурэнцыяй застаецца дуэт Тамары Лісіцкай і Наталлі Батраковай. Магчыма, мяркуюць самі супрацоўніцы кнігарняў, на ажыятаж вакол імя Лісіцкай і яе рамана "Ідыёткі" паўплывала нядаўняя прэзентацыя з удзелам аўтара, якая прайшла ў Гарадскім цэнтры культуры. Што да Батраковай, дык паэтычныя творы апошняй чытачы часам нават таемна перапісваюць. А раманы "Тэрыторыя душы" і "Плошча згоды" да такой ступені папулярныя, што да В. Аляксеевай перыядычна звяртаюцца з пытаннем, калі ж выйдзе трэцяя кніга пісьменніцы.

Сярод навукова-папулярнай літаратуры сапраўдным бестселерам з'яўляецца кніга "Залатыя правілы народнай культуры" Янкі Крука і Аксаны Катовіч. Кніга расказвае пра кожны дзень года, пра найбольш значныя каляндарныя святы, а таксама пра забароны і прадпісанні, правілы паводзін чалавека, сям'і, роду, якія звязаны з падрыхтоўкай і правядзеннем абрадаў — нараджэння, хрышчэння, вяселля, пахавання. Яе набылі не толькі пакупнікі, але і супрацоўнікі "Магілёўсаюздрука". Прычым многія не па адным асобніку.

### Што шукаюць, але не знаходзяць пакупнікі?

Якія кнігі неабходныя чытачам? Пра якія выданні пытаюцца ў прадаўцоў, а тыя не могуць адказаць нічога пэўнага? Паводле слоў загадчыцы крамы "Світанак" Надзеі Бабковай, "не хапае развіваючай літаратуры для дашкольнікаў, а таксама метадычнай літаратуры для працы з дзецьмі такога ўзросту (напрыклад, планаў-канспектаў па лепцы, маляванні). Хацелася б бачыць перавыданні асобных кніг прозы і паэзіі, якія выйшлі ў 1980-я гады. Вельмі не хапае сціслай хрэстаматыі па беларускай літаратуры. Адзінае выключэнне — "Беларуская літаратура. Пазакласнае чытанне. 2 — 4 класы". Загадчык кнігарні "Мысль" Вольга Касцікава дадае, што не хапае сучаснага альбома пра Магілёў, выдадзенага на некалькіх мовах пра выдатныя мясціны горада (папярэдні выходзіў у выдавецтве "Мастацкая літаратура"). А вось загадчык кнігарні "Раніца" Вольга Аляксеева мяркуе: "Айчынным выдавецтвам неабходна звярнуць увагу на выданне беларускамоўных дзіцячых кніг у больш шырокім асартыменце і па больш даступных цэнах. Да нас часта звяртаюца маладыя мамы, якія хочуць навучыць сваё дзіця роднай мове".

### "Заходзь, дарагі, госцем будзеш!"

Як завабіць у кнігарню чалавека "з вуліцы"? Як зацікавіць яго набыць кнігу? Магілёўскія кнігарні прапануюць самыя разнастайныя сродкі. Напрыклад, рэклама кніжных выданняў ажыццяўляецца па тэлебачанні, радыё і ў мясцовых газетах. Ва ўсіх кнігарнях гучаць спакойныя кампазіцыі, каб не перашкодзіць людзям зрабіць свой выбар. З пэўнай перыядычнасцю гучыць інфармацыя пра кніжныя навінкі, яна абнаўляецца раз на трычатыры тыдні.

Кожная кнігарня акцэнтуе ўвагу пакупнікоў на пэўнай літаратуры, дзякуючы такім акцыям, як "Тэрыторыя нізкіх цэн", "Любая кніга да 5 тысяч", "Любая кніга да 10 тысяч", "Кніга за паўцаны" (ва ўсіх крамах), "Агарод без памылак" (кнігарня "Світанак"). Акрамя таго, крамы наладжваюць прэзентацыі з нагоды свят. Напрыклад, на кніжных паліцах "Мысли" з нагоды Міжнароднага дня паэзіі з'явілася аднайменная рубрыка, у рамках якой прадстаўлены выданні з серый "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі" і "Беларускі кнігазбор". А ў кнігарні "Мир" нядаўна былі наладжаныя выставы, прысвечаныя 90-годдзю выдавецтва "Беларусь", Міжнароднаму дню роднай мовы і Міжнароднаму дню паэзіі.

### Спроба падагульнення

Як ацаніць узровень працы магілёўскіх кнігарняў? Зразумела, існуюць афіцыйныя крытэрыі. Напрыклад, перамогі на разнастайных конкурсах. У 2008 годзе кнігарня "Мысль" была адзначана дыпломам II ступені ў намінацыі "Лепшая кніжная крама", а таксама дыпломам Міністэрства інфармацыі краіны "Лепшая кніжная крама". У 2010 годзе супрацоўніца крамы "Мир" Ларыса Траццякова ўзнагароджана дыпломам I ступені на конкурсе "Лепшы прадавец кніг", які праводзіўся Міністэрствам інфармацыі Беларусі. А сёлета "Мир" атрымаў дыплом Міністэрства інфармацыі "Лепшая кніжная крама" па выніках працы за мінулы год.

Але галоўнае, бадай, не ў гэтым. Не сумняваюся, што любы кнігалюб, які ўпэўнены, што цікавыя кнігі можна набыць толькі ў межах сталіцы, будзе прыемна здзіўлены. Так, магчыма, некаторыя выданні з малым накладам сапраўды можна знайсці толькі ў Мінску. Але ў астатнім чытач амаль не адчуе розніцу паміж асартыментам, які прадстаўляюць кнігарні Мінска і Магілёва.

*На здымках: магілёўскія кнігарні "Мысль" і "Світанак".*

# Таямніцы старадрукаў

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
фота Кастуся Дробава

**Не так даўно пры сталічнай кнігарні "Кніжны салон" арганізаваны клуб бібліяфілаў, які стаў месцам сустрэчы людзей, неабыякавых да кніжнай справы. Падрабязнасці працы аб'яднання, а таксама знаходкі і дасягненні беларускіх кнігазнаўцаў — у нашай гутарцы з загадчыкам аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандрам Сцефановічам.**

— Захапленне кнігамі пачалося ў мяне, як, бадай, у кожнага кніжніка, з дзяцінства. Наогул, літаратуру ў нашай сям'і збіраў бацька, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Але ў яго была свая цікавасць, таму хатнюю бібліятэку часцей за ўсё папаўняла ваенная літаратура, кнігі палкаводцаў, пад кіраўніцтвам якіх бацька служыў (напрыклад, Жукава, Ракасоўскага). Ён з'яўляўся сябрам таварыства кнігалюбаў. Сам бацька класіку не чытаў, але разумеў яе значнасць для мяне. Таму дома мелася добрая бібліятэка.

Уласным пошукам і зборам кніг заняўся пазней. У 9—10 класах сферай інтарэсу сталі выданні па беларускай літаратуры. Яны былі ў свабодным продажы, хаця, як потым высветлілася, не пазбаўленыя купюр. Пасля школы пайшоў працаваць на завод, але неўзабаве зразумеў, што мне не хапае свайго асяроддзя. Таму ў 25 гадоў паступіў на вячэрняе аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ. Гэта стала штуршком для перачытання рускай класікі (Лермантава, Гогаля, Грыбаедава, Салтыкова-Шчадрына, Дастаеўскага), а потым і збору адпаведных кніг. Працаваў экспедытарам у Нацыянальнай бібліятэцы (тады яна мела назву Ленінскай), а ў 1985 годзе, калі вучыўся на 4 курсе, Лідзія Іванаўна Збралевіч, загадчык аддзела рэдкай кнігі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа, запрасіла да сябе на працу. Дома ў асноўным захоўваю класіку, а таксама мемуарную літаратуру, фэнтэзі (маю на ўвазе кнігі, дзе прысутнічае фальклор і нацыянальны каларыт). Люблю чытаць творы ўсіх прадстаўнікоў "Срэбнага стагоддзя", Васіля Гросмана, Яўгена Еўтушэнкі, Фрыдрыха Гарэнштэйна, Дзіны Рубінай, Яўгена Рэйна.

**— Што падштурхнула вас да працы ў бібліятэцы, тым больш у аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў?**

— У бібліятэцы працую з 1985 года, а з 2000 года ўзначальваю аддзел. З'явілася адразу некалькі магчымасцей. З аднаго боку, я атрымаў доступ да старадрукаў, пасля чаго мог параўноўваць атрыманыя звесткі з лекцыямі выкладчыкаў і нават уступаць з імі ў спрэчкі. З другога боку, у савецкія часы значны масіў літаратуры выдаваўся ў купюрах. Прычым гэта тычылася не толькі такіх "крамольных" аўтараў, як Шапенгаўэр, Ніцшэ, Метэрлінк, якія наогул забараняліся і перадаваліся ў так званыя "першыя аддзелы", а нават рускай класікі (у прыватнасці твора Гогаля "Выбраныя месцы з перапіскі з сябрамі"). Чытаць арыгінальныя творы можна было толькі ў бібліятэках або ў дзяржаўных органах, якія выдавалі адпаведныя дазволы. Але нават студэнтам выдаваліся лічаныя асобнікі, якія заўсёды знаходзіліся на руках. Між тым, такая "забароненая" літаратура раскрывала адваротны бок савецкага жыцця.



Павялічвалася мая цікавасць да яе. Але наклад такіх кніг быў вельмі маленькі. Таму некаторых аўтараў можна было прачытаць толькі ў дарэвалюцыйных выданнях або ў машынапісу (як вершы Мікалая Гумілёва).

Так паступова павялічвалася мая цікавасць да рэдкіх кніг і старадрукаў. Яны стваралі атмасферу таямнічасці, недаказанасці. Заўсёды цікава было пачытаць на палях запісы ўладальнікаў кніг. Часам гэта давала больш інфармацыі пра выданне, чым сам твор. У бібліятэку яе супрацоўнікі трапляюць па-рознаму: хтосьці выпадкова, іншыя — асэнсавана. Але калі працаваць тут доўга, немагчыма не зрабіцца фанатам кніжнай справы.

**— Якія кніжныя багацці знаходзяцца ў фондзе аддзела? Ці вядзецца іх навуковая апрацоўка?**

— У якасці самастойных комплексаў у фондзе прысутнічаюць прыватныя зборы князёў Радзівілаў, пісьменнікаў Пятра Глебкі (каля 3 тысяч кніг), Янкі Брыля, Анатоля Вялюгіна, вучоных Браніслава Эпімаха-Шыпілы, Паўла Беркава (каля 12 тысяч кніг), Адама Багдановіча (каля 2 тысяч кніг), Міхаіла Спірыдонава, Ібрагіма Канапацкага, аднаго з кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі, кіраўніка рэспублікі Панцеляймона Панамарэнкі і іншых. Вельмі каштоўнай з'яўляецца бібліятэка вядомага беларускага паэта, акадэміка НАН Беларусі Пятра Глебкі, якая падчас вайны знаходзілася на акупаванай тэрыторыі і захавалася ў поўным аб'ёме. У зборы прысутнічае шэраг выданняў рэпрэсіраваных пісьменнікаў, некаторыя з якіх не перавыдаваліся дагэтуль. Тое, што Глебка захоўваў іх у сябе, стварае яму гонар, бо за такі ўчынак у сталінскі час можна было страціць не толькі свабоду, але і жыццё.

Што тычыцца непасрэднай працы, то цяжка пералічыць усе яе аспекты. Гэта арганізацыя выставак, навуковых канферэнцый. Напрыклад, у маі гэтага года плануецца правядзенне міжнароднай навуковай канферэнцыі "Беркаўскія чытанні. Кніжная культура ў кантэксце міжнародных кантактаў", прысвечанай 115-годдзю з дня нараджэння літаратуразнаўцы, кнігазнаўцы, крыніцазнаўцы, гісторыка літаратуры Паўла Беркава.

Прымаю ўдзел у рабоце клуба аматараў кнігі, які арганізаваны кнігарняй "Кніжны салон". Такая ідэя ўзнікла ў Лідзіі Збралевіч яшчэ ў 1970-я гады, але па пэўных прычынах не атрымала развіцця. Цяпер на пасяджэннях мы абмяркоўваем апошнія навіны кнігазнаўства, разбіраем новыя выданні. Напрыклад, тэмай адной з сустрэч стала кніга Уладзіміра Крукоўскага "Срэбная страла ў чырвоным полі", прысвечаная беларускай шляхецкай геральдыцы. Падчас апошняга пасяджэння адбылася прэзентацыя каталога "Бібліятэка Радзівілаў Нясвіжскай ардынацыі".

**— Якія кніжныя праекты на рахунку вашага аддзела?**

— Мяркую, неабходна расказаць чытачам пра працу над зборам князёў Радзівілаў. Да нас у бібліятэку ён трапіў у студзені 1941 года. Колькасць адзінак захоўвання складала 20 тысяч. Зразумела, за паўгода апісаць фонд немагчыма. Калі пачалася вайна, бібліятэку запакавалі ў скрыні і вывезлі ў Германію. Увесь час баявых дзеянняў яна прастаяла ў эшалонах. А ў 1945 годзе вярнулася ў Беларусь у якасці рэпатрыяцыі. Частка кніг з гэтага збору трапіла ў цяперашнюю Нацыянальную бібліятэку (каля 500 кніг), частка — у Прэзідэнцкую, але большасць, каля 3,5 тысяч, да нас, паколькі на кніжках стаялі нашыя штампы. Цяпер мы вядзём навуковае апісанне гэтых кніг. У 2010 годзе ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшаў унікальны каталог "Бібліятэка Радзівілаў Нясвіжскай ардынацыі= Library of the Radziwills of Nesvizh Ordination", прысвечаны гісторыі фарміравання і развіцця бібліятэкі XV—XVI стагоддзяў. Як бачна з назвы, ён створаны на дзвюх мовах — рускай і англійскай. Складальнікамі выступілі Марына Ліс і я. У Беларусі гэта першае навуковае выданне, якое апісвае кнігі, што знаходзяцца ў нашай краіне.

Выданне пачынаецца з уводнага артыкула на дзвюх мовах, напісанага дырэктарам Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Наталляй Бяроэкінай і мной. Далей змешчаны пасапэдны навуковы каталог, дзе даецца поўнае апісанне 27 дакументаў. Адзначана наяўнасць калантытулаў, выдавецкай маркі і іншых элементаў кніжнага афармлення, дадзена падрабязнае апісанне вокладак, прыводзяцца звесткі пра захаванасць кніг. Звернута ўвага на індывідуальныя асаблівасці разгледжаных выданняў: наяўнасць суперэкслібрысаў, экслібрысаў, пячатак, штэмпеляў, а таксама маргіналій і іншых запісаў з указаннем іх пэўнага месцазнаходжання ў дакументах. Дадзеныя забяспечаны багатым ілюстрацыйным матэрыялам: малюнкамі вокладак, тытульных лістоў, выдавецкіх марак, экслібрысаў, пячатак, фрагментаў тэксту, гравюр, заставак, канцовак і іншых элементаў кнігі, а таксама ўзораў уладальніцкіх і іншых запісаў.

Таксама ў выданне ўключаны дапаможны апарат. У яго ўвайшоў паказальнік імёнаў аўтараў, каментатараў, перакладчыкаў і іншых асоб, згаданых у апісаных дакументах; паказальнік друкароў, прыватных асоб і ўстаноў — уладальнікаў дакументаў; тэрміналагічны слоўнік, а таксама спіс выкарыстаных крыніц і скарачэнняў. Дарэчы, праграма па апісанні радзівілаўскай спадчыны разлічана да 2015 года. Цяпер вядзецца праца над працягам, які будзе ахопліваць перыяд XVII стагоддзя.

## *Знаете ли вы, что...*

Вячеслав АФАНАСЬЕВ

*…Книга под названием "Азбука гражданская, с нравоучениями от священного писания по алфавиту избранная — слыши сыне і вразумлеіся" вышла без года и места издания. Однако известный библиограф и книговед Бурцев в своём исследовании "Описание редких книг" пишет, что Азбука эта, надо полагать, была написана белорусом Ильёй Копиевским в 1700 году в Амстердаме, в его собственной типографии, новым русским шрифтом и что эта книга в настоящее время составляет большую библиографическую редкость. Заметим, что Азбука является второй известной нам книгой, набранной новым, так называемым гражданским шрифтом. Первая книга, напечатанная в Амстердаме по распоряжению Петра I, вышла в апреле 1699 года и называлась "Введение краткое во всякую историю…"*

* * *

*…Одной из первых, если не самой первой русской книгой о нашем западном крае, является официальный путеводитель "Топографические примечания на знатнейшие места путешествия её Императорского Величества в Белорусские наместничества". Издан он Санкт-Петербургской академией наук в 1780 году. Причём, было изначально сделано сразу два издания: одно, снабжённое гравюрными орнаментами, — 147 страниц, другое, лишь с немногими сокращениями, — 133 страницы. Оба эти издания напечатаны одним набором. Книга начинается географическим описанием местности и городов, лежащих на пути из Петербурга в Белоруссию: Красное Село, Ямбург, Нарва и другие населённые пункты, затем следует описание Белоруссии по тогдашним наместничествам — Полоцком и Могилёвском с их уездами. Следует сказать, что составителями этих «Топографических примечаний…» были известные российские академики XVIII века И. И. Лепёхин, П. С. Палас, Л. Ю. Крафт и другие учёные.*

## *Азбука Морзэ*

Чэслава ПАЛУЯН

● Прэзентацыя кнігі "На шляху да высокага неба. Жыццёвы і творчы шлях Міколы Трухана", што пабачыла свет у выдавецтве "Беларуская навука", пройдзе 27 красавіка ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь. Фактычна, кніга — асабісты архіў Міколы Трухана, стваральніка ўнікальнага тэатра "Дзе-Я?", апрацаваны складальнікам, удавой рэжысёра Сафіяй Русак.

— Захаплялная біяграфія Юрыя Гагарына выйшла ў расійскім выдавецтве "Молодая гвардия" да 50-годдзя першага палёту ў космас. Яна дае адказ на многія пытанні пра лёс героя, якія раней былі загадкай для біёграфаў і чытачоў. Гэта сучаснае выданне, якое цікава чытаць маладым людзям. Біяграфія створана ў незвычайнай для такога жанру форме, што дазваляе адказаць на пытанні — чаму менавіта Гагарын стаў першым касманаўтам, ці быў у яго канфлікт з кіраўніцтвам СССР, якая сапраўдная прычына яго гібелі?

● Найбуйнейшы расійскі інтэрнэт-кнігагандляр Ozon.ru прадставіў гадавую справаздачу сваёй дзейнасці. Так, у параўнанні з 2009 годам агульны абарот павялічыўся на 34 працэнты і склаў 4,-15 мільярда расійскіх рублёў. Продажы кніжнай прадукцыі па выніках мінулага года выраслі на 33,5 працэнта і склалі 1,57 мільярда рублёў. У колькасных адносінах аб'ём кніжных продажаў таксама значна вырас — на 36 працэнтаў і дасягнуў 5,2 мільёна асобнікаў.

— Распачала працу Лонданская кніжная выстаўка-кірмаш, ганаровым госцем якой у гэтым годзе ўпершыню з'яўляецца Расія. Акрамя мерапрыемстваў, запланаваных у межах кірмашу і традыцыйна арыентаваных на прафесійнае выдавецкае супрацоўніцтва, арганізатары праекта **Russia Market Focus 2011** правядуць шырокую літаратурную праграму ў Лондане і іншых гарадах Брытаніі, у асноўным скіраваных на масавага чытача. Гэтыя мерапрыемствы распачаліся за некалькі дзён да адкрыцця кірмашу і працягнуцца да сярэдзіны красавіка.

● Пабачыў свет новы выпуск часопіса для прафесіяналаў "Книжная индустрия". Тэма чарговага нумара — "Кніжны магазін на парозе перамен: экспертная ацэнка". Які партрэт кліента ў інтэр'еры двухгадовага выправабавання крызісам? Чыя фігура застаецца ключавой у кніжным гандлі? На гэтыя і і ншыя пытанні даюць адказы, а таксама разважаюць пра дынаміку густаў і запатрабаванняў аўдыторыі, цану на кнігі, гатоўнасць да ўспрымання электронных інавацый у сферы кнігагандлю аўтары і іх суразмоўцы-эксперты.

— Дэтэктыўны раман Стыга Ларсана "Дзяўчына з татуіроўкай дракона" ўжо ў тры разы перавысіў раней недасягальны для электронных кніг тыраж у мільён экзэмпляраў. Па дадзеных The New York Times, у ЗША за месяц прадаецца не менш як 500 тысяч кніг Ларсана (ва ўсіх фарматах). Як адзначае выданне, раней ні адно выдавецтва не заяўляла публічна, што нейкі асобны твор у электронным выглядзе змог узяць "мільённую планку", гэты лік дасягаўся толькі сумарна для розных кніг аднаго аўтара.

● Літаратар Рыгор Чхарцішвілі, які піша дэтэктывы пад псеўданімам Барыс Акунін, выдасць кнігу, заснаваную на ўласных запісах у ЖЖ. Кніга атрымала такую ж назву, як і блог, — "Любоў да гісторыі". Па словах пісьменніка, яна будзе складацца з "гістарычных мініяцюр з малюнкамі". У выданне ўвойдуць і некаторыя з самых цікавых каментарыяў да блога.

# Пособия для релаксации













**В наши дни люди снимают стресс и расслабляются по-разному. Йога, бассейн, спортзал, прогулка, чтение, пикник с друзьями... Но есть и проверенные временем, уже почти традиционные способы расслабления, которые к тому же требуют значительных затрат сил и времени — рыбалка, охота, разведение рыбок и маленьких домашних животных, наведение порядка на приусадебном участке. Именно о книгах, посвящённых этим любимым занятиям и изданных ООО “Харвест”, сегодня пойдёт речь.**

**Юзефа ВОЛК,**
**Ольга ПАВЛЮЧЕНКО,**
**Денис МАРТИНОВИЧ**

## Заглянем в аквариум

Городской житель оторван от природы, поэтому совершенно естественно его желание перенести хотя бы какой-то её кусочек к себе домой, чтобы независимо от времени года с ней соприкасаться. Поэтому и заводят в городских квартирах животных, птиц, насекомых, но только аквариум может воссоздать в миниатюре почти подлинную картину живой природы. Что может сравниться с наслаждением, которое испытываешь, любуясь причудливыми картинками рукотворного уголка подводного царства? Зачарованный и успокоенный этой красотой, наблюдаешь, как стремительно проносятся полосатые данюшки, следом за ними проплывают скалярии…

Иметь такое подводное царство у себя дома желают многие, однако уход за аквариумом — дело достаточно сложное и хлопотное. Но преодолеть все сложности и справиться со всеми хлопотами в этом деле поможет правильная книга. В яркой, красочно иллюстрированной энциклопедии **“Аквариум” Дарьи Ермакович** содержится исчерпывающая информация о том, какие бывают аквариумы, как их правильно подобрать, как ухаживать за ними и их обитателями. Книга расскажет об основных отрядах, семействах и родах рыб, о том, какие болезни могут быть у них и как их лечить.

## Что идеально для рыбок?

Прежде чем завести аквариум, новичкам в этом деле предстоит приобрести определённый запас знаний не только о рыбках — непосредственных “жителях” аквариума, но и о том, как создать благоприятную для них среду обитания. А сделать это можно и нужно прежде всего с помощью растений, при этом принимая во внимание, что аквариумные растения значительно отличаются от обычных и уход за ними должен быть соответствующим — с учётом их физических и химических потребностей. Под химическими потребностями подразумевается подходящее качество воды — тогда растения смогут получать питательные вещества и избавляться от “отходов” так, чтобы это не препятствовало их росту и не вело к накоплению загрязняющих или токсичных веществ. Под физическими потребностями растений можно понимать их потребности в субстрате, богатом питательными веществами и имеющем адекватное строение, чтобы растения могли пустить корни. Если обеспечить все эти условия и поддерживать их на должном уровне, зелёные обитатели аквариума сами “позаботятся” о том, чтобы всё выглядело красиво.

Но это звучит слишком сложно. Как всё-таки обеспечить правильные условия для рыбок и растений? Какие растения выбирать? Как за ними ухаживать? На эти и многие другие вопросы даст ответ книга **Питера Хискока “Растения для вашего аквариума”**, которая вышла в серии “Аквариумист”. А этот автор знает о рыбках и благоприятных для них условиях не понаслышке. Он с детства увлекался аквариумами и уже в семнадцать лет был назначен менеджером специализированного магазина. Позже принимал участие в написании многочисленных работ, посвящённых “водной жизни”. Думаю, этому автору и его книгам можно смело доверять.

## Охота пуще неволи

Пожалуй, только описание лошадиной сбруи знакомо нам из классической русской литературы настолько же хорошо, как ритуалы, порядок и эмоции, связанные с охотой. Ибо нет такого русского классика, перу которого были бы чужды лай борзых и гончих, звук манка, топот копыт и — вот оно — разящий выстрел. Непременное ружьё на стене, обязанное выстрелить в третьем акте пьесы, стало притчей во языцех. В общем, обворожительные дамы, пропускающие подобные сцены, это не для вас! **Большая энциклопедия “Охота”**, изданная в 2009 году, и её карманно-подарочный вариант 2010 года посвящены таким важным для мужчин темам, как тактика и стратегия, огнестрельное и холодное оружие, охотничьи трофеи. Во-первых, охота подчинена строгим правилам, жёстко контролируемым государством. Если их нарушаешь, это уже не “древнейшее занятие человека и разумный отдых”, как сообщает энциклопедия, а рядовое браконьерство. Сведения, размещённые в обеих книгах, помогут чётко разграничить данные понятия. Для любителей делать всё своими руками в энциклопедиях содержится технология изготовления изделий из кости и рога правильно оформленных трофеев. Издания снабжены великолепными фотографиями тех, на кого обычно эта самая охота идёт: медведь, лисица, заяц, волк, кабан, тетерев… Что касается меня, я предпочитаю фоторужьё.

## Пушистые, белые и пятнистые

В серии “Золотые советы” вышла книга **Аманды О’Нил “Кролики”**.

Преподавателю средневековой литературы из Англии оказались не чужды домашние животные, которые населяли и сейчас населяют её дом.

К слову, кого тут только не было: чёрные мадагаскарские тараканы, которые от наших рыжих отличаются гигантскими размерами (в три раза больше) и, представьте себе, шипят! Песчанки, гигантские же улитки, морские свинки, кошки, собаки. И, конечно же, кролики. Да-да! Разве можно смотреть на них как на “ценный диетический продукт”! Это же любимцы! А посему с помощью советов книги учимся быть хорошими хозяевами (понимая, что это зверёк, а не игрушка), зубрим историю домашних кроликов (берущую начало в XIX веке), обретаем их доверие (иначе небезопасно отрывать зверька от земли: сработает инстинкт — и кролик будет отбиваться задними лапами, пустит в ход когти). Целая глава книги посвящена тому, как понять кролика. Ведь, в отличие от кошек и собак, кролики “говорят” редко. Сопение — если они выражают любопытство, желание пообщаться или раздражение, ворчание — как предупреждение о том, что злятся и могут укусить, крик — это когда очень-очень больно, — вот и весь набор звуков ушастых питомцев. Скорее их “язык” можно назвать языком “жестов”. Только ваше горячее желание понять кролика поможет в его освоении.

## Отдых как счастье

Признайтесь, уважаемые читатели, кто из вас в минуты утомительной и скучной работы не мечтал об отдыхе? О времени отпуска, когда можно спать до полудня, а не вскакивать ни свет ни заря. Когда вместо написания своего годового отчёта можно в своё удовольствие прочитать очередной детектив или женский роман. Когда можно отправить детей в лагерь, тестя и тещу, свёкра и свекровь (нужное подчеркнуть) — в деревню, а самим отправиться… Фантазии почему-то рисуют нам жаркие, экзотические страны: Египет и Таиланд, Испанию и Турцию. Но согласитесь, когда на дворе глобальное потепление, ехать в температурное пекло как минимум наивно. Да и не каждый может позволить себе такие финансовые траты. Поэтому мы предлагаем вам отдохнуть у себя на родине. Вариантов множество. Поговорим лишь о двух из них.

Рыбалка. Первая ассоциация, которая приходит на ум, связана с воспоминаниями детства. Раннее летнее утро. Отец почему-то будит вас ещё затемно. Уже готовы удочки, накопаны червяки. Вы отправляетесь на ближайшее озеро и принимаетесь за ловлю… Конечно, мы уверены, что вашим родственникам всегда улыбалась удача. Но всем ли везло так же? Конечно, возвращаясь с пустым ведром домой, рыболовы утешали себя, что раньше и рыбы было больше, и конкурентов меньше. Но осадок-то всё равно оставался. Что делать? Разумеется, можно полагаться на везение и удачу. Но лучше обратиться к профессиональным советам авторов книги **“Рыбалка”**. Как они утверждают, “конечный результат каждой рыбалки определяется массой субъективных и объективных факторов, из которых, конечно же, первое место занимают умение и опыт рыболова. Последний хоть и приобретается или нарабатывается с годами, однако без теоретического обоснования не представляет большой ценности”. Наиболее важные положения теории вы найдёте в разделах “Виды рыб”, “Рыболовные снасти”, “Ловля поплавочной сетью”, “Ловля донной снастью”, “Ловля спиннингом” и “Ловля из-подо льда”. Не сомневаемся, вы не только получите настоящее удовольствие, но и обеспечите себя сытным обедом. Если, конечно, ваша жена любит готовить.

Но есть люди, которые любят природу, терпеть не могут рыбу и не переносят ранние подъёмы. Для них мы предлагаем сконцентрировать силы на благоустройстве своего дачного участка. Конечно, среди ваших родственников обязательно найдутся “дети деревни”, которые постараются получить с участка максимум прибыли. Поэтому они засеют и засадят грядки по самое крыльцо, оставив лишь узкие проходы. Как объяснить им, что никакой труд не имеет ценности без отдыха? Что возможность спокойно посидеть, поговорить и полюбоваться природой лучше и полезнее любых трудовых подвигов? Аргументы в споре подскажет вам **“Ландшафтный дизайн. Благоустройство по руководству вашего участка”**, написанное **Леонидом Липницким**. Структура книги содержит “Введение”, разделы “Общие сведения” о ландшафтном дизайне, “Элементы, составляющие дизайн”, “О камнях”, “Растения, сгруппированные по цели назначения”, “Календарь цветения растений”, “Краткая характеристика декоративно-прикладных растений”. Отдых в райском уголке и даже небо в алмазах возможны. Надо лишь немного помечтать, а потом претворить фантазии в реальность.

Працяг. Пачатак у № 4, 6 — 14.

## Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих лицензию на полиграфическую деятельность, по состоянию на 1 января 2011 года

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие полиграфической деятельности: выпуск печатной продукции |
|---|---|---|---|---|---|
| Войсковая часть 29591 | 220056, г. Минск-56 | 102120480 | 02330/0494243 выдана от 25.04.2009 № 50 | До 25.04.2014 | за исключением газет |
| ООО «Типография «ЕвроГрафика» | 220089, г. Минск, ул. Железнодорожная, 27, к. 2, офис 2225Б | 191108116 | 02330/0494259 выдана от 19.05.2009 № 60 | До 19.05.2014 | за исключением газет |
| ООО «КолоритПак» | 220037, г. Минск, ул. Двинская, д. 9, ком. 3 | 190875973 | 02330/0494260 выдана от 19.05.2009 № 60 | До 19.05.2014 | за исключением газет |
| ООО «РИББА» | г. Минск, ул. Мельникайте, д. 4, офис 407В | 191117484 | 02330/0552780 выдана от 30.07.2009 № 82 | До 30.07.2014 | за исключением газет |
| ООО «Полиграфикс» | 230012, г. Гродно, ул. Пушкина, 31, офис 2 | 590885610 | 02330/0552702 выдана от 30.07.2009 № 82 | До 30.07.2014 | за исключением периодических изданий |
| ООО «М один» | 210022, г. Витебск, пр. Победы, д. 7, к. 1 | 390316839 | 02330/0552710 выдана от 04.09.2009 № 102 | До 04.09.2014 | за исключением периодических изданий |
| ООО «Типография «Возрождение» | 213815, г. Бобруйск, Могилевская обл., ул. М. Горького, д. 37, ком. 2 | 790610766 | 02330/0552711 выдана от 04.09.2009 № 102 | До 04.09.2014 | за исключением газет |
| Частное производственное унитарное предприятие «Империяпринт» | г. Минск, ул. Чкалова, д. 23, корп. 2, кв. 45. | 191046541 | 02330/0552722 выдана от 29.09.2009 № 111 | До 29.09.2014 | за исключением периодических изданий |
| ООО «ОМИНС» | Минская обл., г. Логойск, ул. Победы, д. 77 | 600041638 | 02330/0552742 выдана от 02.02.2010 № 10 | До 02.02.2015 | за исключением периодических изданий |
| ООО «Первая образцовая типография» | 220004, г. Минск, пр. Победителей, 23, к. 1, к. 424 | 191261358 | 02330/0552753 выдана от 02.02.2010 № 10 | До 02.02.2015 | за исключением газет |
| ООО «Альтернативная полиграфия» | 220028, г. Минск, ул. Захарова, д. 59, к. 321 | 191201423 | 02330/0552748 выдана от 17.03.2010 № 34 | До 17.03.2015 | за исключением периодических изданий |
| ООО «Торговый Дом «Вишневка» | 223044, Минская обл., Минский р-н, д. Касынь, контора ООО «Белинтертранс», каб. 6 | 190369742 | 02330/0150404 выдана от 04.09.2008 № 102 | До 04.09.2013 | за исключением газет |
| ООО «МастерФлекс» | 223070, Минская обл., Минский р-н, пос. Михановичи, ул. Шоссейная, д. 37, к. 4 | 190591166 | 02330/0552762 выдана от 01.06.2010 № 87 | До 01.06.2015 | за исключением периодических изданий |
| Частное унитарное предприятие по оказанию услуг «Тайпос» | 220036, г. Минск, ул. 2-ой пер. Багратиона, дом 17, кв. 109 | 191200108 | 02330/0552763 выдана от 01.06.2010 № 87 | До 01.06.2015 | за исключением периодических изданий |
| Республиканское унитарное производственное предприятие «Витебскхлебпром» | 210024, г. Витебск, ул. Горбачевского. 5 | 300031823 | 02330/0552773 выдана от 05.08.2010 № 131 | До 05.08.2015 | за исключением периодических изданий |
| ООО «Типография Максипринт» | 223036, Минская обл., Минский р-н, Петришковский с/с, д. Кирши, специализированное здание для обработки древесины и производства изделий из дерева | 691308014 | 02330/0552776 выдана от 01.10.2010 № 161 | До 01.10.2015 | за исключением периодических изданий |
| Производственное частное унитарное предприятие «БЕЛТАРОПАК» | 220033, г. Минск, ул. Серафимовича, 11, помещение № 113А | 101190792 | 02330/0552777 выдана от 01.10.2010 № 161 | До 01.10.2015 | за исключением газет |
| Частное производственное унитарное предприятие «ВИПУПАК» | 222720, Минская обл., г. Дзержинск, ул. Фурманова, 2, ком. 4 | 191255272 | 02330/0552778 выдана от 01.10.2010 № 161 | До 01.10.2015 | за исключением газет |
| Частное торгово-производственное унитарное предприятие «БелКанБи» | 220085, г. Минск, пр-т Рокоссовского, д. 99, кв. 6 | 191408523 | 02330/0552793 выдана от 13.12.2010 № 197 | До 13.12.2015 | за исключением газет |

## Внесение изменений в сведения о субъектах хозяйствования, имеющих лицензию на полиграфическую деятельность, по состоянию на 10 марта 2011 года

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие полиграфической деятельности: выпуск печатной продукции |
|---|---|---|---|---|---|
| Выдана впервые лицензия на осуществление полиграфической деятельности сроком на пять лет частному производственно-торговому унитарному предприятию «ИзоПринт» | | | | | |
| "ИЗОПринт" | 222520, Минская обл., г. Борисов, ул. 1-го Июля, д. 6, административно-бытовой корпус эмальцеха, комната 21 | 691287298 | 02330/405 выдана от 05.04.2011 №60 | До 05.04.2016 | За исключением периодических изданий |
| Прекращено действие лицензии, выданной РУП «Вычислительный центр главного статистического управления Брестской области» на основании его письменного уведомления о прекращении осуществления им полиграфической деятельности | | | | | |
| Вычислительный центр главного статистического управления Брестской области | 224030, г. Брест, пр. им. Машерова, 18 | 290050294 | 02330/0552701 выдана от 27.08.2004 №149, продлена от 30.07.2009 №82 | До 27.08.2014 | За исключением периодических изданий |

## Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 1 января 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям | Срок действия лицензии |
|---|---|---|---|---|---|
| «БелИнтерМаркет», ООО | 224030, Брест, ул. Советская, 64 | 200535779 | 0630738, выд. 10.12.2003 № 197, прод. 8.12.2008 № 142, вн.изм.8.11.2010 № 176 | 3, 4, 8, 9 | По 9.12.2013 |
| «Информационный центр МИД Республики Беларусь», УП | 220050, Минск, ул. К. Маркса, 16-58 | 100363904 | 0056715, выд. 10.12.2003 № 197, ан. 03.02.2009 № 12 | 1, 8 | |
| «БОФФ», ЧУП | 220103, г. Минск, ул. Кнорина, 50, к. 4, к. 102 А | 10046704 | 0150390 выд. 10.10.2003 № 197, прод. 8.12.2008 № 142 | 4, 8, 9 | По 9.12.2013 |
| «Вилия и С», ЧИУП | 223013, Минский р-н, п. Самохваловичи, ул. Русиновичи, 1а | 600405097 | 0150392 выд. 10.12.2003 № 197, прод. 8.122008 № 142 | 9, 10 | По 9.12.2013 |
| «Медиафакт», информационное ЧУП | 220013, г. Минск, ул П. Бровки, 3, корп. 2 (Литер А), к. 403 | 190374451 | 0150393 выд. 10.12.2003 № 197, прод. 08.12.2008 № 142 | 3, 4, 8, 9,10 | По 9.12.2013 |
| «ДИЭКОС», НТРУП | 220039, г. Минск, ул Короткевича, 5-20 | 101221883 | 0150391 0150393 выд. 10.12.2003 № 197, прод. 08.12.2008 № 142 | 1, 3, 4, 8 | По 9.12.2013 |

# Залаты скарб краіны

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Кастуся Дробава

**Што было б, калі б гэты канцэрт забяспечылі трапнай рэкламай і паказалі ў праймтайм? Пэўна, многія тэлегледачы адкрылі б для сябе нешта больш яркае, эмацыйна захапляльнае, уражлівае і пазнавальнае, чым эфірныя жарсці вакол чарговага адбору на "Еўрабачанне" ці шараговы рэпартаж са спартыўнага спаборніцтва. Яны адкрылі б для сябе жывое і маладое, узнёслае і пранікнёна-душэўнае мастацтва сапраўдных зямных зорак — нашых унікальных музычных талентаў, у ліку якіх ёсць сусветна прызнаныя імёны.**

Студэнты, магістранты, аспіранты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі — лаўрэаты міжнародных конкурсаў, стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, а таксама педагогі акадэміі выступалі ў той вечар на галоўнай канцэртнай сцэне краіны — у Вялікай зале сталічнай філармоніі. Праграму назвалі "Вечар кансерваторыі", бо менавіта слова "кансерваторыя", зрабіўшыся знакавым ужо для некалькіх пакаленняў нашых суайчыннікаў, увайшло ў свядомасць як сімвал высокіх ідэалаў і дасягненняў у музычнай адукацыі, навуцы і творчасці. Менавіта Беларуская дзяржаўная кансерваторыя, заснаваная ў 1932 годзе, стала падмуркам сённяшняй акадэміі музыкі, якая ўжо рыхтуецца да свайго юбілею. Вось і рэктар БДАМ, доктар мастацтвазнаўства, прафесар Кацярына Дулава ў сваім прывітальным слове на пачатку імпрэзы падкрэсліла: "Кансерваторыя — пад гэтым імем мы нараджаліся. Кансерваторыя — гэта гісторыя, гэта традыцыі, гэта будучыня. А інавацыі ў нашай справе, у нашай сферы — ахоўваць, абараняць: у дадзеным выпадку ахоўваць і абараняць класічнае мастацтва, якому сёння вельмі няпроста ў гэтым свеце".

Сярод выпускнікоў і цяперашніх выхаванцаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ды Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры ёй — сотні лаўрэатаў самых розных творчых спаборніцтваў, неаднаразовых пераможцаў міжнародных конкурсаў, яркіх перспектыўных выканаўцаў, захавочаных спецыяльным фондам Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. Уявіце сабе, як няпроста было скласці праграму канцэрта, сабраўшы нават невялічкую частку лепшых з лепшых, бо ці не кожны з гэтых маладых артыстаў мог бы выступіць са сваёй сольнай праграмай! Але разнажанравы і полістылістычны, то акадэмічна строгі, то па-канцэртнаму кідкі, то дасціпна-вясёлы і дынамічны дух "Вечара кансерваторыі" паспрыяў бліскучаму выступленню нашых музычных залацінак, што не толькі годна прадстаўляюць сваю Alma Mater, але і з'яўляюцца візітоўкай маладой эліты нацыі, адной з галоўных яе духоўных каштоўнасцей, "залатым запасам" дзяржавы, які ўжо сёння вызначае культурны імідж Беларусі, яе міжнародны прэстыж, нашу будучыню.

Славуты ансамбль трубачоў "Інтрада", узгадаваны прафесарам М. Волкавым; вытанчаны камерны аркестр "Gradus ad Parnassum" ("Прыступка да Парнаса") пад кіраўніцтвам загадчыка кафедры аркестравага дырыжыравання, дацэнта П. Вандзілоўскага; сольныя спевы студэнтаў-вакалістаў; голас віяланчэлі лаўрэата міжнародных конкурсаў Аляксея Багрынцава (клас старшага выкладчыка А. Афанасьева); сімфанічны аркестр "Маладая Беларусь", выпеставаны прафесарам М. Казіparty;ным; "абсалютны чэмпіён" — пераможца больш як трох дзясяткаў прэстыжных міжнародных конкурсаў і ўжо саліст БДФ баяніст Уладзіслаў Плігаўка (студэнт-пяцікурснік прафесара М. Сеўрукова); госць з Магілёва — аркестр народных інструментаў педагагічнага факультэта БДАМ пад кіраўніцтвам дацэнта М. Алданава... А сюрпрызы ад лаўрэата шматлікіх міжнародных конкурсаў, хору студэнтаў аддзялення харавога дырыжыравання пад кіраўніцтвам дацэнта І. Бадзякі: каларытны беларускі "Снапочак" А. Мдзівані ды агністае тэатралізаванае шоу — аргенцінскае танга А. П'яцолы! А "Сеанс аднагадзінай гульні" У. Кур'яна, бліскуча разыграны ансамблем цымбалістаў "Лілея" разам з кіраўніком — прафесарам Я. Гладковым, які артыстычна пераўвасобіўся ў вобраз Астапа Бендэра і, пераходзячы ад інструмента да інструмента, "абставіў у шахматы" віртуозных дзяўчат-ансамблістак!.. А як вяла за сабой, як зачароўвала то мяккай кантыленай, то далікатнымі трэлямі, то даверальным шэптам скрыпка Улады Бяражной (ён выпаў гонар іграць на ўнікальным інструменце майстра XVII стагоддзя А. Гварнеры, набытым для Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі)! А з якой чарадзейнай чысцінёй і выразнасцю спявала ды прамаўляла срэбная флейта, напоўненая і сагрэтая дыханнем Юліі Шчасновіч (яна атрымала свой найкаштоўны інструмент у падарунак ад маэстра Уладзіміра Співакова)! А колькі вясновай свежасці, аптымізму, рамантычных пачуццяў, дасціпнай характарнасці, ігры-гульні нюансаў было ў "Радасці кахання" Ф. Крэйслера — С. Рахманінава, якою падзяліўся з публікай піяніст Аляксандр Іваноў!







Авацыямі ганаравала публіка і выступленне ансамбля вакалістаў "Tenorino" (мастацкі кіраўнік і канцэртмайстар, дыпламант міжнародных конкурсаў І. Чэрнін), у складзе якога — студэнты ад 1 да 4 курсаў: Аляксандр Міхнюк, Раман Круковіч, Сяргей Падавалаў, Ягор Сятун, а таксама Джэ Тун з Кітая. І натхнёнае сямейнае трыа лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, лаўрэатаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі — выкладчыкаў кафедры баяна-акардэона Аляксея Дараганава, Ірыны Дараганавай і студэнта-пяцікурсніка гэтай кафедры Паўла Дараганава (мастацкі кіраўнік — прафесар М. Сеўрукоў). І надзвычай тэмпераментную, эфектную акардэаністку, лаўрэата міжнародных конкурсаў, уладальніцу залатога медаля ІІ Сусветных дэльфійскіх гульняў Святлану Бельскую (магістрантка прафесара М. Булы). І паспяховую кларнетыстку, студэнтку падрыхтоўчага аддзялення Ду Хан (клас прафесара У. Скараходава), якая прыехала вучыцца ў Мінск з Кітая...

Рэпертуар жа, што гучаў у той вечар, можна параўнаць з мініяцюрнай анталогіяй сусветнай музычнай творчасці ад самых даўніх эпох да нашых дзён. Тут і дахрысціянскія фальклорныя матывы "Рускай" з балета І. Стравінскага "Пятрушка" ў пералажэнні У. Каральчука для квінтэта труб. І каларытны вобраз народнай беларускай песні "Сваток", перастораны ў аркестравай п'есе В. Малых "Жарт". І вечныя "Паравіны года" А. Вівальдзі. І вялікія рамантыкі Я. Брамс ды А. Дворжак. І экзатычныя Р. Гальяна, Ф. Анжэліс. І сонечныя "Фанфары для трох труб" Г. Гарэлавай. І пікантны барочна-джазавы "кактэйль" для камернага аркестра, трубы ды фартэпіяна — партытура В. Войціка пад назвай "Так гаварыў стары Бах". І сам дзядуля Бах. А яшчэ П. Чайкоўскі, Дж. Пучыні, Л. Дэнца, Д. Попер, У. Алоўнікаў, А. Цыганкоў ды кампазітары, згаданыя ў гэтых нататках раней.

Амаль дзве з паловай гадзіны працягвалася праграма, пра кожны нумар якой успамінаеш як пра іскрынку шчырасці, радасці. З такіх іскрынак нараджаецца полымя захаплення...

*"На канцэрце таленавітай моладзі, які прайшоў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі з аншлагам, прысутнічалі намеснік прэм'ер-міністра краіны Анатоль Тозік, міністр культуры Павел Латушка, міністр адукацыі Сяргей Маскевіч, намеснік начальніка Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ірына Дрыга.*

***На здымках:** лаўрэат міжнародных конкурсаў, лаўрэат спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, студэнтка ІІІ курса Улада Бяражная (клас прафесара Эдуарда Кучынскага); лаўрэат міжнародных конкурсаў, лаўрэат спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, студэнтка ІІ курса Юлія Шчасновіч (клас прафесара Барыса Нічкова); уладальнік залатога медаля Дэльфійскіх гульняў краін СНД, студэнт І курса Аляксандр Іваноў (клас прафесара Зоі Качарскай).*

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Пра выстаўку мастакоў-перасоўнікаў нашага часу, што адкрылася днямі ў "Мабільнай галерэі" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, "ЛіМ" распавёў яшчэ два тыдні таму. Бо, перш чым трапіць у Мінск, гэтая выстаўка пасля доўгай вандроўкі па гарадах Еўропы завітала на Брэстчыну, у музей-сядзібу "Пружанскі палацык" і — атрымала розгалас на ўсю краіну. І вось цяпер мінская публіка, у тым ліку госці нашай сталіцы, мае магчымасць падзівіцца на плён дзейнасці творчага аб'яднання "Таварыства перасоўных мастацкіх выставак. XXI стагоддзе", створанага ў 2005 г. у Санкт-Пецярбургу з мэтай адраджэння лепшых традыцый рускага мастацтва — у духу перасоўнікаў XIX ст. У экспазіцыі, разгорнутай у НББ да 20 мая, — каля 90 работ 36 жывапісцаў, графікаў, скульптараў з Расіі (пераважна пецярбургскіх і маскоўскіх), прадстаўлена таксама творчасць беларускага мастака — гамяльчаніна А. Гайлевіча.

Для калектыву Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі юбілейныя даты — як імгненні жывой гісторыі і памяці пра яркія сцэнічныя падзеі, неад'емныя ад вядомых імёнаў. 6 красавіка, у дзень 75-годдзя выдатнага беларускага опернага спевака, аднаго з лепшых вучняў легендарнага С. Лемешава, народнага артыста СССР Аркадзя Саўчанкі (1936 — 2004), які больш як 40 (!) гадоў выконваў у спектаклях вядучыя барытонавыя партыі, артысты тэатра наладзілі вечар успамінаў з канцэртнай праграмай "Вернасць прызванню". А назаўтра, у дзень 85-годдзя з дня нараджэння народнага артыста БССР Аляксея Кагадзеева, які ў 1960 — 93 гг. быў галоўным хормайстрам тэатра, адбыўся паказ оперы А. Барадзіна "Князь Ігар". Хормайстрам яе пастаноўкі ў 1967-м быў А. Кагадзееў, а харавыя сцэны ў цяперашнім спектаклі (прэм'ера 1996 г.) паставіла вучаніца і пераемніца Аляксея Пятровіча — галоўны хормайстар тэатра Ніна Ламановіч.

Макеты да спектакляў "Пане Каханку" мастачкі А. Сарокінай, "Пінская шляхта" — В. Мацкевіч, эксізы лялек і касцюмаў да пастаноўкі "Драй швестэрн" ды іншыя работы айчынных сцэнографаў экспанаваліся на традыцыйнай выстаўцы "Вынікі сезона". Яна прайшла ў музеі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і прадставіла сучасны досвед нашых мастакоў тэатра ў пошуках новых падыходаў да вобразнага асэнсавання драматургіі на аснове традыцый нацыянальнай школы сцэнаграфіі.

Заўтра ў межах фестывалю "Мінская вясна" распачынаюцца міжнародныя музычныя вечары фартэпіянных дуэтаў "Duettissimo". У Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі ўпершыню прагучаць два віртуозныя творы: Канцэрт C-dur для фартэпіяна ў 4 рукі з аркестрам К. Чэрні ды Канцэрт as-moll для двух фартэпіяна з аркестрам М. Бруха. Удзельнічаюць беларускі дуэт Наталля Котава — Валерый Баравікоў ды іх расійскія калегі Ірына Сіліванава — Максім Пурыжынскі. За дырыжорскім пультам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі — Марыя Максімчук (Расія).

# Шматгалосае «мы»

**“Дарагія калегі, кіраўнікі, арганізатары і ўдзельнікі семінара! Віншую вас усіх з паспяховым заканчэннем вашай працы! Спадзяюся, што гадзіны, якія вы правялі на гэтым семінары, прынясуць належныя вынікі. У аснове ўсялякай справы ляжыць думка, ідэя. На жаль, у харавым выканальніцтве адсутнасць прафесійнай крытыкі, пэўны застой у галіне тэарэтычнай думкі прывялі да падзення прэстыжу хору ў грамадстве. Таму так важна, каб вы, маладыя людзі, з уласцівымі вам энергіяй ды імпэтам удыхнулі новае жыццё ў харавую культуру, бо менавіта яна, гэтая культура, у канчатковым выніку можа спрыяць аб’яднанню асобных “я” ў шматгалосае “мы”.**

***Са звароту народнага артыста СССР, кіраўніка Маскоўскага дзяржаўнага акадэмічнага камернага хору, прафесара У. Мініна да ўдзельнікаў ІІ Рэспубліканскага семінара–практыкума па харавых спевах, праведзенага Беларускай дзяржаўнай акадэміяй музыкі і БСМД пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі.***

**Тамара СЛАБОДЧЫКАВА,**
**дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі,**
**Алена КУРАКІНА,**
**дэкан факультэта павышэння кваліфікацыі, дацэнт БДАМ, кандыдат мастацтвазнаўства,**
**фота Настассі Равінскай**

“Ці пацягне наша дзяўчынка праграму семінара? Яна ж студэнтка-завочніца, хор у мясцовай школе вядзе...” — “Мяркуйце самі, ці будзе ёй карысная сустрэча са знакамітым у свеце прафесарам, харавым педагогам.” — “Ой, вядома ж, так, так!”

“Не паспяваем аформіць заяўку на ўдзел: не адмаўляйце нам, калі ласка...”

“А можна прыязджаць па чарзе, каб не перапыніць навучальны працэс?.. А навучэнцаў можна з сабою ўзяць?”

Такіх, дарагіх для арганізатараў семінара размоў было нямала, і яны — як лакмусавая папера жывучасці народнай душы, розуму, разумення неабходнасці, важнасці гэтай справы.

У семінары бралі ўдзел больш як 300 чалавек: прафесійныя артысты хору, выкладчыкі навучальных устаноў з усіх рэгіёнаў Беларусі, у тым ліку прадстаўнікі шэрагу вядучых харавых калектываў: Акадэмічнага хору Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь (кіраўнік Павел Шэпелеў), хору студэнтаў БДАМ (кір. Інеса Бадзяка), камернага хору “Solutaris” (кір. Вольга Янум), хароў навучэнцаў Мінскага дзяржаўнага музычнага вучылішча імя М.І.Глінкі па спецыяльнасцях “харавое дырыжыраванне” (кір. Юлія Сікорская) і “сольныя спевы” (кір. Аляксей Снітко), хору Рэспубліканскай гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. В.Ахрэмчыка (кір. Марыя Булат), хору “Brevis” Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў (кір. Святлана Кунцэвіч), хору “Gaudeamus” БДПУ імя Максіма Танка (кір. Наталля Курловіч).

Нагадаем, што І Рэспубліканскі семінар-практыкум па харавых спевах адбыўся ў верасні 2008 года. Тады на працягу двух тыдняў праходзілі рэпетыцыі са зводным хорам хормайстраў Беларусі. Іх праводзіў сусветна вядомы музыкант, прафесар Уладзімір Мінін, які знайшоў у сваім шчыльным канцэртным графіку час, каб падзяліцца ведамі і прафесійным досведам з беларускімі музыкантамі. Спалучэнне арыстакратызму і дэмакратычнасці, таленту, умення пераконваць вялікую аўдыторыю выклікалі гарачы водгук слухачоў семінара і іх бясконцую ўдзячнасць маэстра. Спачатку ў спевакоў нічога не атрымлівалася — было досыць складана адпавядаць высокім патрабаванням Уладзіміра Мікалаевіча. А потым: “Нешта пачало атрымлівацца, гэта б замацаваць! Бачу, вочы гараць!” — заўважыў лаканічны і трапны Мінін.

Падчас таго семінара выкарыстоўваліся розныя формы работы. І завяршыўся ён канцэртам у Вялікай зале Белдзяржфілармоніі, перапоўненай слухачамі, якія з’ехаліся з розных куточкаў краіны. Сустрэча з У. Мініным з’явілася гістарычнай падзеяй у культуры Беларусі і зыходным момантам для арганізацыі ўжо другога, сёлетняга Рэспубліканскага семінара-практыкума па харавых спевах. Важна, што ён не стаў “мерапрыемствам” — ён стаў запатрабаванай падзеяй для спецыялістаў у дадзенай галіне! Працягваць жа распачатую справу У. Мінін прапанаваў свайму калегу Уладзіміру Семенюку.



Самы геніяльны педагог заўсёды вядомы менш, чым выканаўца, нават у прафесійным асяроддзі. Пра У. Семенюка ў нас ведалі з размоў людзей, якія сустракаліся з ім, ад студэнтаў: прафесар Інстытута імя А.Шнітке і Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных, які каля 40 гадоў працаваў са студэнцкім хорам, 13 гадоў — у Маскоўскім камерным хоры разам з У. Мініным... Яго кніга “Хоровая фактура. Проблемы исполнительства”, дастаткова ёмістая праца, была прывезена з Масквы, размножана і “ўкаранёна” ў БДАМ, музычныя вучылішчы і асабістыя бібліятэкі ўдзельнікаў семінара. Ужо з прадмовы да кнігі зразумела, што пісалася яна шчыра, у памкненні падзяліцца перажытым за шмат гадоў, у хвіліны роздуму і працы над партытурай. Гэта — ад набытай у сценах Ленінградскай кансерваторыі пасляваенных гадоў звычкі “ўгрызацца” ў справу намёртва, ад практыкі тых часоў, якія фарміравалі ў чалавеку Дзеяча, а не дзялка.

Першая рэпетыцыя: С. Рахманінаў, “Шэсць хароў для жаночых (дзіцячых) галасоў”. Зводны хор гімназіі імя І. В. Ахрэмчыка, каледжа мастацтваў, педуніверсітэта і слухачоў семінара, якія прыехалі з усіх рэгіёнаў краіны. Незямная цішыня пры такім вялікім складзе хору і музыка, якую раскрывае маэстра выканаўцам і якая адчыняецца ім, як фрэска, схаваная пад напластаваннямі часу. Уладзімір Ануфрыевіч — дзівосны музыкант, педагог, выхавацель, настаўнік. Тэхналогія стварэння дырыжорам музычнага твора ў яго азорана Думкай. Кожны гук партытуры ператвараецца ў адабраны матэрыял, які нясе ў ёй сваю місію. Гэта не сальфеджыраванне, а свайго роду “лепка”, музычная тканка ажывае, разгортваецца. І хор становіцца высокім мастацтвам, якое гаворыць чалавеку пра тое вечнае, што ўзнімае яго, напамінае: ён створаны па Вобразе і Падабенстве! І вось так — дзевяць дзён. Дзевяць дзён захаплення!

Самыя вядомыя музыканты Расіі, найвялікшыя выканаўцы XX — XXI стст. устрывожаныя сёння становішчам класічнага мастацтва ў грамадстве. На жаль, не пазбеглі гэтай бяды і мы. Спробы музыкантаў звярнуць увагу на адпаведныя праблемы не знайшлі водгуку ў міністэрствах, камісіях, у якія ад імя музычнай грамадскасці краіны, кафедры харавога дырыжыравання Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і настаўнікаў музыкі сярэдніх школ Беларусі звяртаўся старшыня праўлення БСМД, народны артыст Беларусі, лаўрэат прэміі “За духоўнае адраджэнне”, прафесар Міхась Дрынеўскі.

А пытанні ставіліся вострыя: наконт парушэння традыцый музычна-эстэтычнага выхавання школьнікаў, наконт разбурэння сістэмы аматарскай музычнай творчасці, якая існавала ва ўсіх звёнах грамадства, наконт дысбалансавання прапаганды сродкамі масавай інфармацыі класічнай і папулярнай масавай культуры і г.д. БСМД прапаноўвау распрацаваць і зрабіць шэраг неадкладных захадаў па выпраўленні створанага становішча, галоўным сярод якіх было б абмеркаванне міжведамаснай камісіяй Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі праблем дзіцячага музычнага выхавання, бо ўсё ў нашым жыцці пачынаецца з дзяцінства. І працягваецца ўсё далейшае жыццё чалавека, у якім ён, скажам так, стварае валавы прадукт, абапіраючыся не толькі на прафесійныя веды, а і на іх якаснае выкарыстанне, што выхоўваецца, безумоўна, культурай. На жаль, пакінутыя без адказу пытанні сёння абвастрыліся да катастрафічнай мяжы. Усе яны абрынуліся на арганізатараў семінара.

Што ж, трэба думаць ды дзейнічаць усім разам: і кіраўнікам, і выканаўцам. Удзельнікі семінара-практыкума прынялі рэзалюцыю, з фрагментамі якой мы знаёмім чытача:

*“... Удзельнікі семінара перакана용, што:*

*1. Харавыя спевы не толькі спрыяюць эстэтычнаму выхаванню маладога пакалення, даюць магчымасць далучэння да вяршынь класічнай музыкі, але і служаць галоўным сродкам этычнага ачышчэння, удасканалення асобы, набліжэння да ідэалаў чалавечнасці, дабрыні і, урэшце, найважнейшым сродкам духоўнага і грамадзянскага прасвятлення, патрыятычнага аб’яднання народа. Харавыя спевы — самае дэмакратычнае, шырокадаступнае, дасягальнае і сапраўды ўзвышальнае мастацтва.*

*2. Сучаснае становішча харавога мастацтва Беларусі выклікае трывогу прафесіяналаў і аматараў музыкі. Перанос акцэнтаў у свядомасці грамадства на масавую поп-культуру прывёў да нівеліравання духоўна-эстэтычнай і выхаваўчай ролі класічнага мастацтва, што негатыўна адлюстравалася на формах калектыўнага музіцыравання, асабліва — харавых спевах. Парушана сістэма музычна-эстэтычнага выхавання школьнікаў, страчваюцца традыцыі аматарскай музычнай творчасці. Усё гэта вымагае распрацоўкі і прыняцця неадкладных захадаў па выпраўленні таго складанага становішча, у якім апынулася харавое мастацтва.*

*3. Харавому руху Беларусі неабходны новы энергетычны імпульс, здатны надаць яму шырэйшы размах і накіраваць па шляху далейшага ўдасканалення. Для гэтага неабходна стварэнне Рэспубліканскага харавога таварыства як каардынуючага цэнтра па распрацоўцы і ажыццяўленні праграмы развіцця харавога мастацтва Беларусі.*

*4. Рэспубліканскія семінары-практыкумы па харавых спевах, якія праводзіліся пад кіраўніцтвам вядомых музыкантаў сучаснасці, атрымалі жывы і маштабны розгалас у асяроддзі хормайстраў-практыкаў Беларусі. Гэта аптымальная і эфектыўная форма творчых зносін музыкантаў, неабходная для дасягнення і падтрымання высокага прафесійнага ўзроўню кіраўнікоў і ўдзельнікаў харавых калектываў рэспублікі. Сістэматычная арганізацыя такіх мерапрыемстваў будзе спрыяць фарміраванню і замацаванню глыбінных мастацкіх прынцыпаў айчыннага выканальніцкага мастацтва.*

*5. З мэтаю аздараўлення духоўнага стану нацыі, адраджэння і развіцця нацыянальных харавых традыцый неабходна вярнуць у навучальныя планы агульнаадукацыйных школ (у тым ліку школ са спецыяльнымі вучэбнымі прадметамі эстэтычнага напрамку) на ўвесь перыяд навучання абавязковыя заняткі па спевах (харавым класе).*

*6. Неабходна ініцыіраваць развіццё аматарскага харавога мастацтва ў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, на прадпрыемствах і ў розных арганізацыях Рэспублікі Беларусь.*

*7. Для вартаснага існавання аматарскага і прафесійнага мастацтва неабходна дзяржаўнае заахвочванне і развіццё спонсарскай падтрымкі харавога руху.”*

Праблемы — агаленыя. Нам не трэба сёння салодкіх прамоў і “прычасаных” артыкулаў, а трэба рэальнае асэнсаванне стану спраў, жаданне і адказнасць спакойна весці іх у правільным кірунку. Не хаваць галаву ў пясок, а бачыць праблему і сумленна яе вырашаць. І менавіта гэтак выхоўваць маладое пакаленне хормайстраў.

Вялікая ўдзячнасць Міністэрству культуры, якое падтрымала такі неабходны, як высветлілася, семінар.

Будзьма рухацца далей, пакуль ёсць у каго вучыцца!

***На здымку: Алена Куракіна, Уладзімір Семянюк, Тамара Слабодчыкава.***

# Свае традыцыі

**Мікола ВАСІЛЁНАК**

## Узорнаму цымбальнаму аркестру Слуцкага цэнтра дзіцячай творчасці — 25 гадоў

Калектыў створаны ў 1986 годзе пры Слуцкім раённым Доме піянераў і школьнікаў. У яго склад увайшлі вучні з трох адукацыйных школ раёна. З кожным годам расло майстэрства юных музыкантаў, пашыраўся рэпертуар. Аркестр са Случчыны быў сярод лепшых на рэспубліканскіх тэлефестывалях “Чырвоныя гваздзікі”, “Мы такія розныя”, на фестывалі “Гучаць цымбалы на зямлі Купалы”, запісваўся на радыё. У 1992 годзе на зямлі Якуба Коласа ў г. Стоўбцы, дзе праходзіў трэці фестываль “Сымон-музыка”, калектыў атрымаў Гран-пры, і неўзабаве яму было нададзена пачэснае званне “ўзорны”. Выступаць з канцэртамі даводзіцца ў розных гарадах Мінскай вобласці: у Салігорску, Барысаве, Маладзечне, Старых Дарогах і інш.

Заснавальнік аркестра і яго нязменны кіраўнік — Іван Чарапко: сапраўдны прафесіянал, чалавек з ненатольнай прагай дзейнасці, шчыра адданы сваёй справе. Яго асоба прываблівае моладзь. На рэпетыцыях і канцэртах Іван Апанасавіч патрабуе ад удзельнікаў самааддачы, дысцыпліны, адказнасці за сваю партыю, за выкананне твора ў цэлым. Юныя аркестранты выхоўваюцца ў духу патрыятызму, гонару за свой калектыў.

А многія былыя ўдзельнікі аркестра звязалі свой лёс з музыкай, пайшлі шляхам свайго кіраўніка.

У 2008 годзе ўзорны цымбальны аркестр ЦДТ г. Слуцка стаў пераможцам І Рэспубліканскага конкурсу аркестравых калектываў устаноў пазашкольнай адукацыі Беларусі. 28 красавіка ён адсвяткуе сваё 25-годдзе, і на гэтай урачыстай імпрэзе прагучаць лепшыя творы, якія назапашаліся ў рэпертуары калектыву з дня яго заснавання.

# Нашы юбіляры



**Уладзімір Дзмітрыевіч КОКУШКІН** — прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, кандыдат мастацтвазнаўства.



**Міхаіл Іосіфавіч ВАСІЛЕЎСКІ** — дырэктар Негарэльскай дзіцячай музычнай школы.



**Уладзімір Мікалаевіч ТРАФІМОВІЧ** — настаўнік Слуцкай дзіцячай музычнай школы.

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА. Тэлефоны: ***(017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.***

## Слова краязнаўцы



**Віктар Хурсік, які родам з Асіповіччыны, разважае пра вобраз жанчыны-беларускі з мінулага:**

— Мы дрэнна шукаем жанчыну мінуўшчыны. Мо таму, што некалі радаводы складаліся выключна па мужчынскай лініі. А мо таму, што не ўяўляем яе без сярпа? Замацаваныя ў літаратуры на пачатку XX стагоддзя жаночыя вобразы падаюць беларуску выключна абяздоленай сялянкай. Між тым, калі звярнуцца да "Сялянкі" Дуніна-Марцінкевіча, то ў сярэдзіне XIX ст. убачым іншы павеў: у сялянку закахаўся не абы-хто, а шляхціц-франт! І класік падае яе не толькі знешне прывабнай, а і зусім не дурніцай. І ён не памыляецца. Жанчыны Беларусі на ўсім гістарычным працягу былі разумніцамі: і тады, калі вялі сялянскую гаспадарку, і тады, калі гаспадарылі ў маёнтках, дапамагаючы мужам. Гэта пацвярджаецца і фактамі.

У пісьмовым помніку XVIII ст. — тэстаменце Хвядоры Валовіч (унучкі падканцлера ВКЛ Аляксандра Нарушэвіча) пададзена ўся веліч душы тагачаснай беларускай спадарыні. Жонка харунжага і палкоўніка мінскага ваяводства Яна Завішы, як звычайна жонкі афіцэраў, шмат гаспадаравала па месцы. Але яна адшукала такія словы прызнання мужу, на якіх не сорамна выхоўваць сучаснае пакаленне.

Пад Санкт-Пецярбургам, у Гатчыне, прыйшоў у заняпад і дом, і касцёл над фамільным склепам Вітгенштэйнаў. А між тым у ім пахавана наша зямлячка графіня Стэфанія Радзівіл, дачка апошняга ардыната Нясвіжа Дамініка Радзівіла і нявестка расійскага генерала Пятра Вітгенштэйна. Яна была настолькі прыгожай і разумнай, што нават Пушкін быў яе сябрам і пакінуў яе абрыс пяром. А нялёгкага лёсу таленавітая пісьменніца-мемуарыстка Эва Фелінськая? Гэта ж выдатны ўзор беларускі-змагаркі! Яна пакінула не толькі шматтомныя ўспаміны пра свой час, але падала хантам і мансам, з якімі даводзілася мець зносіны ў далёкай Сібіры, узоры мужнасці і гуманізму. Узнёслыя эпітэты можна адрасаваць і Гелене Скірмунт, і Магдалене Радзівіл, і многім іншым выдатным беларускам, чые імёны яшчэ чакаюць свайго трыумфу.

Будзьма ж уважлівымі ў краязнаўстве. Ні адно даследаванне мясцовай гісторыі нічога не варта, калі ў ім не знайшлося месца беларускай жанчыне.

## Жывая памяць

**Янка ГАЛУБОВІЧ**

У Палацы культуры г. Маладзечна прайшла вечарына, прысвечаная 75-годдзю з дня нараджэння знанага краязнаўцы, доктара гістарычных навук і таленавітага пісьменніка Генадзя Каханоўскага.

Дасягненні і адкрыцці Генадзя Аляксандравіча цяжка пераацаніць. Ён доўгі час працаваў у Мінскім абласным краязнаўчым музеі, папоўніў фонды ўстановы шматлікімі экспанатамі. Менавіта Генадзь Каханоўскі ўстанавіў той факт, што летам 1911 года на Маладзечаншчыну, у вёску Ракуцёўшчына, прыязджаў Максім Багдановіч, дзе правёў два месяцы. Генадзь Аляксандравіч — ініцыятар усталявання многіх помнікаў і памятных знакаў: М. Багдановічу ў Ракуцёўшчыне, Ядвігіну Ш. у Радашковічах, С. Рак-Міхайлоўскаму ў Максімаўцы, паўстанцам 1983-84 гг. і многіх іншых.

## Музейны ўнікат

# Ад Сямёна з XIII ст.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ, фота аўтара**

**У цэнтры гістарычнай часткі Магілёва, побач са старадаўнім Замчышчам, на Савецкай плошчы размясціўся Магілёўскі абласны краязнаўчы музей імя Е. Раманава. Наша сённяшняя гаворка — пра ўнікальны экспанат, які захоўваецца ў яго фондах — берасцяную грамату.**



*Берасцяная грамата канца XII — пачатку XIII ст.*

Першапачаткова ў горадзе існавалі дзве ўстановы музейнага тыпу: уласна Магілёўскі музей (1867) і Царкоўна-археалагічны музей (1904). Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі яны аб'яднаны ў Губернскі музей, які ў 1953 годзе атрымаў сучасную назву. Як сцвярджаюць самі супрацоўнікі, "экспазіцыя Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея з'яўляецца адной з лепшых у Беларусі. Саступаючы іншым абласным музеям у каштоўнасці калекцый, Магілёўскі абласны краязнаўчы музей пераўзыходзіць іх высокім узроўнем мастацкага афармлення экспазіцыі". Сёння фонды музея налічваюць каля 120 тысяч прадметаў. Адзін з іх — Мсціслаўская берасцяная грамата, якую наведвальнік музея знойдзе ў экспазіцыі "Гісторыя краю ад IX стагоддзя да 1917 года". Дакладней, у самай першай зале, якая пераносіць гасцей у перыяд Старажытнай Русі.

Дастаткова доўга лічылася, што насельніцтва рэгіёна ў той час знаходзілася на досыць нізкай ступені развіцця. Навукоўцы дыскутавалі, ці існавала наогул ва ўсходнеславянскім рэгіёне пісьменнасць сярод простага насельніцтва? Прычым для крытычных меркаванняў прысутнічалі пэўныя падставы. Згадкі пра ўзровень адукацыі сустракаліся толькі ў пісьмовых крыніцах больш позняга часу (напрыклад, летапісах), але гэта не з'яўлялася абсалютным доказам версіі.

Сенсацыя адбылася 26 ліпеня 1951 года, калі ў Вялікім Ноўгарадзе падчас археалагічных раскопак была знойдзена першая берасцяная грамата. Яна кардынальна змяніла ўсе ўяўленні навукоўцаў пра Старажытную Русь. З таго часу ў адным толькі Ноўгарадзе было знойдзена больш як тысяча грамат. Іншым рэгіёнам пашанцавала менш. На тэрыторыі Беларусі знойдзены ўсяго толькі дзве граматы (зрэшты, на тэрыторыі Украіны толькі тры). У 1959 годзе берасцяная грамата XIII стагоддзя была знойдзена ў Віцебску. А ў 1980-м прыйшла чарга Мсціслаўля. Падчас раскопак, якія праводзіліся прафесарам Леанідам Аляксеевым на Замкавай гары, унізе сёмага бярвеннага насціла археолагі ўбачылі нечаканую знаходку. Пазней яна была перададзена ў Магілёўскі абласны краязнаўчы музей. Такім чынам, берасцяных грамат у Беларусі пакуль што толькі дзве.

Дакладны час стварэння граматы невядомы. Але насціл датуецца 1249 годам, а грамату, відаць, пісалі раней — у першай трэці XIII, або, магчыма, нават у канцы XII стагоддзя. Ад дакумента захаваліся толькі два радкі. Сама грамата — невялікі кавалак бярозы, памерам 13,8 на 1,5 см. На ім завостраным інструментам надрапаны надпіс: "Пшаніцы чатыры з паловай грыўны заплаціў (купіў) Сямён". Прычым слова "Сямён" складае другі радок.

Дзіўнае ўражанне пакідае пасля сябе магілёўскі "музейны ўнікат".

Сучаснаму нігілісту кінуцца ў вочы яго сціплыя памеры і не дужа прэзентабельны выгляд. Але чалавеку, які любіць гісторыю роднага краю і абвострана адчувае час, берасцяная грамата дапаможа перанесціся ў мінулае і звязаць у адзінае цэлае жыццё далёкіх прашчураў і свой уласны лёс.

## Беларускія прыватныя гербы

# Знакі годнасці і гонару

*У снежні 2010 года ў рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва" пабачыла свет кніга Уладзіміра Крукоўскага "Срэбная страла ў чырвоным полі". Гэтае выданне прысвечана гісторыі беларускай прыватнай геральдыкі і змяшчае каля 200 выяў гербаў былой беларускай шляхты разам са спісамі гербакарыстальнікаў. Але за час знаходжання кнігі ў выдавецтве аўтару ўдалося даследаваць яшчэ 329 радаводаў, у асноўным з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі і Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы. Як вынік — некалькі дзясяткаў гербаў шляхты былых Віцебскай і Віленскай губерняў. Гэты ўнікальны матэрыял мы і прапануем чытачам "ЛіМа" ў межах праекта "Зямля пад белымі крыламі" ў новай рубрыцы "Беларускія прыватныя гербы".*



*Герб "Вянява"*



*Герб "Шаптыцкі"*



*Герб "Сухакамнаты"*

### Герб "Вянява"

Гербам карысталіся: Альбіновіч, Багнаровіч, Болька, Вільдзевіч, Вянгерскі, Вяняўскі, Гадзевіч, Гарасімовіч, Гедвіла, Вярцінскі, Вярцінскі-Снапок, Дзічковіч, Кадзевіч, Каркевіч, Касовіч, Клімашэўскі, Лукашэвіч, Наркевіч, Нарковіч, Нарэвіч, Раўдовіч, Рыла, Рыльскі, Слабашэвіч, Снапковіч-Вярцінскі, Стабашэвіч, Стабінскі, Табар, Хмялеўскі, Шафаровіч, Шлягер, Шлянцэвіч, Шчапаноўскі, Янвіч.

### Герб "Шаптыцкі"

Гербам карысталіся: Барцэвіч, Каспяровіч, Разулевіч, Расулевіч, Сэмплінскі, Шнарбахоўскі, Шпакоўскі, Ядзевіч.

### Герб "Сухакамнаты"

Гербам карысталіся: Аблачынскі, Аўлачымскі, Вайдыла, Драбовіч, Мартыновіч, Паўловіч, Пяньхоўскі, Рыдзеўскі, Савіцкі, Сарока, Скальскі, Сляндзінскі, Смідовіч, Снітко, Стаймоўскі, Стампкоўскі, Храноўскі, Яблонскі.

### Герб "Зарэмба"

Гербам карысталіся: Булакоўскі, Бычкоўскі, Гаршчэўскі, Гінтар, Гінцытовіч, Давойна, Зарэмба, Заянчкоўскі, Ісудовіч, Каліноўскі, Крачкоўскі, Куцяк, Ранцэвіч, Рудзінскі, Сухарэўскі, Тымянецкі, Ябланоўскі.

### Герб "Вежы"

Гербам карысталіся: Воўк-Карачэўскі, Воўк-Ланеўскі, Высоцкі, Казлоўскі, Ратомскі, Рашыц-Казлоўскі.

### Герб "Акунь"

Гербам карысталіся: Акуневіч, Акунёк, Аляшкоўскі, Пяньхоўскі.



*Герб "Зарэмба"*



*Герб "Вежы"*



*Герб "Акунь"*

Марына ВЕСЯЛУХА

Вясной мінулага года ў скверы каля Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы адбылася прэзентацыя незвычайнага музейнага прадмета — легкавога аўтамабіля маркі "Шэўрале", які належаў Янку Купалу. Гэтая падзея выклікала досыць шырокі рэзананс сярод грамадскасці, а асабліва — аматараў рэтра-аўтамабіляў. Таму, думаецца, інтэрактыўная выстаўка "Аўтарэтра", што пройдзе 23-24 красавіка ў гонар Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне ў дворыку Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, стане сапраўдным святам для аўтааматараў і прыхільнікаў стылістыкі 1930-50-х гадоў.

А пaглядзець тут сапраўды будзе на што, абяцаюць арганізатары: Міністэрства культуры краіны, Нацыянальны гістарычны музей Беларусі, Таварыства абароны помнікаў тэхнікі і транспарту "Наша Перамога" і Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм".



# На рэтра-машыне — у мінулае

**Аўтамабіль Шцірліца, грузавік "Палутарка", знакамітую "Победу", а таксама многія іншыя аўтамабілі з фільмаў пра вайну можна будзе пабачыць на выстаўцы Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі.**

## Модная форма — інтэрактыў

У працы з наведвальнікамі Нацыянальны гістарычны музей імкнецца ісці ў нагу з часам, сачыць за новымі дасягненнямі ў галіне і выкарыстоўваць іх на практыцы. "Інтэрактыўная выстаўка — досыць удалая форма прадстаўлення прадметаў, — разважае дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі Сяргей Вечар, — бо, натуральна, наведвальніку прыемна і цікава не проста паглядзець на экспанаты, але і патрымаць іх у руках, пабачыць з імі пэўныя дзеянні. Таму мы і вырашылі напярэдадні Дня Перамогі зладзіць інтэрактыўную выстаўку, досыць незвычайную для нашага музея. На ёй будуць прадстаўлены рэтра-аўтамабілі, грузавыя, легкавыя і матацыклы, што выкарыстоўваліся ў час здымак кінастужак пра вайну. На выстаўцы будзе гучаць музыка, будуць танцы. Усё гэта дазволіць акунуцца ў той час, адчуць дух 1930-50-х гадоў. Але галоўнае — магчымасць паглядзець на прыгожыя машыны гэтага часу, у некаторых аўтамабілях можна нават будзе сесці за руль".

## Вайна ў прызме тэхнікі

Пра Вялікую Айчынную сёння мы ведаем шмат, але ў асноўным — з кніг і ўспамінаў сведкаў. Аднак інтэрактыўная выстаўка дазволіць пабачыць на свае вочы тэхніку (у тым ліку і арыгінальную), што выкарыстоўвалася падчас ваенных дзеянняў. Гэта будуць: **грузавік ЗІС-5** — даваенны і ваенны, на які, разам з **ГАЗ–АА** "Палутаркай", прыпала асноўная місія грузаперавозак падчас першага этапу Вялікай Айчыннай. **БТР-40** — нямецкі бронетранспарцёр, тэхніка, што ўдзельнічала ў ваенных дзеяннях нямецкага боку. Магчыма, у выстаўцы прыме ўдзел **Opel-Bliz** — супрацьвага "Палутарцы" — і ЗІС-5 — грузавік, што ў асноўным выконваў патрэбы ў грузаперавозцы з нямецкага боку. Тут можна будзе пабачыць і ўнікальны аўтобус **Opel-Bliz** "Душагубка", у якім забівалі людзей. У гэтай машыне, насуперак розным версіям, смяротнымі станавіліся не выхлапныя газы, якія адводзіліся ўнутр, каб забіваць людзей падчас транспарціроўкі, а мелася спецыяльная камера з утрыманнем газу.

Будуць нямецкія матацыклы: **Zundapp, Victoria і M-72.** Калі казаць пра легкавыя машыны, то яны таксама праілюструюць як савецкі, так і нямецкі даваенны і пасляваенны часы. Гэта арыгінальны **Opel Capitan 1938 года,** — асноўная машына нямецкіх франтавых штабоў, **Opel Cadet**, даваенная машына, якая таксама выкарыстоўвалася для вайсковых патрэб, звязвала тылавыя часткі, калі франтавых машын не хапала. **Джып ГАЗ-67** — асноўны аўтамабіль Чырвонай арміі падчас вайны — антыпод **Opel Capitan**, савецкі **ГАЗ М1** — асноўная легкавая машына НКУС, якую празвалі "чорны воран" з-за рэпрэсій 1930-х гг.

На выстаўцы можна будзе пабачыць і машыну Шцірліца — **Mercedes-170.** Меркавалася на такім аўтамабілі Вячаслаў Ціханаў ездзіў падчас здымак легендарнага серыяла. Будуць тут і грамадзянскія аўтамабілі 1930-40-х гадоў вышэйшага ўзроўню — **BMW-340, ГАЗ М20 "Победа"**.

## Прыцягненне рэтра

**Як адрозніць рэтра-машыну ад нерэтра? Ці існуюць для гэтага дакладныя крытэрыі? Што, акрамя гістарычнай цікавасці, можа стаць прычынай захаплення старымі машынамі? На мае пытанні адказвае сябар рэтра-таварыства "Наша Перамога" Зміцер Сасноўскі:**

— Для абазначэння машыны як "рэтра" існуе некалькі крытэрыяў. Напрыклад, сёння ў Германіі афіцыйна рэтра-аўтамабілем лічыцца машына, якая 25 год знята з вытворчасці. Так, усе машыны, выпушчаныя да 1970-х — ужо рэтра. Але ёсць розныя аўтамабільныя канцэрны, якія выпускаюць старыя мадэлі да гэтага часу, а бывае — наадварот, мадэль выпускалася нядоўга, і яна хутка становіцца рэтра. Бывае, што старыя мадэлі перавыпускаюцца сёння, да прыкладу, сучасны "Фольксваген Жук" — мадэль, ідэнтычная той, што з'явілася ў 1930-х. Для таварыства "Наша Перамога" рэтра з'яўляюцца ўсе машыны да пачатку 1960-х.

У пагоні за камфортам машыны губляюць характар. Для чалавека, які ніколі не карыстаўся старымі аўтамабілямі, сучасныя машыны маюць адрозны характар, выгляд, дызайн. Але гэта настолькі маленькая розніца ў параўнанні з той, што існуе паміж рэтра-машынамі. Усе рэтра-аматары прызнаюць, што адна з самых галоўных прычын, чаму людзі захапляюцца старымі машынамі, — тое, што ў кожнай з іх ёсць свае эмоцыі, паводзіны, характар, яны вельмі моцна адрозніваюцца адна ад адной, яны індывідуальныя. Калі едзеш на такім аўтамабілі, складваецца ўражанне, што маеш стасунак з жывой істотай. Яны не такія хуткія, на іх лепш адчуваеш дарогу, наваколле, прыроду, вецер, сонца. І сам кіроўца ўдзельнічае ва ўсім працэсе. Старыя машыны ствараюць і асаблівы стан, таму на іх проста хочацца ездзіць.

***На здымку: аўтамабіль ГАЗ М20 "Победа".***

# Блукаючы сцежкамі дзядоў

Якаў КАСІЛОВІЧ,
фота Алеся Філіповіча

**Уладзімір Кісялёў, нястомны краязнаўца з Уздзеншчыны, пісьменнік, днямі святкуе свой юбілей. Пра здабыткі і плён на ніве вывучэння мінуўшчыны краю, пра настаўнікаў і дарадцаў у галіне рэгіяналістыкі — наша гутарка з ім.**

**— Ну што б, здавалася, гарадскому чалавеку да таго, хто некалі хадзіў яго сцежкамі па Уздзеншчыне? Добрая кватэра ў цэнтры сталіцы, тэлевізар — глядзі "Падарожжы дылетанта" і радуйся жыццю. Не, бяжыце ад урбанізацыі і глабалізацыі, каб пабадзяцца па балацінах, каб дзесьці адкалупнуць старую цаглінку. Што рухае вамі?**

— Жаданне спасцігнуць і данесці да сучасніка тысячагадовы вопыт выжывання нашай нацыі ў найскладанейшых умовах, у кутку, што месціцца на паўднёвым захадзе Міншчыны ля вытокаў Нёмана. Вопыт гэты складваўся пакаленнямі і ўключаў сістэму засваення і працягу народных традыцый, звычак і поглядаў, на якіх грунтуецца народны фальклор. Некалі спрадвечныя ісціны даводзіліся да падрастаючага пакалення ў абавязковым парадку, бо ў іх утрымліваліся адказы на галоўныя пытанні жыцця: што такое добра і што такое кепска. Дзяды былі важным звяном у перадачы народнай памяці. Яны перадавалі разуменне, што чалавеку трэба вучыцца жыць у родзе, нацыі, купна, разам. Адмаўленне гэтага да дабра не вядзе. Таму я і хаджу сцежкамі дзядоў, падарожнічаю, каб перадаць нашчадкам тое, што можа знікнуць.

Вынікам маіх першых падарожжаў стала кніга пра вытокі Нёмана "Наднёманскімі пуцявінамі", у якой я зафіксаваў для нашчадкаў былое, сённяшніх жыхароў і прыроду гэтага краю.



**— Выходзіць, каб не пяро, то і краязнаўству канец…**

— Не, я так не думаю. Краязнавец — збіральнік, даследчык, перш за ўсё. Многія і сёння не могуць выдаць сваіх кніг, але ад гэтага іх пачэсная праца не становіцца малазначнай. Рана ці позна рукапісы бачаць свет. Галоўнае — не спыняцца. Вынікам маіх вандровак па Уздзеншчыне на працягу сарака гадоў сталі адшуканыя і сістэматызаваныя звесткі пра сусветна вядомага вучонага, урача, вынаходніка, культурнага дзеяча, прафесара Якуба Наркевіча-Ёдку. І толькі ў мінулым годзе быў выдадзены найбольш поўны біблiяграфічны паказальнік "Яков Оттонович Наркевич-Йодко (1847 — 1905)". Усё, чым займаўся даследчык-вучоны, і сёння на перадавым рубяжы сусветнай навукі. Прыемна, што імя навукоўца вернута беларусам: Міністэрства адукацыі ўключыла вывучэнне яго спадчыны ў праграмы, на пачатку гэтага года зарэгістраваны Дабрачынны фонд развіцця навукі, інавацыйных тэхналогій і культуры імя прафесара Я. А. Наркевіча-Ёдкі. Спадзяюся, што ў хуткім часе ў якасці міжнароднага навуковага і культурнага цэнтра пачне аднаўляцца і яго былая сядзіба ля вытокаў Нёмана.

**— Вам можна ставіць адзнаку "выдатна". Як вучню ці як настаўніку па краязнаўстве?**

— Канечне, як вучню. Глыбокая памылка краязнаўцы, калі ён зыходзіць пыхай, задзірае нос ад таго, што ведае. Веды тыя яму заўсёды нехта дае. Для мяне настаўнікамі-дарадцамі па краязнаўстве Уздзеншчыны сталі мясцовы "народны гісторык" Фёдар Бельскі, такога ж тытула фенолаг Іван Аляксейчык, выдатны краязнавец Адам Александровіч, самадзейны эколаг Станіслаў Шкадзінскі, шчыры сябра, пісьменнік, драматург, краязнавец, вядомы ў мінулым абаронца Брэсцкай крэпасці Алесь Махнач. Вучыўся спасцігаць край і ў былога дырэктара Уздзенскага гісторыка-краязнаўчага музея Анатоля Папко, настаўніка-краязнаўцы Міхася Лазара ды іншых. Чым больш праводзіў часу сярод людзей, тым больш атрымліваў звестак. Паступова для мяне стала роднай і постаць настаўніка, якога я ніколі не бачыў — майго земляка-ўздзенца, выдатнага гісторыка, археолага, багаслова, літаратара, колішняга прафесара Кіеўскай духоўнай акадэміі Уладзіміра Завітневіча, які нарадзіўся ў вёсцы Ліцвяны ў 1853 годзе. Дэвіз яго жыцця, пераняты ад св. Уладзіміра Кіеўскага, — жыць "по устроению отъню и дедню", стаў і маім. Урэшце, як даніна павагі да славутага земляка, у 2007 годзе пабачыла свет мая манаграфія пра Завітневіча "Исследователь внимательный и трудолюбивый".

**— Вось вы сказалі, што веды заўсёды нехта дае. І мне падалося, што вы гэтакі "акадэмічны" краязнавец. Але літаральна на днях я ўбачыў у краме вашу кнігу "Параненыя ўспаміны", і маё меркаванне змянілася. Я ўбачыў зусім іншага чалавека, хлопчыка, які ў 1941 годзе нецярпліва чакае, каб пайсці ў 4 клас. Зноў жа грунтоўнае краязнаўчае даследаванне вёскі Дараганава, што ў Асіповіцкім раёне.**

— Так, вайну я праўду ў гэтай вёсцы. Туды перад вайной пераехалі мае бацькі. Згадкі пра маленства, апаленае вайной, доўгі час не давалі спакою. Але шмат што ў памяці было страчана, і я лічыў, што не маю права пісаць, каб не памыліцца. Тым больш, што ў 1944-м наша сям'я пераехала з гэтай вёскі. Аднак адной-чы прыехаўшы туды, дзе праўёў гады акупацыі, я ўжо не здолеў ухіліцца ад пошукавай работы. Зноў праца ў архівах, сустрэчы са сведкамі падзей, запісы, перапіска. У выніку ўдалося дакладна ўстанавіць карціну расстрэлу яўрэйскіх дзяцей з дзіцячага санаторнага лагера "Крынка", што быў за колькі кіламетраў ад вёскі, скласці спісы расстраляных яўрэяў былога мястэчка, вызначыцца з іншымі трагічнымі эпізодамі нялёгкага жыцця пры фашыстах. Вялікую дапамогу ў пошуку аказаў мне былы загадчык мясцовага музея Сямён Барадзіч, жыхарка Ларыса Стоцкая, старшыня сельсавета Антаніна Сцяпанава. Напрыканцы як вынік шматгадовага пошуку з'явілася і кніга, якую вы згадалі. Я ўсцешаны, што аддаў даніну павагі тым, з кім давялося правесці ліхія гады.

**— Цяпер вы на пенсіі. Не будзем удавацца ў тое, дзе і кім вы працавалі да яе, бо краязнавец — гэта незалежна ад узросту і пажыццёвая пасада, і ганаровае званне адначасова. Як вы сёння правіце гэтую сваю пасаду?**

— Мяркую, што сумленна! За душой кніжка пра прataіерэя Плакіда Янкоўскага "Записки сельского священника", выдадзеная ў саўтарстве кніжка "Православная Церковь в Польше и Литве", артыкулы ў Праваслаўнай энцыклапедыі Маскоўскага Патрыярхата. Завяршаю разам з украінскім аўтарам манаграфію-хрэстаматыю пра жыццё і дзейнасць вядомага дзеяча Рэчы Паспалітай першай паловы XVII ст. ваяводы кіеўскага, польскага сенатара Адама Кісяля. На чарзе — даследаванне жыцця і дзейнасці нашага земляка, галоўнага садавода Расіі і СССР акадэміка Васіля Пашкевіча.

Жана ЛАШКЕВІЧ,
фота Яўгеніі Алефірэнкі

**Творцу сцэнічнага свету ўжо называлі дэміургам і прыпадабнялі да бацькі-стваральніка, але стварэнне найноўшага (класікі?), асабліва з гразёю альбо са смеццям, вымагае такіх адмысловых дзеянняў, якія наўпрост рэжысурай не назавеш (прынамсі ў той пэўнай якасці, якую мела на ўвазе бліжэйшае мінулае стагоддзе). Гэтаксама не назавеш рэжысурай і дзеянне проста супрацьлеглае: ператварэнне класікі ў смецце.**



# M.@rt.КАНТРАСТы

(Працяг. Пачатак у № 13, 14)

## Кантраст трэці: прафесійны

Рэжысёр Сяргей Паўлюк з Херсонскага музычна-драматычнага тэатра (акадэмічнага!) мерыўся ўпрэгчы ў адны калёсы Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна і Леаніда Філатава: спалучыць маленькую трагедыю "Моцарт і Сальеры" з аднайменным паэтычным жартам... магчыма, для капусніка (праўда, Філатаў пісаў яго падчас непрыемнасцей у тэатры). Канфлікт генія і пасрэднасці прасякнуў спектакль "Жаба" на іншым узроўні: абодвух драматургаў (з кампазітарамі) і рэжысёра, які, ужо як сцэнограф, выставіў на сцэну мноства слоікаў з вадою і нейкімі земнаводнымі істотамі; літаральна змусіў акцёра ў ролі Сальеры даставаць адтуль гукі, агаляцца, мерзнуць, квэцаць твар у бруд, захлынацца ад пафасу і кпінаў. А калі вадою са слоікаў акцёр пачаў пырскаць у публіку, закарцела выклікаць санітарны кантроль. Каб за адным разам наскардзіцца на ўсё, што так шчодра лезла ў вочы са сцэны: на цыгарэтны дым і пудру, на сцэнічныя строі кампазітараў (расцягнутыя спартыўныя нагавіцы) і канфлікты, высмактаныя з языка, але жабай-зайздрасцю пушчаныя на распыл: пасля таго, як у маналогу з Пушкіна акцёр прапусціў праверку алгебрай гармоніі, класічны тэкст, загнаны ў казіны рог, распрастаўся і балюча сцебануў выканаўцу. Проста па зубах...

...Спектакль ратавалі музыканты. Выдатныя музыканты суправаджалі і агучвалі "Жабу", прапануючы выняткі з класікі (з Моцарта дачуваліся самыя папулярныя творы кшталту "Маленькай вечаровай серэнады"), а таксама яе рокавыя апрацоўкі. А калі б рэжысёр музычна-драматычнага тэатра кінуў сваю прафесійную жабу ў каляіне і рушыў ад музычнай драматургіі?!

След у след ступаў рэжысёр Новага драматычнага тэатра на Пячэрску з Кіева Аляксандр Крыжаноўскі. Яго вабіла п'еса "Распуснік" і асоба Дэні Дзідро, які піша артыкул пра мараль у сваю "Энцыклапедыю" і паміж іншым спакушае і спакушаецца, гуляе і загульваецца. Скрозь — любошчы, каханне, мілосць, сімпатыя, вабнасць... кабеты, дзяўчаты, дзеўчынёхі... Але скарыстаць твор Эрыка Эмануіла Шміта толькі як сыравіну, нагоду альбо падставу не выпадала: драматург вымагаў паразумення, а інакш пагражаў рэжысёра абгуляць. А той выпускаў на сцэну эстэтыку васьмідзясятых і дапускаў, што жонка з'яўлялася наведаць Дзідро з распродажу, што авантурыстка мадам Тарбуш са сцэны ў сцэну перабірала тэатральны гардэроб, а дзяўчыну, якая намагалася спакусіць энцыклапедыста, абзывала "балерынай нейкай"... Рэжысёр не заахвочваў імправізацыю, але дапускаў бясконцую адсябеціну. Альбо ўтвараў выхад акцёра з ролі... у залу — па спагаду, разуменне і падтрымку... з рызыкоўнымі маналогамі інтымнае афарбоўкі. Эфектна? А то ж! Рызыкоўна? Але. У ролі Дзідро гэта рабіў дыхтоўны акцёр Ігар Рубашкін, і зала ўздыхала з палёгкай. У другім выпадку з ролі звадыяшкі і манюкі выходзіла ягоная партнёрка. Яна разважала пра мужчынскую пажадлівасць, хціўасць і распусту, з якіх можа добра скарыстацца хітрая кабета, але... звярталася да канкрэтнага гледача. Бядотнік ніякавеў. У выніку сцэнічны канфлікт на сцэну ўжо не вяртаўся, рызыкуючы паўстаць паміж сцэнай і залай...

Спектакль найважны для маладзёжнага форуму прывезлі былыя студэнты прафесара Рыгора Казлова з санкт-пецярбургскага тэатра "Майстэрня" (у сёлетнім верасні тэатр адзначыць першы год свайго прафесійнага існавання, а тое, што студэнтам дапамаглі застацца разам і ўтварыць тэатр, прафесар называе цудам). Спектакль называўся "Ідыёт. Вяртанне" і ўяўляў сабою сцэны першай часткі знакамітага рамана Ф. Дастаеўскага — вяртанне князя Мышкіна ў Пецярбург, калі ў ягонае жыццё ўваходзіла мноства новых знаёмцаў і дачыненняў.



Спектакль, які паўстаў са студэнцкае работы, уражваў дыхтоўнай драматургічнай падрабязнасцю, густам, сцэнічнаю скончанасцю (фінал спектакля — ад'езд Настассі Піліпаўны з Рагожыным пад рэплікі шкадавання яе гасцей), але перадусім — прыгожымі маладымі абліччамі, адухоўленымі тварамі і апантаным выкананнем (без перабольшання — кожны выканаўца заўважны сваёй адрознасцю). Верагодна, сёння ў найлепшых праявах рускі псіхалагічны тэатр атаесамляецца менавіта з гэтымі абліччамі. Адметны майстра Казлоў гожа злучае рэжысуру з педагогікай, спавядае патрабавальна-беражлівае стаўленне да асобы артыста і нейкае магічнае, глыбіннае стаўленне да акцёрскай прафесіі. Здаецца, у ягоным тэатры няможна быць непрыгожым, неразумным, нядатным. Ягоны спектакль карыстаў з самых простых дэкарацый і пастановачных прыёмаў, але ўцягваў і ўражваў так, што хоцькі-няхоцькі ўся зала разумнела, прыгажэла і пачувала сябе годна. Магчыма, у санкт-пецярбургскай далечы ўсё гэта выглядала б інакш, але фестываль, які можа схіліць да прафесійнай ідэалізацыі, сабраны вельмі прафесійна...

Уразіў і тэатр сучаснай харэаграфіі "D.O.Z.SK.I.", які працуе ў інтэлектуальным аўтарскім кірунку, але хіба варты адмысловец патрапіць ацаніць ягоную прафесійнасць... прыцягнуўшы адмыслоўцаў са сферы этнаграфіі (аўтэнтычнае ўспрыманне й паводзіны), філасофіі (праблемы быцця й нябыту), эстэтыкі... камп'ютарнай графікі, якая не ілюстравала, а падтрымлівала развіццё дзеяння. Спектакль Дзмітрыя Залескага і Вольгі Скварцовай-Кавальскай "Мухі на сонцы" назвалі сучасным балетам. Звыклыя мастацтвы ў ім шчыльна зніталіся. Звыклыя законы пераўвасобіліся. І вымагае ён асаблівай гаворкі...

Адметны прафесійны кантраст фестывалю ўвасобіла Вольга Скварцова-Кавальская, узяўшы ўдзел і ў сучасным балеце, і ў драматычным спектаклі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Офіс" І. Лаўзунд у пастаноўцы рэжысёра Кацярыны Аверкавай.

"Офісу" прафесійныя крытыкі аддалі Гран-пры фестывалю, лепшым аўтарскім спектаклем вызначылі тэатр "Крэда" з Балгарыі, лепшай маладой актрысай вылучылі Марыну Карцаву з Чалябінскага тэатра, падзяей форуму назвалі Вольгу Скварцову-Кавальскую, адмысловым дыпломам форуму за захаванне традыцый рускай псіхалагічнай школы ўзнагародзілі пецярбуржцаў, а дыпломам за лепшы пластычны спектакль — тэатр "D.O.Z.SK.I.", чым далі нагоду для некалькіх публікацый — ужо будучых, па-за межамі фестывальных кантрастаў.

***На здымках: сцэны са спектакляў "Ідыёт. Вяртанне", "Офіс".***

# Сорак пяць — гэта толькі пачатак

Ірына КАРЭЛІНА

**Жывое слова загойвае, як жывая вада, толькі духоўна. Жывое слова ўзбагачае скарбам, які каштоўней за ўсё золата Атлантыды. Урэшце, жывое слова прасвятляе, калі яно сапраўды — жывое. Імпрэза ў БДПУ імя М. Танка, прысвечаная 45-годдзю народнага літаратурнага тэатра "Жывое слова", пераканала яе гасцей у тым, што назва гуртка сапраўды адпавядае зместу. Дарэчы, выпадковых людзей на свяце не было — павіншаваць творчы калектыў прыйшлі толькі самыя блізкія сябры тэатра. Мабыць, таму вечар атрымаўся па-хатняму ўтульны, "свойскі".**

Тэатральны марафон распачаўся пастаноўкай "Апельсіны ў падарунак". "Заўсёды глядзі на свет так, нібы ўпершыню", — гэтыя словы маленькага, хворага на рак Оскара — галоўнага героя "Апельсінаў" — трывала ўразаюцца ў памяць. Спектакль паводле Э.-Э. Шміта "Оскар і Ружовая Дама" з усім яго трагізмам жывасловцы адыгралі на выдатна. Узрушае эмацыянальная, таленавітая ігра акцёраў, тое, як кожны з іх "пражывае" лёс свайго персанажа на сцэне.

Спектакль "Афарызм" (які выклікаў вар'яцкі аншлаг на сакавіцкай прэм'еры) юбіляры прадставілі не горш як папярэдні. Гэта творчы эксперымент тэатра — п'еса, знітаваная, пэўна, з самых харальных радкоў Уладзіміра Караткевіча. Нягледзячы на тое, што задума ў пастаноўцы крыху прыцемненая, спектакль робіць моцнае ўражанне. Цудоўна зладзіўся з роляй галоўнага героя шматгранны малады акцёр Алесь Мойскі (па сумяшчальніцтве — староста суполкі "Жывое слова", пераможца конкурсу "Брама мар" у намінацыі "проза").

Я невыпадкова назвала імпрэзу пахатняму ўтульнай. Пасля паказа "жывасловцы" вырашылі зрабіць на сцэне тэатра імправізаваную кватэру. Па-першае, прыцягнулі аднекуль фікус, па-другое, — дзве мілыя ружовыя тахты. Далей сцэнарый вечара развіваўся, як і заведзена. Імяніннікі ўжо выканалі сваю "місію": паказалі гасцям спектаклі, пачаставалі гарбатай з цукеркамі — надышла чарга гасцей віншаваць імяніннікаў. У "хатку" да юбіляраў наведваліся і адміністрацыя Маскоўскага раёна сталіцы, і начальнік Цэнтра студэнцкай творчасці і спорту БДПУ імя М. Танка Дзмітрый Шуканаў, і былыя мастацкія кіраўнікі тэатра Юрась і Алена Чарэнкі, і па-ранейшаму артыстычныя выпускнікі тэатральнай суполкі.

Падарункі і віншаванні юбілярам ліліся ракой! А кожны, хто прысутнічаў у зале, атрымаў кніжку ад заснавальніка тэатра "Жывое слова", вядомага перакладчыка Андрэя Андрэевіча Каляды. Шчырыя словы ўдзячнасці гучалі ў адрас сучаснага рэжысёра і "гуру" тэатра "Жывое слова" Наталлі Кухаравай. Нарэшце, VIP-госць, спявак Алесь Камоцкі, выканаў некалькі пранікнёных кампазіцый. "Сорак пяць — гэта толькі пачатак, — усміхнуўся ён, — па сабе ведаю".

Гартаючы альбомы з фотаздымкамі, якія ўдзельнікі "Жывога слова" збіралі на працягу свайго 45-гадовага творчага жыцця, разумееш, што тэатр — маленькі Сусвет з уласнай філасофіяй. Адчыніць дзверы, за якімі хаваецца гэтая таямніца, можа толькі той, у каго ёсць залаты ключык. Усё астатняе — толькі від праз замочную шчыліну.

Мікалай МІШЧАНЧУК

# На шляху да модульнага пісьма

## Малая проза Максіма Гарэцкага

**Часта думаю пра тое, як пачыналі і — не ў меншай ступені — заканчвалі свой шлях (а лепш — сваё стварэнне мастацкага, вобразнага іншасвету) пісьменнікі. Якуб Колас усе назіранні, адчуванні, прадметныя рэаліі лучыў у цэласную карціну, давяраючыся пазітывісцкаму лозунгу пра гармонію як аснову быцця. Асабліва выразна падобны погляд, ад якога ўсё астатняе залежыць, выяўляецца ў яго паэме "Новая зямля", у трылогіі "На ростанях" і нават у "Казках жыцця", дзе, нягледзячы на значную сілу негатыву, "перамагае гармонія". Цэласнасць свету "знешняга" і "ўнутранага", вера ў святло — апорныя сігналы творчасці класіка нашай нацыянальнай літаратуры, якія і вызначаюць яе стылявы рух па прамой лініі. Дарэчы, падобны рух уласцівы і рускаму класіку А. С. Пушкіну — паэту, празаіку, драматургу, нават у "Маленькіх трагедыях" якога крынічыць вера ў перамогу дабра.**

Двух аўтараў аб'ядноўвае, калі гаварыць у плане агульнатэарэтычным, вернасць прынцыпам класічнага, уласцівага рэалістычнаму мастацтву, варыянта пісьма перыяду модульнай паэтыкі як у змястоўным (згаданая намі раней арыентацыя на пазітыў), вобразнастылявым (рух да гармоніі), так і жанравым (пераважнае захаванне выпрацаваных яшчэ ў эпоху эйдэтычнай паэтыкі кананічных прыкмет) аспектах. Заўважым яшчэ, што ў Якуба Коласа, а таксама ў "рэалістаў" Цішкі Гартнага, Івана Мележа, Івана Чыгрынава, Міхаіла Шолахава, Томаса Мана ды іншых, свет рэальны ператвараецца ў іншасвет вобразны паводле закона (канона ў названым вышэй варыянце паэтыкі) адноснай гармоніі аб'ектыўнага і суб'ектыўнага, калі "Я — суб'ект" можа быць і "Я — іншым", "аб'ектызавацца" ў карцінах, падзеях паводле наследавання яшчэ эйдэтычнай паэтыкі (як у "Іліядзе", "Адысеі", "Калевале", "Слове пра паход Ігаравы..."). "Я" ў творчасці згаданых аўтараў і іншых, схільных да эпічнага спосабу мыслення, выяўляе сябе і ў героях іх твораў, і ў лірычных адступленнях-каментарыях, яно часта "маскіруецца" пад "аб'ектыўнага" (Я — гэта ён, другі) наратара.

Жанравая сістэма творчасці пісьменнікаў эпічнага складу мыслення пераважна грунтуецца на захаванні гармоніі суадносін аб'ектна-суб'ектных і ўмоўна можа быць прадстаўлена ў форме замкнёнага кола, выхад за межы якога дапускаецца ў рэдкіх выпадках і ў абмежаванай форме ("Казкі жыцця" Якуба Коласа і — часткова! — паэма "Сымон-музыка" — пацвярджэнне гэтаму). На кругавой арбіце творчасці згаданых вышэй пісьменнікаў знаходзяцца і паэма, і апавяданне, і аповесць, і раман, і апавядальны (апісальны) верш, і іншыя "чыстыя" жанры. І гэтая заканамернасць таксама вынікае з ураўнаважанасці суб'ектнага і аб'ектнага пачаткаў у мастацтве слова.

На думку многіх даследчыкаў літаратуры, эпоха эйдэтычнай або "рытарычнай" паэтыкі, што доўжылася звыш двух з паловай тысячагоддзяў, памянялася на эпоху мадальнасці ў другой палове XVIII стагоддзя. У сваю чаргу, гэтая эпоха падзяляецца на два перыяды — "класічны" (другая палова XVIII — 80-я гады XIX стагоддзя) і канец XIX — пачатак XXI стагоддзя. У першы перыяд слоўнае мастацтва яшчэ не вызвалілася канчаткова ад комплексу нарматыўнасці вобразнага, жанравага, стылявога мыслення, абумоўленага арыентацыяй на асобу, што не мае ўнутранай разняволенасці, захавала рэшткі арыентацыі не на феномен, а на эйдас — ідэю чалавека не аўтаномнага, а залежнага ад Бога, ад аб'ектыўнага свету. У рускай — канец XIX, а ў нашай нацыянальнай літаратуры пачатак XX стагоддзя сталіся пачаткам перыяду модульнай паэтыкі мастацкасці, калі асоба аўтара ўнутрана разняволілася, пачала выступаць у розных праявах, а суб'ект-аб'ектныя адносіны па гэтай прычыне ператварыліся ў суб'ект-суб'ектныя. Па прынцыпе ланцуговай рэакцыі ў сувязі з падобнай сітуацыяй суб'ектывізаваўся (стаў больш экспрэсіўным, "непасрэдна-аўтарскім" ці ад імя аўтарскага) стыль пісьма, вынікам якога можна лічыць лірычную прозу. Я-акцэнтаваны стыль "запатрабаваў" адкрытасці жанравай сістэмы, а таму і з'явіліся прамежкавыя формы і мадыфікацыі: лірызаваныя апавяданні-абразкі, эсэ, імпрэсіі, лірычныя аповесці, творы-ліставанні ("У чым яго крыўда?", "Страхаццё", "Красаваў язмін" М. Гарэцкага), маналогі душы ("Што яно?" таго ж аўтара, апавяданні-споведзі Івана Навуменкі), драматычныя абразкі, падобныя



"Атруцэ" Максіма Гарэцкага, ліра-эпічныя і лірычныя паэмы, оды-элегіі, оды-балады, трагікамедыі, драма-камедыі і інш.

Мадэрнізм і постмадэрнізм як мастацкія кірункі актыўнейшыя за рамантызм і неарамантызм (выключэнне складае нарматыўны сацыялістычны рэалізм артадаксальнага характару, які нібы паўтарыў на новым гістарычным этапе вопыт рускага класіцызму XVIII стагоддзя) разбуралі абмежаваныя межы класічнага і сцвярджалі прынцыпы некласічнага (нетрадыцыйнага) варыянта модульнай паэтыкі мастацкасці.

Прадстаўнікі гэтага другога варыянта ў рускай літаратуры — Леанід Андрэеў, Андрэй Белы (у большай ступені ў прозе), Аляксандр Блок і іншыя сімвалісты (бяром перыяд злому XIX — XX стагоддзяў), у нас — Янка Купала ў паэзіі, Максім Гарэцкі ў прозе, а яшчэ Змітрок Бядуля і ў паэзіі, і ў прозе. Іх пісьмо, а за імі — пісьмо Кузьмы Чорнага 20-х гадоў XX стагоддзя, Язэпа Пушчы, Тодара Кляшторнага, Аркадзя Моркаўкі развіваюцца ў межах большай змястоўна-фармальнай свабоды. Аўтарскае «Я» пануе над ранейшым эйдэтычным "Я ў другім", падпарадкоўвае сваёй волі аб'ектыўны пачатак, робіцца аўтаномным. Адсюль і свабода яго пераўвасаблення ў суб'ектыўныя інварыянты, больш актыўнае ўмяшанне ў апавядальны працэс (лірызацыя), разбурэнне жанравых межаў і, на гэтай аснове, вяртанне да старадаўняга (аднак няпоўнага) сінтэтызму, вольнае перамяшчэнне аповеда ў часе і прасторы.

Свабоднае аперыраванне мастацкім матэрыялам пашырае межы звычайнага эпічна-апавядальнага аповеду. Максім Гарэцкі дасягае гэтага ў сваіх ранніх творах з кніжкі "Рунь", быццам не думаючы не толькі пра тое, *што*, але і пра тое, *як* пісаць. Адкрываецца зборнік аднайменным творам, тэкст якога створаны дзвюма ўзаемапераскальнымі апавядальнымі плынямі — аўтарскай (ад імя аўтара) і ўяўна героевай (ад імя "Уладзіміра З*"), пра якога, як адзначаецца, "у паліцыі запісана каротка: "прапаў без весці". Як у рускіх постмадэрністаў, хоць бы таго ж Абрама Тэрца (Сіняўскага), гэтыя тэкставыя плыні пераплятаюцца вольна, не дазіруюцца, ствараецца эфект "працы і гульні", адзін тэкст упісваецца ў другі, адна гісторыя — у гісторыю іншую. Напачатку ідзе аповед пра сябра, якога рана не стала, але ён — носьбіт "сільнага і арыгінальнага характару", свядомы беларус, які здолеў зрабіць перакананай беларускай паненку Ядзю і, магчыма, жывы цяпер, знаходзіцца з ёю разам у Італіі. Другая частка — рэалістычны абразок Уладзіміра "Войт" пра жахлівую гісторыю — як забаўлялі паноў, што балявалі ў палацы, прыгонныя дзяўчаты. Аўтар твора, прыпісанага ўяўнай асобе, нічым сябе не выдае чытачу, дае магчымасць яму самому ацаніць падзеі.

У апавяданні "Княгіня" пераважае лірычная стыхія, якая ў канцы твора перапыняецца аўтарскім каментарыем пра тое, што гаспадыня, у якой кватараваў Уладзімір, пакінула яму запіскі. Наступны кавалак тэксту — унутраны маналог Уладзіміра (сентыменталісцкі культурны код), страсная споведзь сына народа, інтэлігента — абаронцы прыніжаных і пагарджаных з застаўкамі-каментарыямі аўтара. І заканчваецца твор "Кавалкам з днеўніка" Уладзіміра. Такім чынам,

*У рускай — канец XIX, а ў нашай нацыянальнай літаратуры пачатак XX стагоддзя сталіся пачаткам перыяду модульнай паэтыкі мастацкасці, калі асоба аўтара ўнутрана разняволілася, пачала выступаць у розных праявах, а суб'ект-аб'ектныя адносіны па гэтай прычыне ператварыліся ў суб'ект-суб'ектныя. Па прынцыпе ланцуговай рэакцыі ў сувязі з падобнай сітуацыяй суб'ектывізаваўся (стаў больш экспрэсіўным, "непасрэдна-аўтарскім" ці ад імя аўтарскага) стыль пісьма, вынікам якога можна лічыць лірычную прозу.*

тэкст сатканы з розных фрагментаў, як дыван з рознакаляровых нітак, што дае магчымасць пісьменніку пашырыць ідэйна-вобразны змест твора. У тэксце, як і ў творах пазнейшых постмадэрністаў, утрымліваюцца коды розных культур — перыяду жыцця пад прыгонам і пазнейшага, розных грамадскіх сфер — сацыяльнай і нацыянальнай, цесна пераплятаецца агульналюдскае (каханне, прызначэнне чалавека, воля — няволя) і прыватнае, бытавое (побыт і норавы людзей, малюнкі прыроды). Падобна мадэрністам, уяўны (другі) аўтар Уладзімір З*, рэпрэзентаваны як асоба, што ведае сабе цану і хоча быць самастойнай ва ўсіх адносінах, перш за ўсё непакоіцца пра тое, каб не страціць годнасць у трагедыйных умовах. І яшчэ адзначым, што ў перадапошняй структурнай частцы твора, жанравае вызначэнне якому нават цяжка даць — ці гэта абразок з лірычнымі застаўкамі, ці гэта дыялог, які складаецца з маналогаў розных аўтараў, ці кароткая аповесць у навелах, ці лірызаваны дакументальны дзённік, — аўтар канстатуе поўнае супадзенне сваёй пазіцыі і пазіцыі Уладзіміра З* у пытанні культу асабістага "Я", культу свабоды ва ўсім — у жыцці асабістым і грамадскім.

"Кавалак з днеўніка" ўяўляе сабой надзвычай цікавую мастацкую структуру. Захоўваецца дакументальная дзённікавая (запісы па днях) аснова, але яна літаральна размываецца, разломваецца стыхіяй пачуцця Уладзіміра, "уціснутага" ў рамкі кароткіх фраз (падкрэслім — пераважна кароткіх, дзякуючы чаму павышаецца экспрэсія тэксту, адчуваецца, што ў душы таго, хто іх кладзе на паперу, вірують, змагаюцца, набягаюць адна на адну думкі і пачуцці): "Мама памірае. Не разумею, і ўсё. Потым — у павадыры. Дзядзька забраў. Біў кійком. Дворнічыха ратавала; было непагодна, сцюдзёна, я туляўся па дварэ. Яна ўзяла, грэла, чаем паіла. "Ногі, як лядні... Лядзеньляднём... Дзетка маё". Прыведзены кавалак тэксту характэрны для пісьма "лірыка-драматычнага" (калі скарыстаць умоўны тэрмін), а не спакойна-сузіральнага, эпічнага. Пачуццё і дзеянне ў ім уступаюць у кантакт, узаемна дапаўняюцца, перацякаюць адно ў адно і працуюць на стварэнне закончанай, аб'ёмнай карціны жыцця. Яна такая выразная, што можна яе кадрыраваць некалькімі малюнкамі: "Смерць маці" — "Павадыр у дзядзькі" — "Босы, адзінокі" — "Ратаванне дворнічыхай". Тэкст поліфанічны, складаецца з галасоў Уладзіміра, яго каханкі паненкі Ядзі і самога аўтара. Зрэдку да гэтага "трыа" падключаюцца галасы другарадных персанажаў — дзядзькі, дворнічыхі. Так у маленькай часцінцы тэксту выяўляецца агульная асаблівасць прозы М. Гарэцкага, ужо з самага пачатку скіраванай на сінтэз жанрава-родавых адзнак, на пераадоленне нарматыўнасці класічнага варыянта модульнай паэтыкі. Менавіта гэтая тэндэнцыя вядзе да таго, што ў кнізе "Рунь" Максім Гарэцкі побач з апавядальнымі творамі ці блізка-апавядальнымі (чыста апавядальных твораў у кнізе фактычна няма) "У лазні", "Роднае карэнне" змяшчае творы лірызаваныя ("Красаваў язмін") і лірычныя маналогі, споведзі "Страхаццё", "Што яно?", "Лірныя спевы", у якіх стыхія лірычных перажыванняў ператвараецца ў "аповед". У апавяданні "Што яно?", ды і ў пазнейшых тэкстах ("Скарбы жыцця", "Лявоніус Задумекус"), як і ў творах постмадэрністаў Венядзікта Ерафеева, Уладзіміра Сарокіна, Сашы Сакалова, Юры Станкевіча, Сержа Мінскевіча, споведзь вядзецца ад імя чалавека "не ў сабе", што выламаўся з асяроддзя па прычыне сваёй непадобнасці да іншых. Гэты герой праходзіць праз выпрабаванні жорсткасцю "правільных людзей" (а ў "Лявоніусе Задумекусе" — налпаў), адчыняе "браму скарбаў сваіх" тым, хто яго не чуе (можа, пачуе калі-небудзь пазней?), шукае сваю жыццёвую прыстань — востраў Патмас. Вакол гэтага героя не экзатычныя, часам смешныя, нейкія "хатнія" "бесы" Пушкіна, а купалаўскія відмы, чорныя і, нарэшце, новастворныя фантазіяй мастака налпы — выніковы "прадукт" не толькі зла, а і бяздушнасці, унутранай акамянеласці. Свет страчвае для такіх герояў сваю цэласнасць і гармонію, уяўляецца ім суцэльным кашмарам. Гэта і ёсць найпершыя прыкметы мастацтва, зарыентаванага на прынцыпы адкрытага постмадэрнісцкага мадулявання, процілеглага класічнаму. Чытаю радкі з апавядання "Што яно?" ("Іх многа. Яны ўсе завуць яго дурным. Уся парахвія. І паны. А ён адзін; з яго сьмяюцца людзі, калі ён гукнець каго дурным. Людзі... іх многа. А яму аднаму няможна зваць іх дурнымі. <...> А ён па-свойму хочэ быць. Па-свойму... А дзеці плююцца і пылам у вочы сыплюць...") і чую другія радкі — са "Скарбаў жыцця", такія ж самыя трагедыйныя па змесце.

Аднак вернемся да размовы пра родава-жанравы сінкрэтызм творчасці М. Гарэцкага... У зборніку "Рунь" вельмі выразна выяўляюцца прыкметы трэцяга класічнага роду літаратуры — драмы. Пра гэта сведчаць ужо "знешнія" прыкметы: з абразкамі, экспрэсіямі, сюжэтнымі гісторыямі стаіць побач "кароткі жалобны абразок" (аўтарская кампазіцыя) "Атрута", у якім паслаблена дзеянне за кошт разгорнутых унутраных маналогаў Дзеда, Ганны, Рамана, даецца разгорнутая рэмарка пра месца дзеяння. Пісьменнік як бы не прызнае "чыстых" прыёмаў эпічнага, лірычнага і драматычнага пісьма, вольна карыстаецца імі. Па гэтай прычыне дыялогавы характар маюць творы "Рунь" (адкрывае кнігу), "У чым яго крыўда?" (закрывае зборнік), тэкст якіх складаецца з перакрыжаваных галасоў аўтара і героя, пададзеных з дапамогай прыёмаў ліставання, дзённікавых запісаў.

Максім Гарэцкі, як і Змітрок Бядуля, адкрываў новы шлях беларускай літаратуры — шлях пераадолення нарматыўнасці класічнай паэтыкі слоўнага мастацтва, а значыцца — мадэрнізму і постмадэрнізму, і тым самым апярэджваў час, супрацьпастаўляў свабоду мастацкіх пошукаў нарматыўнасці рэалізму.

# Пацверджана актыўнай творчасцю

**Адбылося чарговае пасяджэнне Экспертнай камісіі па народным мастацтве, народных промыслах (рамёствах) у Рэспубліцы Беларусь. У выніку чатырнаццаці майстрам быў нададзены ганаровы статус "народны майстар". Прысваенне такога статусу — своеасаблівы адказны экзамен для майстроў. Камісія павінна ўпэўніцца, што майстар і сапраўды аддадзены сваёй творчасці, глыбока дасведчаны ў традыцыях таго ці іншага рамяства, сакрэтамі якога авалодаў з дзяцінства, разам з якім арганічна і натуральна засвоіў усе асаблівасці народнай культуры.**

Яўген САХУТА

Прэтэндэнты на атрыманне ганаровага статусу — не выпадковыя ў культуры людзі. Ткачыхі Тамара Гіль і Ніна Кавалік з Вілейшчыны, як кажуць, выраслі каля кроснаў і ўсё жыццё займаюцца любімай справай, перадаюць эстафету мясцовай моладзі ў Талуцкім доме традыцыйнай культуры. Тое ж можна сказаць і пра Ніну Гарашчэню, майстра-метадыста творчай майстэрні Капыльскага раённага Цэнтра ткацтва пры Ляшнянскім СДК, і пра Марыю Сасонку, якая працуе ткачыхай у Івянецкім музеі традыцыйнай культуры.

Валянціна Кучынская з Салігорска значна маладзейшая за сваіх калежанак, але па дасведчанасці ў традыцыях ткацтва і народнай культуры ў цэлым, па ўзроўні майстэрства ад іх не адстае. Дастаткова згадаць, што на першым абласным свяце-конкурсе ткацтва "Матчыны кросны" ў Старых Дарогах (2000 год) майстрыха злаўчылася выткаць паўтараметровы ручнік — усяго за тры конкурсныя гадзіны!

Пра ганчара Антона Пракаповіча, пэўна, чулі ўсе, хто хоць крыху цікавіцца традыцыйнай культурай. Апошні прадстаўнік старэйшага пакалення івянецкіх ганчароў, якія калісці стварылі і падтрымлівалі славу вядомага ганчарскага асяродка, ён і сёння не кідае спрадвечны занятак, прыводзіць у захапленне гасцей музейна-турыстычнага комплексу "Дудуткі". Наўрад ці саступіць яму і нашмат маладзейшы Іван Раманчук з Лагойска — кіраўнік гуртка керамікі ў мясцовым Доме дзіцячай творчасці, прызёр многіх конкурсаў і фестываляў...

Парупілася пра сваіх майстроў і Віцебшчына, дзе даўно вядзецца актыўная і плённая дзейнасць па адраджэнні многіх ледзь не страчаных набыткаў традыцыйнай культуры. З захапленнем пра свае творчыя набыткі і планы расказвалі ткачыхі Вера Байкова з Глыбокага, Наталля Петухова з Лепеля, Ніна Кудзіна з Домжарыцаў таго ж раёна, браслаўскі лозапляцельшчык Уладзімір Лук'янец, саломапляцельшчыца Марыя Ермаловіч з Глыбокага. Усе яны даўно і паспяхова сцвердзілі сябе на розных выстаўках, конкурсах, фестывалях, актыўнай дзейнасцю ў Беларускім саюзе майстроў народнай творчасці, штодзённай і бескарыслівасцю ў рабоце з моладдзю. Так што статус "народны майстар" — усяго толькі дакументальнае пацвярджэнне іх жыццёвай і творчай пазіцыі.

Пэўна, хтосьці з чытачоў недаўменна падумае: ну і што ж за падзея, вартая артыкула? Майстроў у нас — тысячы, перад усёй Еўропай ганарымся такім нацыянальным набыткам, а камісія на тое і камісія, каб займацца сваёю справаю, у тым ліку і прысваеннем афіцыйнага статусу тым майстрам, хто яго заслугоўвае. Усё так. Але той жа чытач здзівіцца яшчэ больш, калі даведаецца, што на сённяшні дзень афіцыйны статус "народны майстар" маюць усяго… паўсотні майстроў. І гэта — на ўсю Беларусь!

Зазірнём у глыб гэтай праблемы. У 1999 годзе быў прыняты Закон "Аб народным мастацтве, мастацкіх промыслах (рамёствах) у Рэспубліцы Беларусь", у якім народныя майстры афіцыйна прызнаны захавальнікамі і творцамі важнейшай галіны нацыянальнай культуры — традыцыйнага народнага мастацтва, а таму заслугоўваюць усемагчымай падтрымкі з боку грамадства і дзяржавы. Зразумела, тут жа ўзнікла натуральная праблема юрыдычнага вызначэння статусу "народны майстар" і яго надання тым, хто яго варты. Не сакрэт, што ў гэтай галіне народнай мастацкай творчасці шмат нераспбярыхі. Сёння народным майстрам нярэдка лічыць сябе кожны, хто па кніжках ці на якіх-небудзь курсах навучыўся нешта рабіць уласнымі рукамі і чакае (а то і патрабуе) ад грамадства і дзяржавы належнай ацэнкі і рэальнай падтрымкі як носьбіта і прадаўжальніка традыцый нацыянальнай культуры. Дык вось, на гэты конт у Законе сказана канкрэтна: статус "народны майстар" надае экспертная камісія на падставе спецыяльнага "Палажэння аб народным майстры".



Прычына сціплых вынікаў досыць празаічная: дэкларатыўнасць і неканкрэтнасць многіх палажэнняў згаданага Закона. Хоць у ім шмат гаворыцца пра дзяржаўную падтрымку народнага мастацтва і народных майстроў, пра іх асобы статус як творцаў нацыянальнай культуры, але рэальная падтрымка майстроў не прапісана і канкрэтна нішто нікому не гарантуецца.

Сёння механізм пераемнасці традыцый (на ўзроўні сям'і, ад бацькоў да дзяцей) амаль страчаны, маладыя майстры прыходзяць у сферу традыцыйнай культуры пераважна праз розныя "арганізаваныя" формы навучання і не заўсёды ўсведамляюць агульнавядомую ісціну: традыцыйная культура — з'ява сінкрэтычная, ведаць толькі нейкую яе часцінку яшчэ не азначае належнага далучэння да яе. Трэба добра ведаць і тонка адчуваць не толькі тэхналагічныя сакрэты таго ці іншага рамяства, але і ўсё тое, што надае яму нацыянальную ці рэгіянальную адметнасць і самабытнасць: мову народа, яго традыцыі, звычаі, менталітэт...

Мяркую, не трэба чакаць, калі грамадства ўрэшце ўсвядоміць неабходнасць рэальнай падтрымкі народнага мастацтва і народных майстроў. Давайце пакуль што падтрымаем і ўшануем іх хоць бы маральна. Тут зацікаўленасць і клопат павінны праявіць мясцовыя работнікі культуры. У кожным куточку Беларусі знойдуцца сапраўдныя носьбіты і захавальнікі шматвяковых традыцый. Яны ціха і сціпла займаюцца сваёй адвечнай справаю, часта нават не ўсведамляючы, што з'яўляюцца (ці могуць з'яўляцца) гонарам нацыянальнай культуры. Калі нейкае дакументальнае пацвярджэнне такога статусу не надта патрэбнае ім самім, то патрэбнае нам усім, нашай культуры. Няхай такіх тытулаваных майстроў будзе не надта шмат — дзвятры сотні на ўсю Беларусь, але гэта будзе тая творчая эліта, чый статус у грамадстве павінен быць асаблівым, той эталон, на які павінна раўняцца моладзь. А там, глядзіш, дойдзем і да ўсведамлення неабходнасці іх канкрэтнай падтрымкі, рэальнага клопату пра важнейшую галіну нацыянальнай культуры.

***На здымку: ганчар Іван Раманчук.***

**Дарадцам і консультантам рубрыкі "Дзівасвет" выступае старшыня БСМНТ Яўген Сахута.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**



# Словы развітання

Трагедыя, што адбылася ў мінскім метро, ускалыхнула ўсю краіну. Агульнаграмадскі боль склаўся з трагедый асобных людзей. Так, многіх чорнае крыло болю зачапіла і асабіста. Страта і ў нашым калектыве рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва". У той ракавы момант на станцыі метро "Кастрычніцкая" знаходзілася супрацоўніца РВУ Галіна Іванаўна Пікулік. Светлай душы чалавек, прыязная да ўсіх, сціплы і абавязковы работнік.

Выказваючы спачуванне яе родным, у першую чаргу — сыну Ігару Аляксандравічу Пікуліку, мы горка смуткуем разам з імі. Цяжка знайсці патрэбныя словы, якімі можна выказаць непамерную жалобу з гэтай страшнай нагоды. Цяжка будзе, гледзячы на яе, Галіны Іванаўны, фотаздымак, успамінаючы яе воблік, думаць пра страту чалавека, які меў несумненнае права жыць шматкрат даўжэй, радаваць сваіх родных і блізкіх.

Бывай, дарагая Галіна Іванаўна! Мы будзем помніць цябе! Развітваючыся з табою, верым і спадзяёмся, што такія жахлівыя трагедыі будуць мінаць нашу краіну, наша грамадства, усіх, хто прыходзіць у свет дзеля радасці і сцвярджэння жыцця!

**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе з выпадку трагічнай смерці супрацоўніцы рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" ПІКУЛІК Галіны Іванаўны і выказвае спачуванні яе родным і блізкім.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі шчыра спачувае родным і блізкім і глыбока смуткуе з выпадку смерці супрацоўніцы РВУ "Літаратура і Мастацтва" ПІКУЛІК Галіны Іванаўны.**

**Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" глыбока смуткуе з прычыны трагічнай смерці ПІКУЛІК Галіны Іванаўны і выказвае спачуванні начальніку аддзела маркетынгу Ігару Аляксандравічу Пікуліку ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю МАЦІ.**

## Афарызм

*Нішто не знікае з таго, чаму нельга знікнуць.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



**Адрас рэдакцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Наклад — 3041
Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк 14.04.2011 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7

Заказ — 1749

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686